+тэлепраграма

№ 45 (307) 6 сьнежня 2002 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у пятніцы

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

## У НУМАРЫ

### Зручны сьцяг

Беларусь можа ператварыцца ў "афшорную зону" марскога гандлю. Старонка 5.

### Фальшывая гісторыя


IREX-PROMEDIA

Пэдунівэрсытэт сьвяткуе фальшывы юбілей. "Але хіба *ім* што дакажаш?" — сказаў Аляксандар Падабед. Старонка 7.

### Вітаўтас Ландсбэргіс: "Пэрсона мусіць зьмяніцца"

"Аляксандар Лукашэнка мае сёньня апошнюю магчымасьць захаваць сваю рэпутацыю як палітыка — рызыкнуць уладай і абвясьціць дэмакратычныя выбары ў парлямэнт, якія б прызналі незалежныя эўрапейскія назіральнікі. У адваротным выпадку яго скінуць з палітычнай сцэны як дыктатара", — заявіў Вітаўтас Ландсбэргіс у гутарцы з карэспандэнтам "НН". Але, паводле ацэнкі літоўскага палітыка, галоўнае, што пастаўлена цяпер на карту, — не асабістая ўлада Лукашэнкі, а захаваньне беларускай дзяржаўнасьці; тыя ж сілы, што імкнуцца скінуць А.Лукашэнку любымі сродкамі, найменш рупяцца пра захаваньне незалежнасьці, якой "могуць лёгка ахвяраваць дзеля таго толькі, каб пазбыцца дыктатара". Старонка 6.

### Гутарка з Імрэ Кертэсам

"Аўшвіц – маё багацьце. О, незабыўная блізіня сьмерці!". Старонка 14.

### Проста Прушынскі

Аляксандар Прушынскі 10 гадоў таму прыехаў з Канады ў Беларусь, каб стаць яе прэзыдэнтам. Ён кажа, што ведае, як здабыць для краіны 5 млрд. даляраў. Аднак і апазыцыя, і ўлада аднолькава падазрона глядзяць на экстравагантнага палітыка. Прушынскага нават хацелі забіць — падклалі бомбу-электрабрытву ў паштовую скрынку. Прынамсі, так кажа сам Прушынскі. За мяжой ён двойчы быў жанаты, тут узяў шлюб у трэці раз. "Маладая сям'я" чакае дзіця. Калі яно народзіцца, тату стукне 69 гадоў. Карэспандэнт "НН" гутарыць з графам Аляксандрам Прушынскім. Старонка 11.


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

# Свой між чужых, чужы між сваіх

**У Японіі зьявіўся прэтэндэнт на пасаду прэзыдэнта Беларусі. Наш былы пасол у гэтай краіне Пятро Краўчанка нечакана распачаў сваю палітычную гульню. Ён абвясьціў пра неабходнасьць зьяўленьня ў Беларусі "новай апазыцыі" і пра свае прэзыдэнцкія амбіцыі. Аднак ні ўлада, ні апазыцыя яму не паверылі.**

У нядзелю, 1 сьнежня, расейскія тэлеканалы распаўсюдзілі сэнсацыйную вестку: у Токіё зьнік беларускі пасол Пятро Краўчанка. Пасол, уласна, быццам — ён ужо "сядзеў на валізах", чакаючы вяртаньня дахаты. З кожнай гадзінай дадаваліся ўсё новыя і новыя дэталі: нібыта нехта бачыў, як Краўчанка ўваходзіў на тэрыторыю амэрыканскага пасольства, нібыта ён адмаўляецца ад кантактаў з МЗС...

2 сьнежня прэсавая служба МЗС Беларусі распаўсюдзіла заяву, у якой пацьвярджалася, што П.Краўчанка "ня выканаў распараджэньня Міністэрства замежных справаў і не вярнуўся дамоў, а зьнік разам з чэкавай кніжкай, ключамі ад пасольства ды іншымі матэрыяламі". Выпадак беспрэцэдэнтны ў сусьветнай дыпляматыі. У вечаровых навінах АНТ Аляксандар Фядута сказаў, што калі гэта праўда, дык П.Краўчанка "зьдзейсьніў злачынства". Калі яшчэ Надзвычайнаму і Паўнамоцнаму паслу "шылі" крымінал?

Праўда, паводле "*Газеты.ru*", у беларускім пасольстве ў Токіё паведамілі, што пасол нікуды не зьнікаў, а рыхтуецца да выезду на Бацькаўшчыну. Гэта пацьвердзіла і МЗС Японіі, дзе Краўчанка пабываў раніцай у панядзелак з дакладам пра складаньне паўнамоцтваў.

Але хтосьці быў зацікаўлены ў гэтым скандале. У панядзелак у інтэрвію радыё "Свабода" кіраўнік цэнтру інфармацыі і грамадзкіх сувязяў КДБ Хведар Котаў, камэнтуючы сытуацыю з Краўчанкам, з мэталам у голасе зазначыў: "У нашай краіне заўжды хапала пярэваратняў". На наступны дзень у размове з карэспандэнтам "НН" ён адмаўляўся ад сваіх словаў. Зразумела: сытуацыя ж зьмянілася.

Міністэрства замежных справаў ад сваёй заявы не адмовілася. У новым афіцыйным паведамленьні МЗС абвесьціла, што пасол знайшоўся, але ў Беларусь ехаць ня хоча. Расейскія электронныя СМІ паведамілі, што Краўчанку на ягонай кватэры наведаў трэці сакратар пасольства Беларусі, са слоў якога стала вядома, што ён адмаўляецца "здаць дакумэнты пасольства і вярнуцца на радзіму". Больш таго, сьцьвярджалася, што ня Краўчанка, а іншы беларускі дыплямат наведаў у панядзелак МЗС Японіі з камэнтарамі наконт статусу і паводзінаў Краўчанкі. У адным згодныя і радыё "Свабода", і П.Латушка, і карэспандэнт ІТАР-ТАСС: ніякіх палітычных патрабаваньняў у Краўчанкі няма, а ўсе паведамленьні пра яго нібыта ўцёкі ён называе "палітычнай правакацыяй". Сытуацыя заблытваецца, а П.Краўчанка маўчыць...

#### Канчатковы дыягназ

Неўзабаве замест Краўчанкі-злодзея расейскія СМІ пачынаюць ствараць вобраз Краўчанкі-хворага. Гаворка йдзе пра "перадынфарктны стан і вельмі высокі ціск". Аднак спачатку было незразумела, якія лекары паставілі такі дыягназ. "Інтэрфакс" паведамляе, што Краўчанка быў на мэдагглядзе ў расейскіх кардыёлягаў у Токіё, прасіў даць яму даведку, што ён хворы і яму небясьпечна ляцець у Менск. Расейцы хваробы не знайшлі і даведку даць адмовіліся. На далейшае абсьледаваньне П.Краўчанка ня меў часу — яго чакаў шэраг пратакольных мерапрыемстваў. Тым часам, перадынфарктны стан Краўчанкі пацьвердзілі японскія мэдыкі, і гэтую даведку ён прадэманстраваў расейскім журналістам. Ім былы пасол сказаў, што першапачаткова плянаваў вярнуцца на радзіму ў канцы сьнежня, а цяпер думае, што гэта адбудзецца раней, нягледзячы на забарону японскіх мэдыкаў на авіяпералёты.

#### Скрадзены рукапіс

У аўторкавым інтэрвію радыё "Свабода" Краўчанка нечападзявана паведаміў пра свой магчымы ўдзел у прэзыдэнцкіх выбарах 2006 г., але паставіў яго ў залежнасьць ад стану здароўя ды "адпаведнай спрыяльнай палітычнай атмасфэры".

Яшчэ ў нядзелю расейскія СМІ паведамілі, што ўвечары 30 лістапада Краўчанка наведаў амэрыканскае пасольства ў Токіё. Казалі, што ён будзе прасіць палітычнага прытулку. Аднак спачатку амэрыканскі бок, а потым і сам П.Краўчанка абверглі чуткі пра той візыт.

Працяг на старонцы 3.

# Гэты — не запросіць, наступны — магчыма

**У працяг артыкулу "Апазыцыю — ва ўрад" у нумары ад 22 лістапада хачу сказаць наступнае. Пытаньне, ці запросіць Лукашэнка лідэраў апазыцыі ва ўрад, абстрактнае, калі казаць пра лідэраў нацыянальнае дэмакратыі, якія ня лічаць, што ў Эўропу Беларусь пойдзе праз Расею. Такіх лідэраў Лукашэнка ва ўрад ніколі не запросіць.**



Па-першае, ён разумее галоўную аксіёму аўтарытарнай улады і бачыць на прыкладзе Гарбачова: калі саступіць апанэнтам кавалачак тэрыторыі, тыя імгненна ператвораць яго ў пляцдарм для наступу. Прыклад з экс-старшынём міжнароднай парлямэнцкай камісіі Вярхоўнага Савету XIII скліканьня Краўчанкам ці віцэ-спікерам ВС-XIII Новікавым, якія пайшлі на дыпляматычную службу, тут не пасуе: у гэтых — доўгая чынавенская вывучка. Ім звыкла прыхоўваць уласную пазыцыю, ці, лепш сказаць, у пэўны момант нямець гэтай пазыцыі. А ўявіце сабе Юрася Беленькага, Вячаслава Сіўчыка ці Паўла Севярынца, якія б хавалі сваю пазыцыю. Ніякіх саступак — гэты ўнівэрсальны прынцып дыктатураў.

Па-другое, ці можаце вы ўявіць сабе два вось такія Лукашэнкавы тэлефанаваньні, адзін у Варшаву, другі ў Нямеччыну:

"Зянон Станіслававіч? Слухай, я вырашыў зьмяніць курс. Трэба ліквідаваць расейскія базы ў Вялейцы і ў Ганцавічах — ці выставіць за іх Маскве рахунак. каб "па-чэснаму". Абсталяваць нармальную мяжу на Ўсходзе, і хай гэтыя 250 тысяч нелегалаў застануцца па той яе бок. У ценявым кабінэце БНФ вы з Заблоцкім тады падлічылі, што становучае сальда з Расеяй у нас з улікам транзыту можа быць колькі? 2 мільярды даляраў? А то мае тут дакладаюць, што толькі мільярд. Бачыш — усё, як ты прапаноўваў. Прашу тваёй дапамогі, карацей. У інтарэсах, як ты любіш казаць, Бацькаўшчыны. Даю любую пасаду і рабі, што палічыш патрэбным. А хочаш, увогуле пасады не бяры — парады давай. А праз два гады правядзём выбары. Так што бяры білет на першы ж авіярэйс, а пашпарт у амбасадзе ўжо выпісаны".

"Васіль Уладзімеравіч? Галоўны рэдактар, які рассыпаў набор Вашай кнігі, сёньня зволнены. Скобелеў таксама больш не працуе ў Адміністрацыі прэзыдэнта, высыпятка далі й Сеўруку. Кнігі якіх маладых аўтараў, на Ваш погляд, мы павінны былі б датаваць у першую чаргу"?

Адмову ад такой прапановы Пазьняку прыйшлося б доўга тлумачыць нават самым адданым сваім прыхільнікам, а размова з Быкавым (пры любых выніках) магла б істотна зьмяніць стаўленьне інтэлігенцыі да Лукашэнкі.

Але Лукашэнка папросту ня здатны на неардынарныя крокі (калі гэта толькі не сілавы прыём).

І, па-трэцяе, сьведчу як чалавек, які добра ведаў Лукашэнку па Вярхоўным Савеце XII скліканьня і назіраў у розных сытуацыях — спачатку як дэпутата, потым як прэзыдэнта (праўда, не размаўляў зь ім ужо гадоў сем, але ня думаю, каб нешта зьмянілася). Лукашэнка арганічна не ўспрымае Беларушчыны ў яе культурным, моўным і гістарычным сэнсе. Ён рэагуе на яе агрэсіўна-варожа — можна бясконца пералічваць зьедлівыя выказваньні і пра беларускую мову, і пра Аршанскую бітву, і пра бел-чырвона-белы сьцяг, і пра Незалежнасьць, і пра Віскулі. Ён лічыць беларусаў часткай расейскага народу ("*мы единый народ*"), а Беларусі ня ўсьведамляе незалежнай краінай.

Калі б Адамкусу прапанавалі далучыць Расею да Літвы з гарантаванай пасадай прэзыдэнта новай дзяржавы, ён бы адмовіўся. Ён бы нават не зразумеў, пра што гаворка. яму хапае Літвы. Для Лукашэнкі ж галоўная пасада ў Маскве застаецца ідэяй фікс, і краіну Беларусь ён разглядае як прыступку да крэсла. У момант пагрозы згубіць гэтую пасаду інтарэсы яго і нацыянальнай апазыцыі ў дачыненьні да дзяржаўнасьці і беларускасьці могуць супасьці. Але выпадак з "Белтрансгазам" яшчэ раз пацьвярджае, што Лукашэнка ня можа "трымаць удар".

Таму чакаць, што ён запросіць "адраджэнцаў" для ўмацаваньня нейкіх беларускіх, нацыянальных каштоўнасьцяў — наіўна.

Але Лукашэнку можа замяніць нехта іншы (зусім ня зь ліку цяперашніх лідэраў апазыцыі). І вось гэты іншы, можа, сапраўды зробіць такую прапанову — хоць бы таму, што будзе разумець тое, чаго не разумелі ні Кебіч, ні Лукашэнка: з апанэнтамі варта дамаўляцца. А дзеля гэтага трэба падзяліцца хоць часткай улады.

Так існуюць практычна ўсе эўрапейскія ўрады і няблага кіруюць краінамі, і прэзыдэнты-прэм'еры пры гэтым пачуваюць сябе камфортна. У такой сытуацыі дзеячам апазыцыі, верагодна, давядзецца сыходзіць не з партыйных, а зь дзяржаўных інтарэсаў.

Мой калега Юры Дракахруст ня бачыць пасады для Анатоля Лябедзькі ці Вінцука Вячоркі. Не пагаджуся — Лябедзька мог бы прадстаўляць Беларусь у нейкай міжнароднай арганізацыі (быў жа пры Кебічу—Шушкевічу амбасадарам у Нямеччыне Пётра Садоўскі, ніяк не выяўляючы на гэтай пасадзе сябе як дэпутат Апазыцыі БНФ). Праўда, ня ведаю, у якой ступені Лябедзька валодае замежнымі мовамі. А вось што да Вячоркі, дык цяжка знайсьці лепшага кандыдата на пасаду міністра адукацыі. І ня толькі паводле якасьцяў мовазнаўцы, але і з прычыны ўсьведамленьня Вячоркам прыярытэтаў сыстэмы адукацыі ў сучасным эўрапэйскім кантэксьце.

Наагул, ёсьць дзьве сфэры дзейнасьці, на якія цяперашнія апазыцыянэры маглі б пагадзіцца пры любым прэзыдэнце, хоць бы нават і пры Лукашэнку: гэта адукацыя і культура, уключна з кнігавыдавецтвам (не называю СМІ — не прапаную). Існуе пашыранае меркаваньне, што Кебіч прапаноўваў аддаць адукацыю і культуру Пазьняку. Ён гэтага не рабіў, але праз камісіі Вярхоўнага Савету апазыцыя БНФ дзякуючы намаганьням дэпутатаў Гілевіча, Баршчэўскага, Трусава, Цумарава, Вярцінскага, Голубева правяла рэформы, якія спрыялі выхаваньню цяперашняга пакаленьня ў беларускім духу. Гэтыя сфэры — лёсавызначальныя для нацыі, і ісьці працаваць у Міністэрства адукацыі, культуры, Дзяржкамвыд трэба, нягледзячы на тое, што фінансаваньне гэтых галінаў будзе мінімальным.

А вось на што абсалютна могуць не зважаць прэтэндэнты на пасады, дык гэта на папрокі за ўдзел ва ўрадзе. Ізноў жа не пагаджуся з Дракахрустам, які кажа, што гэта "перакрэсьліць іх як палітыкаў". Гэта ў ЗША, у Нямеччыне, у Чэхіі рэпутацыя вызначае палітычную будучыню. У Беларусі яна нічога не вызначае і важыць вельмі мала. Хто сёньня прыгадвае, што ў 1994 г. Лябедзька быў "дарадцам Лукашэнкі" (так у афіцыйным тэлефонным даведніку), ягоным прадстаўніком у ВС і дамагаўся прыняцьця законаў пра "вэртыкаль", блякаваў законапраект выбараў па зьмешанай прапарцыйна-мажарытарнай сыстэме (г.зн. з партыйнымі сьпісамі, што на выбарах 1995 г. гарантавала б БНФ мінімум 20 мандатаў)? Сёньня Лябедзька — прызнаны лідэр аб'яднанай апазыцыі. Ва ўрадзе Лукашэнкі быў Сасноў, у МЗС працаваў Саньнікаў, ды што казаць — прэм'ерам быў адзін зь "пяцёркі" кандыдатаў на прэзыдэнцкіх выбарах ад апазыцыі Чыгір. А другі — Казлоўскі — быў міністрам пры Кебічу. А Гančарык — чальцом Бюро ЦК КПБ пры Сакалову. Домаш быў губэрнатарам пры Кебічу. Вось толькі Калякін вышэй за сакратара райкаму КПБ не пасьпеў. Сярод цяперашніх лідэраў апазыцыі цяжка знайсьці чалавека, які не працаваў у тых, каго апазыцыя лічыла альбо лічыць сваім галоўным ворагам.

**Сяргей Навумчык, Прага**

## Зьмей балдуцкі

**Прачытаў у "НН" ад 29 лістапада артыкул Алеся Высоцкага "Балдук і Балдучыха". Справа ў тым, што вельмі часта бываю ў тых цудоўных мясьцінах. Амаль штолета начую на паўднёвым беразе возера Балдук, а на паўночным беразе, непадалёк ад возера, разьмясьцілася вёска Вайшкуны, гэта на мяжы Мядзельскага і Пастаўскага раёнаў. Сустракаючыся з жыхарамі гэтай вёскі, пачуў ад людзей адзін аповед пра возера.**

Шмат хто чуў ці чытаў пра вядомую шатляндзкую пачвару Нэсы. Дык вось, напэўна, у яе зьявіўся канкурэнт, а можа, і родзіч. Жыхары вёскі Вайшкуны расказваюць, што мінулым летам бачылі гіганцкую незвычайную істоту, якая некалькі разоў уздымала над вадой сваю велізарную галаву. Відавочцы параўноўваюць яе з галавой дыназаўра ці агромністага зьмея. Некаторыя ўпэўнена сьцьвярджаюць, што гэта зьмей, які мае даўжыню каля сямі мэтраў і жыве ў глыбокіх норах на дне возера. У яго парobленыя падземныя хады, па якіх ён перапаўзае з Балдука ў суседнія азеры гэтай групы. Але яму больш падабаецца роднае возера, бо там ёсьць дзе разгуляцца. І хаця гэта возера ня вельмі вялікае па плошчы — 2,0 км на 0,7 км, але затое глыбіня там проста шалёная — 39,7 мэтраў, прытым вялікая глыбіня назіраецца па ўсей даўжыні возера.

Вельмі доўга ня могуць заснуць вандроўнікі, калі пачуюць гэты аповед. А раніцой зь вялікай асьцярогай падыходзяць да возера. Сапраўды, таямнічыя гукі даносяцца адтуль цэлую ноч, але мне не давялося бачыць пачвару на свае вочы.

**Бярнард Пакульніцкі, Буйкі**

## Лыжка дзёгцю на сустрэчы з Джэксанам

**У Цэнтры IBB 2 сьнежня выступаў прэзыдэнт амэрыканскага камітэту па NATO палітоляг Брус Джэксан.** І невядома чаму ўся наша палітычна-журналісцкая тусоўка ад сп.Трусава да сп.Саньнікава задавала яму пытаньні па-расейску. Ад чаго гэта? Ад няўпэўненасьці ў дарэчнасьці свайго пытаньня або няўпэўненасьці ў палітычнай карэктнасьці амэрыканскага пасольства? Бо сп.Джэксан не даваў ніякіх нагодаў лічыць, што ён разумее па-расейску.

Паважаныя паны, сьвядома ці не, прынялі правілы гульні некаторых каляпалітычных "тусоўшчыкаў" ды пагадзіліся з тэзаю аб тым, што беларуская мова — для собскага ўжытку, што ёй ня варта гаварыць з замежнікамі, бо гэта стварае праблемы для перакладчыка. Няўжо вы, панове, ставіце пад сумнеў кваліфікацыю перакладчыка амбасады самай магутнай у сьвеце краіны, якая заўседы была пасьлядоўнай прыхільніцай беларускіх дэмакратычных сілаў? Ці слоган "Размаўляй са мной па-беларуску" ўжо больш не актуальны? Ці ен — толькі для ўнутранага ўжытку?

**Алесь Лагвінец, Менск**

* * *

**У апошняй "НН" апублікавана рэфлексія Данілы Жукоўскага, у якой выказваецца жаль з нагоды зьнікненьня часопісу "ARCHE–Скарына".** Ляйтматыў зацемкі такі, што зьнікненьне гэтага органу крытычнага мысьленьня зрабіла беларускую інтэлігенцыю бяднейшай для самарэалізацыі, а таму шкоднае. Пагатоў што на зьмену зубастаму "Скарыне" прыйшлі "саладжава-папсовыя" "Дзеяслоў" і "ARCHE" ў новай канцэпцыі.

З усёй пэўнасьцю трэба сказаць: за тым, што тонкі "ARCHE-Скарына" сёлета расчыніўся ў тоўстым "ARCHE", стаяць ня прошукі зловарожых сілаў, а вымогі выдавецкага рынку. Кароткі век "Скарыны" выйшаў таму, што на яго традыцыйна быў горшы попыт, чым на "тоўстыя нумары", а рэдакцыйны партфэль быў танчэйшы, чымся на яго большага пабрацімца. Выжывае тое, што лепш прадаецца і куды ахвятней пішуць аўтары.

"Скарына" ўвесь ня зьнік, а пераўвасобіўся ў абноўленым "ARCHE". Чалавек празарлівы ўбачыць гэта голым вокам. Досыць зірнуць на тэмы і праблемы, узьнятыя ў нашым наступным нумары, які выйдзе ў сьнежні.

**Валер Булгакаў, галоўны рэдактар "Arche"**

## Зварот аргкамітэту па скліканьні Сходу беларускай інтэлігенцыі "Незалежная Беларусь — свабоднае і заможнае грамадзтва"

Шаноўныя суайчыньнікі!

Спрадвечным пакліканьнем інтэлігенцыі было і ёсьць асэнсаваньне ходы падзей і вызначэньне найбольш аптымальных шляхоў разьвіцьця чалавечай супольнасьці. У краінах, дзе інтэлігенцыя мае належнае прызнаньне, дзе яе ідэі і прапановы былі пачутыя, даўно дасягнуты адпаведны ўзровень жыцьця, створаны ўмовы, пры якіх кожны можа максымальна рэалізоўваць свае здольнасьці і атрымліваць за працу ўзнагароду, дастатковую для таго, каб карыстацца ўсімі здабыткамі навукова-тэхнічнага прагрэсу.



Трэба знайсьці мужнасьць і прызнаць, што сёньняшняе нездавальняючае становішча нашага грамадзтва склалася ў пэўнай меры і таму, што мы, інтэлігенцыя, не выконваем належным чынам сваёй адказнай гістарычнай місіі. Гэтаму можна знайсьці шмат тлумачэньняў, можна прывесьці шэраг аб'ектыўных прычын, але ўсім нам неабходна зразумець, што ніхто ня зробіць за нас справу, якую лёсам наканавана зрабіць менавіта нам.

Востра насьпела неабходнасьць вызначыцца па шэрагу неадкладных, жыцьцёва важных для Беларусі праблемаў.

— Што трэба рабіць для захаваньня нацыянальнай тоеснасьці беларусаў і дзяржаўнага сувэрэнітэту нашай краіны?

— Якім належыць быць дзяржаўнаму ладу Беларусі?

— Якім павінна быць месца Беларусі сярод краінаў Эўропы і сусьветнай супольнасьці?

— Як прадухіліць рэальную пагрозу эканамічнага і энэргетычнага крызысу?

— Якія захады неабходна зрабіць дзеля ратаваньня нацыі ад вынікаў Чарнобыльскай катастрофы, а таксама дэмаграфічнага крызысу?

— Якой ёсьць роля Беларусі ў працэсах глябалізацыі?

— Што трэба зрабіць, каб кансалідаваць беларускую інтэлігенцыю і надаць ёй належную ролю ў грамадзтве?

Мы зьвяртаемся да тых, хто ўсьведамляе сваю прыналежнасьць да Беларускай Інтэлігенцыі. Хто адчувае боль і адказнасьць за лёс нашай краіны і нашага народу, хто асэнсоўвае працэсы, якія адбываюцца ў Беларусі і каму ёсьць што сказаць і што прапанаваць, каб павярнуць нашу краіну на шлях станоўчага, пэрспэктыўнага разьвіцьця. Мы заклікаем усіх, хто працуе на ніве навукі, культуры, адукацыі, мэдыцыны, прадпрымальніцтва, у іншых сфэрах нашага жыцьця: зьбірайцеся на сходы, каб абмеркаваць сытуацыю, якая склалася сёньня ў нашай краіне, прапаноўвайце свае ідэі і вылучайце дэлегатаў на Сход беларускай інтэлігенцыі, які адбудзецца ў Менску пры канцы студзеня 2003 году.

Неабходна, каб наш Сход адбыўся як сапраўдны форум нацыянальнай інтэлігенцыі і дапамог нам нарэшце адчуць нашу еднасьць і салідарнасьць, скансалідаваць нашы намаганьні дзеля таго, каб ясна і цьвёрда выказаць нашу думку народу Беларусі, афіцыйным уладам, палітычнай апазыцыі і ўсяму сьвету.

**Сябры рабочай групы аргкамітэту па скліканьні Сходу беларускай інтэлігенцыі "Незалежная Беларусь — свабоднае і заможнае грамадзтва"**

**Анісім Алена, Акаловіч Леанід, Вярцінскі Анатоль, Гутман Якуб, Іпатава Вольга, Кароль Аляксей, Колас Уладзімер, Конан Уладзімер, Купава Мікола, Мазынскі Валеры, Марачкін Аляксей, Сідаровіч Зьміцер, Трусаў Алег, Чарняўскі Міхась**

# Свой між чужых, чужы між сваіх

Працяг са старонкі 1.

Зьявіліся розныя вэрсіі. Напрыклад, што амэрыканцы, добра ведаючы палітычныя "зыгзагі" Краўчанкі, адмовілі яму ў прытулку. Або — Краўчанка быў у пасольстве, але не прасіў палітычнага прытулку. Сам ён у аўторкавым інтэрвію радыё "Свабода" абвінаваціў у распаўсюдзе плётак блізкае да адміністрацыі А.Лукашэнкі агенцтва "Інтэрфакс-Захад" ды падаў сваю вэрсію паходжаньня гэтай "правакацыі". У сярэдзіне лістапада ў яго зьнік дзёньнік амбасадара, дзе "былі розныя ацэнкі палітычных падзеяў, якія адбываюцца ў Беларусі", а таксама рукапіс кнігі "Беларусь на пераломе — геапалітычны выбар Беларусі", якая рыхтавалася да выданьня. У апошняй былі "вострыя палітычныя ацэнкі" дзейнасьці палітыкаў, у тым ліку і прэзыдэнта. Краўчанка дапускае, што "нехта зь імі мог азнаёміцца і вось выклікаць такі палітычны рэзананс".

Хведар Котаў у размове з карэспандэнтам "НН" сказаў наступнае: "Тут няма ніякай палітыкі. Краўчанка ня едзе ў Беларусь па мэдычных і асабістых матывах, а не палітычных".

Дык няўжо П.Краўчанку могуць пакараць за ягоную "пісьменьніцкую творчасьць"? Ці, можа, ёсьць нейкія іншыя прычыны? Ня выключана, што хтосьці мог "зьліць" яму інфармацыю, што ў Беларусі рыхтуецца яго арышт, узбуджана крымінальная справа, вось ён і запанікаваў... А мо П.Краўчанку проста не спадабаўся прапанаваны варыянт з працаўладкаваньнем. Паводле словаў прафэсара **Адама Мальдзіса**, Краўчанка мог стаць дырэктарам Нацыянальнай бібліятэкі. "Гэта прэстыжна. У той жа Польшчы намесьнік міністра культуры ўзначаліў Нацыянальную бібліятэку. Хаця я ня бачу прычыны зьмяняць ранейшага кіраўніка", — кажа Мальдзіс. **Уладзімер Глод** у "Народнай волі" адзначае, што наўрад ці Краўчанка пагадзіўся б на такі варыянт, хоць у яго адна з найлепшых у Беларусі прыватных бібліятэк. Па іншай вэрсіі, Краўчанка мог бы ўзначаліць Скарынаўскі цэнтар ды пераўтварыць той у Інстытут Беларусі.

Ня выключана, што прычынай усіх бедаў Пятра Кузьміча сталіся ягоныя прэзыдэнцкія амбіцыі, пра якія даведаліся ў Менску. І Краўчанку вырашылі скампрамэтаваць, выставіўшы злодзеем і здраднікам. Гэты эпізод біяграфіі можна было б выкарыстоўваць прапагандыстам падчас будучых выбараў.

АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

**Вячаслаў Кебіч: "Якім Пятро быў каньюнктурным чалавекам, такім і застаўся".**

### Каньюнктурны нацыянал-камуніст

**Уладзімер Палупанаў**, былы калега П.Краўчанкі па МЗС і першы беларускі дыплямат-невяртанец, які цяпер жыве ў Парыжы, свайго шэфа ня бачыў ужо 5 гадоў: "Краўчанка — гэта трагічная асоба. Ён працаваў у структуры і выконваў тое, што яму загадвалі. Зь іншага боку, Краўчанка — заснавальнік Міністэрства замежных справаў незалежнай Беларусі. І мяне ён на працу браў як "беларускага хлопца".

Менавіта пры Краўчанку Беларусяй быў зроблены першы крок у Эўропу — пададзеная заява ў Раду Эўропы. Некаторыя згадвалі, зь якім імпэтам П.Краўчанка, сакратар гаркаму партыі, у канцы 1980-х змагаўся з прыхільнікамі адраджэньня нацыянальнай сымболікі... А яшчэ Краўчанку закідалі тое, што ён занадта шмат на сябе браў. Ініцыяваў пошукі Крыжа Эўфрасіньні Полацкай, езьдзіў у амэрыканскую фундацыю Моргана, дамогся ўсталяваньня помніка Скарыну ў Празе, актыўна кантактаваў зь беларускай эміграцыяй. Адам Мальдзіс пэўны, што "перакананьні ў Краўчанкі засталіся ранейшымі" і зь яго мог бы атрымацца добры нацыянал-камуніст, накшталт Квасьнеўскага ў Польшчы альбо Бразаўскаса ў Літве.

Камэнтуючы прэзыдэнцкія амбіцыі П.Краўчанкі, Палупанаў гаворыць, што "ён далёка ня горшы за Лукашэнку як асоба і як палітык". Краўчанка, маўляў, "мог бы быць прэзыдэнтам", бо мае для гэтага "неабходны багаж — і інтэлектуальны, і адміністрацыйны".

Былы начальнік Краўчанкі ва ўрадзе **Вячаслаў Кебіч** даў яму кароткую характарыстыку: "Якім Пятро быў каньюнктурным чалавекам, такім і застаўся".

Працяг на старонцы 4.

**Пятро Краўчанка нарадзіўся ў 1950 г. у Смалявічах. Выпускнік, выкладчык БДУ, кандыдат гістарычных навук. У 1985—90 г. працаваў загадчыкам аддзелу прапаганды й агітацыі, а пасьля — сакратаром Менскага гаркаму партыі. У 1990 г. ачоліў Міністэрства замежных справаў БССР ды працягваў ім кіраваць ужо ў незалежнай Беларусі — да 1994 г. Быў дэпутатам Вярхоўнага Савету XII і XIII скліканьня, у 1996 г. кіраваў парлямэнцкай камісіяй па міжнародных справах. Да прызначэньня 20 студзеня 1998 г. Надзвычайным і Паўнамоцным паслом у Японію П.Краўчанка пасьпеў папрацаваць старшым навуковым супрацоўнікам у Акадэміі навук, быў экспэртам Нацыянальнага цэнтру стратэгічных ініцыятываў "Усход—Захад".**



IREX-PROMEDIA

## тыдзень нашага жыцьця

### Любіць ня любіць

**Аглядальнік UPI лічыць, што Лукашэнка на тым тыдні, падчас сустрэчы ў Маскве з расейскім прэзыдэнтам Пуціным, фактычна пагадзіўся на далучэньне Беларусі да Расеі.** А Лукашэнка ў аўторак і сераду двойчы сустрэўся з дэлегацыяй амэрыканскіх кангрэсмэнаў і гучна заявіў пра "новую эру ў беларуска-амэрыканскіх адносінах". Не, далібог, замежнапалітычны курс Беларусі мяняецца намнога часьцей, чым ветрык у маі.

### Суд у Воршы

**Аршанец Юры Конышка судзіцца з тамтэйшай тэлекампаніяй "Скіф".** Ён падаваў платную аб'яву пра шэсьце на Дзяды, а яе не паказалі. Цяпер ён хоча спагнаць з кампаніі грошы за аб'яву і кампэнсацыю за маральныя страты. Традыцыйна шэсьце йдзе да Кабыляцкай гары, дзе ў часе сталінскіх рэпрэсіяў былі расстраляныя некалькі сотняў чалавек. Паводле назіраньняў гледачоў, за ўвесь час існаваньня "Скіфу" ў этэр не было прапушчана ніводнай аб'явы па-беларуску. Раней гэта тлумачылася адсутнасьцю беларускамоўных дыктараў.

### Усім неабыякавым

**Зінаіда Ганчар, Ульляна Захаранка, Вольга і Сьвятлана Завадзкія ды Ірына Красоўская заклікалі ўсіх неабыякавых людзей 10 сьнежня,** у Міжнародны дзень правоў чалавека, сабрацца а 12-й на менскай Кастрычніцкай плошчы, каб яшчэ раз нагадаць уладам пра зьніклых людзей. Жанчыны мяркуюць, што заклік не супярэчыць закону, і не зьвярталіся ў гарвыканкам па дазвол.

### Сомы і "боты"

**Парлямэнтары братняй нам Кіргізіі ўзаконілі "водкуп" ад службы ў войску.** Каштаваць гэта будзе 25 тыс. сомаў (трохі больш за мільён рублёў).

### Біскуп нелегальна-мігранцкі

**Кіраўнік украінскае грэка-каталіцкае царквы кардынал Любамір Гузар выправіць у Італію біскупа,** які будзе апекавацца ўкраінскімі нелегальнымі імігрантамі. На ягоную думку, іх колькасьць можа дасягаць мільёна.

**Б.Т.**

# Свой чалавек у камісіі

**У склад камісіі па апытаньнях грамадзкай думкі пры Акадэміі навук разам з урадавымі сацыёлягамі ўвайшоў Леанід Міхейчыкаў зь БелаПАН. Кіраўнік НІСЭПД Алег Манаеў ад такога гонару адмовіўся.**

Створаная камісія была пастановай Савету Міністраў яшчэ 31 траўня для "удасканаленьня ўмоваў правядзеньня і апублікаваньня апытаньняў грамадзкае думкі, якія адносяцца да грамадзка-палітычнае сытуацыі ў краіне, рэспубліканскіх рэфэрэндумаў ды выбараў". Многія сацыёлягі расцэньваюць гэты крок як увядзеньне цэнзуры на сацыялягічныя дасьледаваньні. Урад жа спасылаецца на заходнюю практыку.

У камісію — рэдкі для Беларусі выпадак — увайшлі прадстаўнікі як дзяржаўных, так і недзяржаўных структураў. Ачоліў камісію небезьвядомы дэпутат палаты прадстаўнікоў Ігар Катляроў. Увайшлі ў яе "зоркі" беларускае сацыялёгіі: загадчык сэктару Інстытуту сацыялёгіі Яўген Бабосаў, дырэктар гэтага ж Інстытуту Георгі Явелькін, дырэктар Цэнтру сацыялягічных і палітычных дасьледаваньняў Давід Ротман, сакратар Цэнтравыбаркаму Мікалай Лазавік. Праўда, з 15 сябровў камісіі кандыдатура прадстаўніка Міністэрства інфармацыі застаецца вакантнай. Палажэньне пра дзейнасьць камісіі цяпер на зацьвярджэньні ў Міністэрстве юстыцыі. Гэтым дакумэнтам будзе рэглямэнтаваецца парадак акрэдытацыі сацыялягічных службаў. Пасьля яго зацьверджэньня ўсе сацыялягічныя службы змушаныя будуць праходзіць акрэдытацыю пры камісіі.

У праекце пастановы Саўміну пра яе стварэньне было агаворана, што акрэдытацыя неабходная на час правядзеньня выбараў ды рэфэрэндумаў. Аднак канчатковы варыянт пашырыў гэтую працэдуру і на ўсе сацыялягічныя апытаньні, датычныя грамадзка-палітычнае сытуацыі. Гэта азначае, што ўсе сацыялягічныя дасьледаваньні апынаюцца пад кантролем улады, бо "грамадзка-палітычная сытуацыя" — гэта нашае жыцьцё.

### Ідэя заходняя

Сябар камісіі, кіраўнік сацыялягічнай службы "Люстэрка" кампаніі БелаПАН **Леанід Міхейчыкаў** сьцьвярджае, што камісія стваралася "паводле прыкладу аналягічных структураў, што існуюць на Захадзе, у прыватнасьці ў Францыі, якія вядуць рэгістрацыю на час выбараў і рэфэрэндумаў".

Фактычна ў Беларусі ўводзіцца трохузроўневая сыстэма акрэдытацыі: для маркетынгавых службаў яна непатрэбная; да службаў, якія не даюць вынікаў апытаньняў у друк, — менш жорсткія патрабаваньні; да тых, хто дае, — больш жорсткія. Праект палажэньня прадугледжвае, што шанцы прайсьці акрэдытацыю маюць тыя службы, у складзе якіх ёсьць хоць адзін кандыдат сацыялягічных навук. "Гэта ўсё робіцца дзеля таго, каб кантраляваць вынікі сацыялягічных дасьледаваньняў. За некаторымі ня дужа сумленнымі службамі ён і патрэбны. Але ў нас ня самы лепшы кантроль — як бы ён не ператварыўся ў цэнзуру", — гаворыць Л.Міхейчыкаў.

На сёньня ў Беларусі існуюць два дзясяткі сацыялягічных службаў, але назіраецца ўстойлівая тэндэнцыя да скарачэньня іхнае колькасьці — 4 службы (2 незалежныя, 2 дзяржаўныя) ужо спынілі сваё існаваньне. З увядзеньнем акрэдытацыі іх, трэба меркаваць, яшчэ паменее.

### За Міхейчыкава вырашыў БелаПАН

Л.Міхейчыкаў ня згодны, што камісія абавязкова будзе выконваць загады ўлады. Хоць і не хавае, што "ініцыятыва сыходзіць ад улады, якая зацікаўленая праводзіць свае інтарэсы". Але сам Л.Міхейчыкаў апынуўся ў камісіі не з уласнае ініцыятывы. За яго гэта вырашыла рада дырэктараў кампаніі БелаПАН, якая фінансуе дасьледаваньні службы "Люстэрка". "Акрэдытацыю будзе атрымліваць не Міхейчыкаў, а кампанія БелаПАН. БелаПАН зацікаўлены атрымліваць максымум інфармацыі і выдаваць яе".

Кіраўнік "Люстэрка" лічыць, што ў камісіі сабраліся "дастаткова кампэтэнтныя людзі". "Ні пра кога зь іх нічога канкрэтна дрэннага сказаць не магу. Усе яны неблагія прафэсіяналы. Аднак, даючы інфармацыю, яны ня могуць яе інтэрпрэтаваць. А інтэрпрэтацыя — вельмі важны момант".

### Форма запалохваньня

Намесьнік дырэктара НІСЭПД **Аляксандар Сасноў** лічыць, што камісія створаная з мэтай "кіраваць інфармацыйным забесьпячэньнем насельніцтва ў часе выбарчых кампаніяў... Гэты працэс пачынаўся ня сёньня: яшчэ летась плянавалася ўнесьці зьмены ў закон аб выбарах якраз-такі ў сацыялягічным пляне. Не прайшло. Тады пайшлі шляхам стварэньня гэтае камісіі. Наступствы акрэдытацыі не прапісаныя; гэта, магчыма, будуць санкцыі супраць кіраўнікоў арганізацыяў, штрафы — будуць душыць сацыялягічныя службы, балазе ў нас заўсёды ёсьць магчымасьці душыць. Але цалкам задушыць сацыялёгію ўладзе ня ўдасца, рэальна ажыцьцявіць задуманае немагчыма. Я магу правесьці тэлефоннае апытаньне жыхароў Смаленску — хто мне забароніць, хіба ўсю тэлефонную сетку адключаць? Акрэдытацыя — гэта хутчэй форма запалохваньня. Можа, я перабольшваю сваё значэньне, але толькі-толькі НІСЭПД апублікаваў вынікі красавіцкага апытаньня, згодна зь якім рэйтынг Лукашэнкі рухнуў адразу ў паўтара разу, як 31 траўня выйшла першая пастанова Саўміну аб стварэньні камісіі".

А.Сасноў падтрымлівае кіраўніка НІСЭПД, які адмовіўся ўвайсьці ў камісію. Крок кіраўніка службы "Люстэрка" сацыёляг ацаніў расейскай прыказкай: *"Поскреби русского — увидишь татарина"*. Выказаўся А.Сасноў і пра пэрсанальны склад камісіі: "Там сабраліся людзі, зь якіх можна віць любую вяроўку, у тым ліку і для таго, каб павесіцца самім. Што скажуць ім, тое яны і зробяць".

**Глеб Хмяльніцкі**

# Свой між чужых, чужы між сваіх

Працяг са старонкі 3.

### Кіраваная акцыя ці "аўтаномны палёт"?

І ўсё ж як афіцыйныя зьвесткі, так і неафіцыйныя камэнтары пакідаюць адкрытымі пытаньні: ці сапраўды Пятро Краўчанка рашыўся на "аўтаномны палёт" або за ім стаіць нейкая ўплывовая сіла? Ці не выпадкова ён згадаў пра "новую апазыцыю"?

Паводле інфармацыі, якая цяпер "гуляе" ў апазыцыйных колах, пабачыўшы бездапаможнасьць большасьці апазыцыйных арганізацый і партый, заходнія спонсары апазыцыі зьмянілі тактыку.

Яны пакуль ня будуць дапамагаць апазыцыі — пачакаюць вынікаў мясцовых выбараў. Тых апазыцыянэраў, якія стануць дэпутатамі, яны й будуць падтрымліваць. Яны хочуць, каб апазыцыя ішла ва ўладу, набывала досьвед і аўтарытэт, каб зьяўляліся новыя лідэры, не заплямленыя старымі скандаламі. Таму ў П.Краўчанкі ёсьць шанец вярнуцца з палітычнага забыцьця.

Нельга выключаць і "расейскага фактару". Калі Крэмль зьбіраецца пазбавіцца Лукашэнкі, то, зразумела, рыхтуе яму "пераемніка". У такім выпадку выбары адбудуцца значна раней 2006 г. Тады заява Краўчанкі набывае зусім іншы сэнс. Дый у СМІ прайшла інфармацыя, што з прызначэньнем на пасаду пасла ў Японіі П.Краўчанку калісьці дапамаглі маскоўскія сябры...

Выпадкова ці не, але "справа Краўчанкі" пачала раскручвацца адразу пасьля таго, як А.Лукашэнка нібы жартам сказаў, што будзе балятавацца на трэці тэрмін і "пераемнік яму не патрэбны".

У інтэрвію радыё "Свабода" Краўчанка дае, фактычна, свае праграмныя тэзысы: "Трэба весьці гаворку пра новую апазыцыю, пра стварэньне новай апазыцыі. Гэта не азначае, што апазыцыя ў Беларусі добрая ці дрэнная. Але ідзе час палітычных падзеяў, мяняюцца палітычныя кірункі і палітычныя партыі, зьяўляюцца новыя людзі. Я сёньня ня стаў бы гаварыць, што шукаю нейкіх кантактаў з апазыцыяй. Я, па сутнасьці, дзейнічаю сёньня ў рэжыме аўтаномнага палёту".

Калі былы пасол сапраўды наважыўся на "аўтаномны палёт", яму ўдалося правесьці, зь мінімальным укладаньнем сродкаў, выдатную піяр-акцыю. Для Краўчанкі гэта важна, бо ці ня згубіцца ён сярод чынавенства, вярнуўшыся ў Беларусь, ці не забудуцца пра яго СМІ? А цяпер пра былога пасла яшчэ доўга будуць пісаць газэты, адсоўваючы на другі плян генэрала Фралова, якога расейскамоўная недзяржаўная прэса ўжо абвясьціла была "лідэрам апазыцыі".

**Сяргей Ёрш**

# Пятро Краўчанка: "Я застануся на сваіх пазыцыях"



Паэтка Натальля Арсеньнева і Пятро Краўчанка пазнаёміліся ў ЗША. Пачатак 1990-х.

**Краўчанка — харызматычны апякун і сябар таленавітых людзей. Будучы міністрам, ён неяк зь вялізным букетам кветак зьявіўся на дзень нараджэньня паэта Анатоля Сыса. А ягоная фраза "Дзяржаўнасьць мовы непазьбежная, як сьмерць" стала крылатым выразам яшчэ за часоў БССР. Гэтае інтэрвію Пятро Краўчанка даваў "НН" у 1996 г., калі быў старшынём камісіі міжнародных справаў ВС.**

**"НН": Вы прафэсійны палітык ад пачатку. Маеце вялікі палітычны капітал ня толькі ў Беларусі, але й за мяжой. Вашыя кантакты зь беларускай дыяспарай атрымалі шырокі розгалас... Якой Вам бачыцца Ваша палітычная будучыня?**

**П.К.:** Маю будучыню вызначаюць лёс, падзеі, народ. Я перакананы, што, нягледзячы на розныя формы інтэграцыі, нягледзячы на тое што нам, магчыма, давядзецца прайсьці праз этап канфэдэрацыі ці фэдэрацыі, мы ўсё ж будзем сувэрэннай дзяржавай. Яшчэ ў 92-м годзе я сказаў, што нам давядзецца прайсьці праз этап канфэдэрацыі. Не таму, што я зацікаўлены ў гэтым. Я сказаў гэта ў Нью-Ёрку эміграцыі. Спачатку ідзе адна хваля — хваля адраджэньня, станаўленьня дзяржаўнасьці. Потым хваля ідзе ў іншы бок...

**"НН": А наступная хваля?**

**П.К.:** Я думаю, што гэта будзе хваля нацыянальнага ўздыму. Таму, вяртаючыся да Вашага пытаньня... ня ведаю, які мой лёс. Адзінае магу сказаць, што я быў, ёсьць і застануся на сваіх пазыцыях. Я палітык, я ўлічваю рэаліі палітычнага жыцьця і неабходнасьць эканамічнай інтэграцыі з Расеяй, я перакананы, што тут у нас няма альтэрнатывы. Трэба ўлічваць і рэаліі таго, што адбылося цяпер, але спакойна, нармальна працаваць дзеля будучыні Беларусі.

**"НН" ад 15 красавіка 1996 г.**

# Далі Дразда

**Загадам міністра ўнутраных справаў новым начальнікам упраўленьня Дзяржаўтаінспэкцыі прызначаны палкоўнік Мікалай Дрозд, які дагэтуль кіраваў Упраўленьнем аховы правапарадку МУС, а праславіўся тым, як кіраваў разгонам незалежніцкіх дэманстрацый у сярэдзіне 90-х. 30 кастрычніка Уладзімер Навумаў "у сувязі з службовымі недапрацоўкамі" зьняў ягонага папярэдніка Леаніда Фармагея.**

За некалькі тыдняў да адстаўкі Л.Фармагей, які ўзначальваў ДАІ зь лістапада 2001 г., быў часова адхілены ад пасады і знаходзіўся ў адпачынку. Ягоныя абавязкі выконваў ягоны першы намесьнік Аляксандар Кузьменка.

Зь імем Леаніда Фармагея ў Дзяржаўтаінспэкцыі зьвязвалі пэўныя надзеі на рэфармаваньне гэтае структуры. Паводле ягонай ідэі, на дарогах мусілі застацца толькі інспэктары з афіцэрскімі пагонамі. Бліжэйшым часам Л.Фармагей зьбіраўся зьмяніць практыку зьбіраньня штрафаў проста на дарогах. "Інспэктары — гэта не касіры", — казаў ён.

Пра тое, ці будзе Мікалай Дрозд ажыцьцяўляць задуманыя Л.Фармагеем рэформы, сказаць цяжка: новы начальнік ДАІ пакуль "сьвяціўся" толькі на "Чарнобыльскіх шляхах".

Вэрсіяў аб прычынах адстаўкі Л.Фармагея мноства. Аднак зьвяртае на сябе ўвагу адна акалічнасьць: прыкладна адначасова з галоўным даішнікам у вымушаны адпачынак адправілі й начальніка Сьледчага камітэту МУС Леаніда Глухоўскага. Абодва "адпачынкі" супалі з новым вітком антыкарупцыйнае кампаніі, разгорнутай уладамі. На апошняй калегіі міністэрства У.Навумаў назваў лічбы, якія сьведчаць пра кадравы голад у сілавым ведамстве: сёлета да розных відаў адказнасьці былі прыцягнутыя 6200 міліцыянтаў, зь іх 118 — да крымінальнай. Больш за тысячу чалавек зволеныя.

**Г.Х.**

# Беларусь стане марской краінай

**Спэцыялісты Міністэрства транспарту й камунікацыяў паклалі на стол Лукашэнку праект дэкрэту "Аб некаторых захадах па разьвіцьці марскога гандлёвага флёту Рэспублікі Беларусі". У міністэрстве ня ведаюць, калі будзе падпісаны дэкрэт. Паводле самых аптымістычных прагнозаў — пры канцы сьнежня. Сэнсацыя ня ў тым, што Беларусь будзе мець свой флёт (пра гэта пастанавілі ўжо даўно, але ўсё грошай не ставала на караблі), а ў тым, што нашая краіна мае шанец ператварыцца ў "афшорную зону" марскога гандлю.**

### Марскія афшоры

Калі кампанія "Х", якая жадае перапраўляць свой груз морам у іншую краіну, шукае перавозчыка, яна глядзіць, якую частку з кошту тавару складуць транспартныя выдаткі. Як аўто мае нумар, кожны карабель мусіць быць зарэгістраваны пад сьцягам пэўнае краіны. Кампанія "Y", якая мае карабель і жадае зарабляць на марскіх перавозках, шукае краіну, якая бярэ з уладальнікаў караблёў найменшыя падаткі, каб зьменшыць кошт перавозак. Большасьць краінаў, што маюць вялікі марскі гандлёвы флёт, даюць судаўладальнікам вялікія прэфэрэнцыі, каб тыя рэгістраваліся пад іх сьцягам. Лібэрыя ды Панама ўжо зрабіліся нечым накшталт "афшорных зонаў", у якіх рэгіструюцца ўладальнікі караблёў з усяго сьвету. Таму ня дзіва, што кампанія "Х" зробіць выбар на карысьць кампаніі "Y", калі тая будзе мець карабель з панамскім сьцягам. Хай сабе ён ніколі не выходзіў з Індыйскага акіяну. 80—90% усяго сусьветнага гандлёвага флёту зарэгістравана пад "зручнымі" сьцягамі.

Беларускі сьцяг таксама можа зрабіцца "зручным" — трэба толькі не прагадаць, калі будзем вырашаць, як і колькі грошай браць за рэгістрацыю караблёў у Дзяржрэестры марскіх суднаў.

### Першы карабель

У 1997 г. урад прыняў праграму разьвіцьця рачных ды марскіх перавозак да 2010 г. Яна прадугледжвала стварэньне ўласнага марскога флёту: было запланавана пабудаваць два караблі для марскіх перавозак (кожны коштам 5 млн. даляраў) ды пяць караблёў прыбярэжнага плаваньня (па мільёне даляраў). Але праграма праваліліся дзеля адсутнасьці фінансаў. На Гомельскім суднабудаўнічым заводзе пабудавалі толькі адзін карабель прыбярэжнага плаваньня. Выпрабаваны сухагруза "Надзея" прайшлі летам 2000 г. у Чорным моры. Карабель мае грузападымальнасьць 1,6 тыс. т. Будавалі "Надзею" за кошт дзяржбюджэту, інавацыйнага фонду Міністэрства транспарту й камунікацыяў ды прыватнай экспэдытарскай фірмы. Цяпер "Надзея" на зімоўцы ў доку, а ў навігацыйны час ходзіць па маршруце Мазыр—Мікалаеў (украінскі порт). На новыя караблі грошай у дзяржавы няма.

### Дэдвэйт растае

Нацыянальныя флёты краінаў СНД патроху растаюць. Прыклад таму — Расея. У 1995 г. пад расейскім сьцягам знаходзілася гандлёвых караблёў агульным дэдвэйтам (паказьнік, які вызначае вагу карабля) 9500 тыс. т, а ў 2000 г. — 4600 тыс. т. Адпаведна зьмяншаліся прыбыткі ад дзейнасьці суднаходных кампаніяў (1995 г. — 508,7 млн. даляраў, 1999 г. — 216,3 млн. даляраў). Але гэта не азначае, што там не будуюць новых караблёў. У 1992—99 г. у Расеі пабудавалі 162 караблі, але 146 зь іх плаваюць пад іншым сьцягам. Караблі будуюць за кошт таго, што знаходзяць замежныя інвэстыцыі, але інвэстары даюць грошы толькі тады, калі караблі рэгіструюць пад "зручным" сьцягам, бо расейскі падатковы клімат для караблеўладальнікаў неспрыяльны.

### Нам дасталася спадчына

Падчас падзелу маёмасьці СССР беларусам марскога флёту не далі, палічыўшы, што хопіць і рачнога. Засталося рачное параходзтва, 10 рачных партоў, 4 суднабудаўнічыя ды суднарамонтныя заводы (у Гомелі, Рэчыцы, Пінску, Петрыкаве), 180 буксіраў ды 420 несамаходных баржаў. У 1996—97 г. зладзілі інвэнтарызацыю рачнога флёту — частку сьпісалі на мэталалом,



частку прадалі. Засталося тады 89 буксірных цеплаходаў ды 221 баржа.

У Міністэрстве транспарту й камунікацыяў лічаць, што Беларусь можа стварыць спрыяльныя ўмовы для ўладальнікаў караблёў, каб тыя рэгістраваліся пад нашым сьцягам. У найбліжэйшы час рэальна пачаць перавозіць пад беларускім сьцягам толькі частку беларускіх замежнагандлёвых грузаў — каля 2,8—3 млн. т. У першую чаргу гэта калійныя угнаеньні ды цукар-сырэц. На гэта патрэбна 15—16 караблёў сярэдняй грузападымальнасьці. Магчымыя інвэстыцыі складуць 200—250 млн. даляраў. Краіны сьвету перавозяць морам прыкладна палову нацыянальных замежнагандлёвых грузаў. Беларусь транспартуе так 15 млн. т грузаў штогод. Гэта калійныя ды азотныя ўгнаеньні, нафтапрадукты, мэтал, колавая тэхніка, шыны, цукар і інш. Транспартныя выдаткі складаюць 20—30% ад кошту тавару, бо вазіць даводзіцца на замежных караблях.

### Тры этапы

Стварэньне нацыянальнага марскога флёту мяркуецца праводзіць у тры этапы. На першым для беларускіх транспартна-экспэдытарскіх кампаніяў будуць створаны ўмовы, якія дазволяць ім самастойна фрахтаваць патрэбную колькасьць марскіх суднаў для перавозкі грузаў. На другім этапе судны будуць браць у арэнду без экіпажу (так званы бэрбоўт-чартэр), замест якога ноймуць беларускіх маракоў. Апошні этап — стварэньне ўласна беларускага марскога флёту, дзеля чаго трэба набываць ці будаваць караблі.

Рэчыцкі суднабудаўнічы завод гатовы выконваць замовы — абы грошы плацілі. Досьвед ёсьць — тут ужо будавалі карпусы караблёў для галяндзкай кампаніі "*Damen Shipyards BV*".

У Рэчыцы закладзены й марскі карабель на 3,5 тыс. т, але сродкаў, каб яго дабудаваць, пакуль няма. Будаваць караблі выгодней, чым набываць. Карабель, збудаваны ў Рэчыцы, каштуе 5 млн. даляраў, а пакупны — 6 млн. Аднак і першае, і другое рэалістычна рабіць толькі пры наяўнасьці інвэстыцыяў.

Каб караблі не рэгістраваліся пад чужымі сьцягамі, як у Расеі, падаткі ды іншыя зборы з караблеўладальнікаў трэба скасаваць ці моцна зьнізіць. Так, кампаніі, якія будуць плаваць пад беларускім сьцягам, ня мусяць плаціць аніякіх падаткаў ды абавязковых плацяжоў у бюджэт (хіба толькі ў фонд сацыяльнай абароны ды ў фонд спрыяньня занятасьці) у частцы абаротаў і даходаў ад марскіх перавозак. Караблі ды іхнае абсталяваньне ня будуць абкладаць мытам ды падаткам на даданую вартасьць.

У Міністэрстве транспарту й камунікацыяў разумеюць, што такія прапановы выклікаюць шокавую рэакцыю ў падатковых органаў, але лічаць, што падставаў для яе няма. Скарачэньня падатковай базы не адбудзецца, бо ў нас папросту ніколі не было марскога флёту. Аднак падатківкі баяцца прэцэдэнту.

### Выгады

Якая нам з таго флёту выгада? Рэгістрацыя чужых караблёў пад сьцягам нашае дзяржавы будзе нечага каштаваць. Суднаўладальніку давядзецца штогод плаціць пэўную суму, каб пацьвярджаць рэгістрацыю. Грузы, якія перавозяцца караблямі, ад падаткаў ды мыта не пазбаўляюцца. Інвэстыцыі, якія будуць прыцягнутыя пад будаўніцтва караблёў, — гэта ўкладаньні ў нацыянальную эканаміку. Беларускія экспэдытарскія кампаніі будуць фрахтаваць айчынныя, а не замежныя караблі, што зьменшыць на 5—10% фрахтавыя стаўкі па дастаўцы грузаў, дый усе прыбыткі ад фрахту застануцца ў краіне. Новыя караблі — гэта працоўныя месцы для беларускіх маракоў, шмат хто зь якіх цяпер перабіваецца выпадковымі заробкамі. І, урэшце, мець нацыянальны флёт — папросту прэстыжна і ганарова.

**Алесь Кудрыцкі**

# Бюджэт Расеі: зноў прафіцыт

**Праект бюджэту Расеі на наступны год другі раз за 12 гадоў прадугледжвае перавышэньне прыбыткаў над выдаткамі, нягледзячы на высокія выплаты па замежных пазыках.**

У праекце закладзена больш выдаткаў на сацыяльныя праграмы і значна менш увагі надаецца працягу эканамічных рэформаў.

Як лічаць аналітыкі, гэты бюджэт у большай ступені палітычны, чым эканамічны. Чаму? Праз год у Расеі адбудуцца парлямэнцкія выбары. Ужо ў кастрычніку заробак працаўнікоў бюджэтнай сфэры павінен узрасьці на 30%! Адкуль сродкі на падвышэньне? Урад хоча зьменшыць інвэстыцыі ў дзяржпрадпрыемствы, у тым ліку ў "Газпром" і чыгунку. Вяртаньне да рэалізацыі эканамічных мэтаў адбудзецца толькі ў 2004 г.

У праекце дэкляруюцца прыбыткі ў памеры 2,41 трлн. рублёў (71,75 млрд. даляраў) і выдаткі, што складаюць 2,34 трлн. рублёў. Прафіцыт дасягне 0,6% гадавога ВУП Расеі. Аналітыкі мяркуюць, што ўрад заплянаваў перавышэньне вельмі асьцярожна — тэмпы росту ВУП і прыток непасрэдных замежных інвэстыцый у сукупнасьці з павялічанымі падатковымі паступленьнямі павінны яго забясьпечыць.

Сёлета тэмпы росту ВУП у Расеі мусяць скласьці 4%, летась яны дасягнулі нават 4,3%. Узровень інфляцыі, які плянаваўся на гэты год у памеры 18%, фактычна складзе 15%. Налета ён павінен стаць паміж 10 і 12%. На думку эканамістаў з інвэстыцыйнага банку *UFG* у Расеі, каб прафінансаваць неабходныя эканамічныя рэформы, цягам пяці гадоў трэ будзе захоўваць бюджэтны прафіцыт у памеры сама меней 1% ВУП. Інакш тэмпы рэформаў могуць зьнізіцца, а тады зьменшыцца і прыток капіталу з-за мяжы.

Як і раней, бюджэтныя даходы моцна залежаць ад сусьветных цэнаў на энэрганосьбіты, перш за ўсё на нафту. Паводле прыкідак расейскага Мінфіну, прафіцыт захаваецца нават тады, калі цана за барэль расейскай нафты ўпадзе да 18,5 даляра (сёньня барэль каштуе 22—23 даляры).

Налета Расеі зноў давядзецца выплачваць частку замежнай запазычанасьці — 17,3 млрд. даляраў. Сёлета ўсе выплаты (14 млрд. даляраў) Масква ажыцьцяўляе своечасова. Самы стабільны апошнім часам малады рынак не павінен мець праблем з выкананьнем сваіх абавязацельстваў, а калі такія праблемы ўзьнікнуць, расейцы маюць у запасе спэцыяльны фонд, дзе акумулююцца сродкі ад прыватызацыі, якія дазволяць нейкі час плаціць запазычанасьці. Апроч таго, Цэнтрабанк Расеі мае рэкордна высокія рэзэрвовыя запасы СКВ: пад канец лістапада ў сэйфах было каля 47,7 млрд. даляраў — на 10 млрд. больш, чым у той самы пэрыяд мінулага году. Аналітыкі лічаць: калі Расея захоча прафінансаваць выплаты па запазычанасьцях пры дапамозе эмісіі эўраабліґацыяў, рынкі вельмі ахвотна іх купяць.

**Паводле *Reuters***

## эканамічная хроніка

### Кампэнсацыя ўкладаў

**3 сьнежня працоўная група палаты прадстаўнікоў пачала разглядаць законапраект "Аб пакрыцьці банкаўскіх укладаў фізычных асобаў".** Яго мэта — забясьпечыць кампэнсацыю тым, хто страціць грошы, пакладзеныя на рахунак. Цалкам кампэнсуюць уклады да 2 тыс. даляраў, а да 5 тыс. даляраў — у межах 80%. Займацца гэтым будзе Рэзэрвовая карпарацыя, у якую ўвойдуць усе банкі краіны.

### Валютная лібэралізацыя

**Нацыянальны банк да 1 студзеня 2004 г. дазволіў прадпрымальнікам купляць наяўную замежную валюту за безнаяўныя рублі, каб набываць тавары за мяжой.** Пералічваць рублі можна з разьліковага рахунку прадпрымальніка. Пры гэтым ня трэба адкрываць адмысловы рахунак для захоўваньня замежнай валюты, дэкляраваць мэтавае выкарыстаньне ды тэрмін захоўваньня валюты. Набываць яе можна ў касах банку.

### Страйкам — па запазычанасьці

**29 лістапада працаўнікі гомельскага Камбінату будаўнічых канструкцыяў спынілі працу,** бо ім чатыры месяцы не плацілі грошай. Міністэрства архітэктуры й будаўніцтва, якому падпарадкоўваецца камбінат, паабяцала ўзяць крэдыт на 122 тыс. даляраў пад 10% гадавых, каб аддаць запазычанасьць. 2 сьнежня застрайкавалі некалькі цэхаў "Магілёўдрэва", бо ім ня выплацілі заробкаў за верасень.

### Новы рынак у Гомлі

**1 сьнежня ў Гомлі адчыніўся новы рынак "Прудкоўскі".** Гэта комплекс з 16 галерэяў, 5 прадуктовых павільёнаў ды разнастайных крамаў агульнай плошчай 6 га. Фірма "Сабіна", якой належыць рынак, зьменшыла арэндную плату за сьнежань-люты на 10—15%, каб гандляры маглі крыху скінуць цэны ды прыцягнуць пакупнікоў.

### "Крыніца" — першая

**2 сьнежня ў Маскве прайшоў конкурс "Піва, напоі ды мінэральныя воды", у якім удзельнічалі больш за 100 кампаніяў з СНД.** Нашая "Крыніца" — абсалютная пераможца. "Цэвіта" атрымала гран-пры ў намінацыі сухіх напояў, распушчальная гарбата "Ціпсі" — залаты мэдаль. "Портэр" заняў першае месца сярод цёмных гатункаў піва, "Менск" — сярод сьветлых.

### Цэмэнт на бібліятэку

**24-паверховы гмах Нацыянальнай бібліятэкі збудуюць на ваўкавыскім цэмэнце.** На тым тыдні АТ "Краснасельскбудматэрыялы" атрымала замову на пастаўку 6 тыс. т цэмэнту маркі "500". Замову выканаюць цягам трох месяцаў. Ваўкавыскі цэмэнт дужа трывалы — яго выкарыстоўвалі падчас будаўніцтва Асуанскай плаціны ды менскага мэтро. Маскоўская Астанкінская вежа не абвалілася пасьля пажару дзякуючы цэмэнту з-пад Ваўкавыску, зь якога яна зробленая.

### Ліфты для інвалідаў

**"Магілёўліфтмаш" распачаў сэрыйную вытворчасьць ліфтаў для інвалідаў.** Дзьверы ў тых ліфтах шырэйшыя, чым у звычайных, — каб вольна праходзілі інвалідныя вазкі. Кнопкі кіраваньня размешчаныя нізка — іх можна націскаць седзячы. Гэтыя ліфты плянуюць прадаваць нават за мяжу.

**А.К.**

# Вітаўтас Ландсбэргіс: “Пэрсона мусіць зьмяніцца”

Паводле апошніх афіцыйных заяваў МЗС Літвы, краіна “пакуль не абмяркоўвае магчымасьці забараніць уезд аўтакратычнаму прэзыдэнту Беларусі Аляксандру Лукашэнку і некалькім беларускім вышэйшым уладцам”. Літва згодная з прынцыповымі ацэнкамі становішча ў Беларусі й рэкамэндацыямі ў дачыненьнях зь ёй, якія даў Эўразьвяз, але не зацікаўленая ў яшчэ большай ізаляцыі суседняй краіны — паведаміла пры канцы мінулага тыдня агенцыі *BNS* кіраўнічка аддзелу друку МЗС Літвы Дайва Рымашаўскайтэ.

На тым тыдні Данія, што старшыню цяпер у Эўразьвязе, прапанавала Літве зрабіць захады, каб абмежаваць эўрапейскія падарожжы кіраўнікоў Беларусі. У адказе Літва пазначыла, што дзеля агульнаэўрапейскае карысьці ня можа падтрымаць далейшае ізаляцыі Беларусі. Паводле афіцыйнай заявы МЗС Літвы, “істотныя пытаньні двухбаковых дачыненьняў Літвы і Беларусі, такія, як узмацненьне памежнага кантролю, барацьба са злачыннасьцю ды нелегальнай міграцыяй, маюць істотны ўплыў на ўсю эўрапейскую супольнасьць”.

Аднак Літва мае ўжо запрашэньне ў *NATO* і беларускалітоўская мяжа неўзабаве стане мяжой Эўразьвязу. Тады краіна, салідарызуючыся з Эўропай, вымушаная будзе перагледзець сваё стаўленьне да нашае дзяржавы. Таму вядучыя палітыкі Літвы цяпер абмяркоўваюць “беларускую сытуацыю”. На тым тыдні, спэцыяльна для “Нашай Нівы” і Беларускай службы радыё “Свабода”, сваімі меркаваньнямі падзяліўся В.Ландсбэргіс — падпісант Акту аб аднаўленьні незалежнасьці Літвы 11 сакавіка 1989 г., кіраўнік незалежнай Літвы ў 1990—92 г. Цяпер прафэсар Ландсбэргіс — парлямэнтар, прадстаўляе фракцыю партыі кансэрватараў у Сойме, працуе ў парлямэнцкіх камітэтах замежных і эўрапейскіх справаў, у парлямэнцкай камісіі па справах *NATO*.

На думку В.Ландсбэргіса, у Беларусі насьпела пільная неабходнасьць зьмяніць замежнапалітычны курс. А паколькі краіна кіруецца аўтарытарна, перад выбарам найперш стаіць прэзыдэнт Беларусі.


NATO.INT

### Толькі ад нас залежыць

Колішні кіраўнік Літвы мяркуе, што “Аляксандар Лукашэнка мае сёньня апошнюю магчымасьць захаваць сваю рэпутацыю як палітыка — рызыкнуць уладай і абвясьціць дэмакратычныя выбары ў парлямэнт, якія б прызналі незалежныя эўрапейскія назіральнікі. У адваротным выпадку яго скінуць з палітычнай сцэны як дыктатара”. Але, паводле ацэнкі літоўскага палітыка, на карту ставіцца цяпер не асабістая ўлада Лукашэнкі, а захаваньне беларускай дзяржаўнасьці; тыя ж сілы, што імкнуцца скінуць А.Лукашэнку любымі сродкамі, найменш рупяцца пра захаваньне незалежнасьці, якой “могуць лёгка ахвяраваць дзеля таго толькі, каб пазбыцца дыктатара”.

Паводле меркаваньня В.Ландсбэргіса, “палітычныя рэаліі цяперашняй Беларусі такія, што захаваньне дзяржаўнасьці залежыць ад саміх беларусаў, ніхто іншы пра гэта рупіцца ня будзе. І, магчыма, ад таго, ці здолее кіраўнік Беларусі ўвайсьці ў гісторыю як рашучы палітык. Палітык, здольны зрабіць выбар дзеля захаваньня сваёй нацыянальнай дзяржавы. І адарвацца ад тае лініі, якая вядзе да зьнікненьня Беларусі — зьнікненьня па адной губэрні; ці адразу шасьцю губэрнямі, ці яшчэ якім іншым шляхам. Гэта можа быць даволі блізкая будучыня. У заходнім друку многа мадэлююць розных варыянтаў, якім чынам А.Лукашэнка можа быць адхілены ад улады. На Захадзе разважаюць пра розныя мадэлі нэўтралізацыі беларускага дыктатара дзеля тае сумнеўнае дэмакратыі, якая існуе ў Расеі. Гэтая дэмакратыя як нейкае збавенне павінна, мабыць, прыйсьці ў Беларусь, калі тая пазбудзецца сваёй дзяржаўнасьці. Словам, нацыянальнай дзяржаўнасьцю можа быць заплачана за дэмакратычную мадэль прэзыдэнта Пуціна”.

**Прага стала сыгналам, што ніхто ў Эўропе ня будзе плакаць, калі спадар Лукашэнка будзе скінуты альбо раптам сур’ёзна захварэе.**

### Лукашэнку трэба рызыкнуць

В.Ландсбэргіс прыгадаў пра сталыя кантакты партыі літоўскіх кансэрватараў “Саюз Айчыны” і Беларускага народнага фронту: “У кастрычніку ў Вільні была супольная канфэрэнцыя “Саюзу Айчыны” і БНФ. Мы прынялі заяву пра будучыню Беларусі, у якой пазначана, што выбар паміж двума варыянтамі аўтарытарызму — памылковы шлях, бо абіраць варта паміж аўтарытарызмам і дэмакратыяй. Тут і мой подпіс ёсьць, і подпіс Вінцука Вячоркі. Важна, што ў Беларусі існуе палітычная сіла, якая так разважае. Яшчэ больш істотна, каб беларуская апазыцыя цьвёрда трымалася таго, што Беларусь мусіць застацца нацыянальнай незалежнай дзяржавай. Беларусь знаходзіцца ў Эўропе, і для яе натуральна быць эўрапейскай дзяржавай”.

Другая рэзалюцыя згаданае канфэрэнцыі была прынятая адносна мяжы Эўразьвязу. Для Літвы пытаньні супольнае беларуска-літоўскае мяжы, якая цягнецца амаль на 700 км, надзвычай істотныя. Літва мусіць падтрымліваць з намі суседзкія дачыненьні й адначасова мацаваць сваю мяжу як краіна, што атрымала запрашэньне ў *NATO* й імкнецца далучыцца да Эўразьвязу. На думку В.Ландсбэргіса, Беларусь атрымае “магчымасьць выдатна выкарыстаць сваё ўнікальнае геапалітычнае становішча між Расеяй і Эўразьвязам” і мець “ролю эўрапейскай значнасьці”, калі захавае сваю дзяржаўнасьць.

В.Ландсбэргіс нагадаў: “Тое, што Літва будзе заўсёды імкнуцца да дыялёгу са сваёй блізкай суседкай, можа тлумачыцца значнасьцю Беларусі і яе здольнасьцю адстойваць сваю дзяржаўнасьць, але ніякім чынам не ўратуе спадара Лукашэнку. Ужо яму быў дадзены знак, што давядзецца рабіць выбар. Калі ён хоча скарыстацца з гэтае магчымасьці, мае быць вельмі рашучым і гатовым змагацца. Інакш — ня мае будучыні. Вядома, абраўшы дэмакратычны шлях, Лукашэнка рызыкуе прайграць выбары. Але лепш такім чынам страціць уладу і застацца ў палітыцы, чым быць проста адлучаным як дыктатар.

Няясна, ці ўсьведамляе А.Лукашэнка, што пасьля страты незалежнасьці ягоны лёс будзе ў руках Масквы. Калі тая вырашыць, што ён не патрэбны, — пазбавіць улады. Тады пасьля Лукашэнкі не застанецца нават сур’ёзнае згадкі — якая была б, калі б ён павярнуў Беларусь да Эўропы і рызыкнуў на выбарах згубіць сваю ўладу. Дый гэта не абавязкова азначае зьнікненьне з палітычнай арэны. Ён жа мае пэўны ўплыў. І прыхільнікаў мае.

Літва, як і Польшча, не зьбіраецца разрываць цалкам сувязі зь Беларусяй. Аднак гэта ня выратуе спадара Лукашэнку. Ён зайшоў надта далёка. Тое, што адбылося ў Празе, можна разглядаць як “дабро” на адлучэньне А.Лукашэнкі ад улады. І Масква адвярнулася ад яго: каб Расея заступілася за беларускага прэзыдэнта, Эўропа абышлася б зь ім мякчэй. Прага сталася сыгналам, што ніхто ў Эўропе ня будзе плакаць, калі спадар Лукашэнка будзе скінуты альбо раптам сур’ёзна захварэе.

Бо такі, які ён ёсьць цяпер, — ён пэрсона нон грата. Аднак Лукашэнка мае шанец зьмяніцца. Ці стае яму палітычнае мудрасьці й здольнасьці паруліцца пра будучыню сваёй краіны, паводле ягоных ранейшых учынкаў цяжка меркаваць. Выбар давядзецца рабіць хутка, часу вельмі мала. Існаваньне ў якасьці пэрсоны нон грата не пакідае А.Лукашэнку ніякіх пэрспэктываў. Пэрсона мусіць зьмяніцца. Альбо сам А.Лукашэнка гэта зробіць, альбо гэтая пэрсона будзе зьмененая іншымі”.

### Апазыцыя магла б працягнуць руку

Маючы ўласны досьвед апазыцыйнай дзейнасьці, В.Ландсбэргіс выказаўся пра магчымасьці беларускай апазыцыі: “Можа быць, апазыцыя здолела б пераступіць сваю канфрантацыю з Лукашэнкам і працягнуць яму руку дзеля захаваньня беларускай незалежнасьці. Я выдатна ведаю: існуе вельмі шмат крыўдаў — перасьледы праз суд журналістаў і г.д. Нехта скажа, што я раю немагчымае. Але ў Беларусі прызвычаіліся глядзець на канфрантацыю да Лукашэнкі як на адзіна магчымы шлях. І, можа быць, даміную такая ўстаноўка, што Лукашэнка мусіць быць адхілены ад кіраваньня краінай любым коштам, любой ахвярай, зь любой будучыняй для Беларусі. Але варта праліічыць, што будзе далей. Калі й далей толькі кепскае, яшчэ горшае, дык мо той пэрыяд, пакуль яшчэ ёсьць магчымасьць выбару, можна выкарыстаць для пошуку іншых шляхоў”.

**Гутарыла Тацяна Поклад, Вільня**

---

**У Бухарэсьце падрыхтавалі закон, які прадугледжвае штрафы за нанясеньне шкоды чысьціні румынскай мовы.**

# Румыны абараняюць сваю мову

Ці каштавалі вы калі кебаб? А шаўрму? А кумпяк? Беларускія гандляры выкарыстоўваюць гэтыя назвы для абазначэньня адной усходняй стравы — смажанага мяса, загорнутага ў праснак. Але калі першыя дзьве — замежныя, дык апошняя — беларуская. Калі нашыя гандляры ды пакупнікі карыстаюцца любой з гэтых назваў, дык румынскія ў хуткім часе будуць ужываць толькі сваю, нахай нават ня самую ўдалую.

Сэнатар Георге Пруцяну лічыць, што ўсе без выключэньня замежныя словы, што пранікл ў румынскую мову, — небясьпечныя для нацыянальнай культуры ды ствараюць цяжкасьці паспалітым румынам, большасьць зь якіх умее размаўляць толькі па-свойму.

Сваю кампанію па абароне мовы Пруцяну пачаў яшчэ пяць гадоў таму. Паводле ягонага законапраекту, усе запазычаныя зь іншых моваў словы (акрамя гандлёвых марак) мусяць перакладацца. Асобы ці арганізацыі, якія ўжываюць тыя словы безь перакладу, будуць аштрафаваныя. Вядома, паліцэйскі ў Бухарэсьце ня будзе заломваць рукі таму, хто запатрабуе ў вулічнага гандляра “гот-дог”, але вось самога гандляра змогуць аштрафаваць, калі на ягонай будзе знойдуць хоць адну неперакладзеную назву стравы. У першую чаргу закон Пруцяну тычыцца палітыкаў, журналістаў ды бізнэсоўцаў.

Раней Пруцяну быў журналістам — вёў штодзённую паціхвілінную перадачу “Дай я скажу табе слова” на румынскай тэлевізіі. Перадача навучала румынаў правільна ўжываць асобныя словы. Ужо ў той час Пруцяну настолькі апантана заклікаў суайчыньнікаў гаварыць правільна, што ў яго пачалі пытацца, ці ня пойдзе ён у палітыку. Чуткі былі небеспадстаўныя, бо Пруцяну ў 1997 г. зрабіўся дэпутатам ніжняй палаты парлямэнту ад Нацыянальнай сялянскай хрысьціянскай і дэмакратычнай партыі. Потым перабраўся ў верхнюю палату, дзе прадстаўляе кіроўных сацыял-дэмакратаў.

Законапраект Пруцяну, які той упершыню ўнёс на разгляд парлямэнту ў 1997 г., меў за прыклад францускі закон аб абароне мовы, прыняты ў 1994 г. Некалькі гадоў закон Пруцяну блукаў у бюракратычным лябірынце, але ў апошнія месяцы справа пайшла шпарчэй. Закон ляжыць на стале прэзыдэнта, чакаючы подпісу. Калі закон увойдзе ў сілу, у Румыніі давядзецца ствараць новы слой адміністрацыйнага апарату, які будзе прафэсійна абазнаны ў моўных варунках ды возьме на сябе кантроль за чысьцінёй мовы й пакараньне тых, хто яе псуе.

Закон распаліў спрэчкі ў прэсе. Галоўныя пытаньні: ці не абмяжоўвае ён свабоды думкі і ці мае сэнс перакладаць тыя замежныя словы, сэнс якіх усім вядомы? Паводле законапраекту, румынская мова, якая гучыць публічна, мусіць быць вольнай ня толькі ад запазычаньняў, але й ад граматычных памылак. Таму палітыкі, якія слухаюць запісы сваіх выступаў, хапаюцца ўжо не за галаву, а за кішэні.

**Алесь Кудрыцкі**

# Фальшывая гісторыя

**Беларускі дзяржаўны пэдагагічны ўнівэрсытэт імя Максіма Танка адзначае сваё 80-годзьдзе. Няўжо яму толькі 80 гадоў? Няўжо ў гэтай шаноўнай навучальнай установе няма гісторыкаў народнае асьветы ці проста людзей з дыплёмамі гісторыкаў?**

Бо настаўніцкі інстытут у Менску быў заснаваны 1 ліпеня 1914 г. У час першае сусьветнае вайны яго эвакуявалі ў Яраслаўль. І там, у гэтай навучальнай установе, Усевалад Ігнатоўскі стварыў арганізацыю "Наш край" (потым — "Маладая Беларусь").

У верасьні 1918 г. інстытут вярнуўся ў Менск, а яго працу фінансавалі Ўрад БНР і камандаваньне нямецкае арміі. 30 сьнежня 1918 г. на базе настаўніцкага інстытуту створаная *першая вышэйшая навучальная ўстанова ў Менску — Менскі Беларускі пэдагагічны інстытут*, які, нягледзячы на бальшавіцкія, расейскія шавіністычныя і польскія падкопы, праіснаваў да другога прыходу бальшавікоў (ліпень 1920 г.) і які першапачаткова складаўся зь літаратурна-мастацкага, сацыяльна-гістарычнага, фізыка-хімічнага, фізыка-матэматычнага, прыродазнаўчага і геаграфічнага факультэтаў. У інстытуце выкладалі Яўхім Карскі, Усевалад Ігнатоўскі (яшчэ ў 1917 г. ён чытаў кароткі нарыс нацыянальна-культурнага адраджэньня Беларусі), Вацлаў Іваноўскі, Максім Гарэцкі, Браніслаў Тарашкевіч, Антон Неканда-Трэпка, Васіль Дружчыц, Хведар Імшэнік, Ігнат Канчэўскі, Станіслаў Любіч-Маеўскі, Аляксандар Данілевіч ды іншыя дзеячы беларускае навукі і культуры. У ім вучыліся Сьцяпан Булат, Мікола Касьпяровіч, Васіль Сташэўскі, Міхась Чарот... Гэта была першая ВНУ, дзе ў 1918 г. пачалі выкладаць гісторыю і геаграфію Беларусі, беларускую мову і літаратуру, гісторыю беларускае мовы.

У жніўні 1920 г. бальшавікі пераўтварылі ўстанову ў Менскі інстытут народнае адукацыі, які рыхтаваў пэдагогаў для дашкольных установаў (тэрмін навучаньня 2 гады), пачатковае (3 гады) і сярэдняе школы (4 гады). 20 чэрвеня 1921 г. была прынятая пастанова рады інстытуту аб пераўтварэньні яго ў пэдагагічны факультэт БДУ, які меліся неўзабаве адчыніць. 1 верасьня таго ж году наркам асьветы Ігнатоўскі загадаў на базе інстытуту стварыць пэдагагічную вучэльню (падрыхтоўка пэдагогаў для дашкольных установаў і пачатковых школаў), а тых, хто быў прыняты на 4-гадовае навучаньне, перавесьці ў БДУ — на факультэт грамадзкіх навук, дзе ствараліся грамадзка-пэдагагічнае аддзяленьне. Потым бальшавікі перадумалі і вярнуліся да ідэі пэдфаку ў БДУ. І такі факультэт паўстаў у 1922 г. з грамадзка-пэдагагічнага і літаратурна-лінгвістычнага аддзяленьняў. А ўжо на базе гэтага факультэту ў 1931 г. быў заснаваны Менскі вышэйшы пэдагагічны інстытут (словам "вышэйшы" замянілі ранейшае азначэньне, якое ў Менску яшчэ памяталі, — "беларускі").

Вось такая пачатковая гісторыя пэдунівэрсытэту ў Менску. Вучоныя дзядзькі, якія цяпер стаяць на чале яго, безумоўна ж, ведаюць гэтую гісторыю, але баяцца яе, баяцца ўгнявіць начальства, для якога і сама Беларусь, і яе гісторыя, і ўсё, што ў ёй ёсьць, пачалося ў 1917 г., і толькі з ласкі бальшавікоў. Таму і сьвяткуюць 80-я ўгодкі замест 88-х. А мо ўнівэрсытэцкія начальнікі й маюць рацыю, адгароджваючыся ад пачатковае гісторыі. Хіба могуць яны стаць уполчкі з Карскім, Ігнатоўскім, Тарашкевічам, Гарэцкім?

Зрэшты, не адны пэдунівэрсытэцкія начальнікі жывуць сфальшаванай гісторыяй. Летась сваё 80-годзьдзе адзначаў Купалаўскі тэатар. Мой даўні сябар, заслужаны артыст Аляксандар Падабед спытаўся, ці буду я ў тэатры. "Алесь, — кажу, — вам жа ня восемдзесят, а восемдзесят тры, бо дзяржаўным тэатрам вы сталі за Ўрадам БНР, за Язэпам Варонкам. А калі на тое, дык Флар'ян Ждановіч заснаваў вас у красавіку 1917-га і вам восемдзесят чатыры". — "Ведаю, браце, але хіба *ім* што дакажаш?"

**Анатоль Сідарэвіч**



IREX-PROMEDIA

Галоўны корпус пэдагагічнага ўнівэрсытэту на плошчы Незалежнасьці.



НАЦЫЯНАЛЬНЫ МУЗЭЙ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ

Садовая вуліца з боку Захар'еўскай (раён цяперашняга парку Янкі Купалы). Будынак зьлева — з 1914 г. настаўніцкі інстытут.

## Ушанаваньне слуцкіх паўстанцаў

**30 лістапада сябры КХП-БНФ ушанавалі памяць удзельнікаў Слуцкага збройнага чыну.** Вялікая грамада наведала вёскі Грозаў, Семежава і мястэчка Вызну (цяпер Чырвоная Слабада), дзе колісь фармаваліся палкі Беларускай Народнай Арміі. Людзі прайшлі па вуліцах пад бел-чырвона-белымі сьцягамі, сьпяваючы рэлігійныя ды вайсковыя гімны. Потым усклалі кветкі і вянкі каля крыжоў, усталяваных на месцах баёў і на магілах герояў, завязалі на крыжы ручнікі. У Слуцку прайшлі шэсьцем па цэнтральнай вуліцы і правялі мітынг насупраць будынку, у якім увосень 1920 г. праходзіў Зьезд Случчыны, дэлегаты якога вырашылі бараніць Беларусь ад расейскага нашэсьця. Тамтэйшыя жыхары далучаліся да шэсьцяў і мітынгаў, чыталі партыйныя выданьні.

**Народнік**




ГАЛІНА РАБЯНКОВА

Сябры КХП-БНФ адзначаюць угодкі Слуцкага збройнага чына у мястэчку Чырвоная Слабада (Вызна).

## Карнавал бульбы

**У Бабруйску адбыўся "Карнавал бульбы", прысьвечаны галоўнай сельскагаспадарчай культуры краіны.** Да ўдзельнікаў сьвята прыехалі супрацоўнікі Беларускага НДІ расьлінаводзтва з новымі сартамі бульбы. Карнавал пачаўся а 10-й раніцы і цягнуўся да позьняга вечару. На сталах было шмат бульбяных пірагоў, дранікаў і іншых звыклых страваў. Завяршылася сьвята бульбяным балем. Узяць удзел у ім меў магчымасьць кожны, але толькі ў карнавальным касьцюме. Налета ў Бабруйску плянуецца сапраўднае карнавальнае шэсьце ў гонар бульбы.

**Віктар Качан, Бабруйск**

## Пісаць цёмна

**У Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі эканомяць электрычнасьць.** Штодня загадчыкі катэдраў наведваюць заняткі, правяраючы, ці не гарыць сьвятло ў аўдыторыях пасьля 10-й. Пісаць цёмна, але БДСГА вінаватая за электрычнасьць аж 108 млн. рублёў. Па гэтым паказьніку Акадэмія выйшла на першае месца сярод навучальных установаў краіны.

**Ільля Заранок, Горкі**

## "Разам!" пад забаронай

**Гарадзенскі гарвыканкам не зарэгістраваў незалежную газэту "Разам!"**, матывававўшы адмову тым, што заснавальнік, прадпрымальнік Юры Лакціёнаў, цяпер вучыцца ў Гарадзенскім унівэрсытэце ды "ня мае досьведу працы ў якасьці журналіста і выдаўца". Ю.Лакціёнаў зьбіраецца абскардзіць рашэньне ў аблвыканкаме. Газэта "Разам!" выходзіла незарэгістраваная ад сакавіка 2001 г. накладам 299 асобнікаў. На сёньня ўбачыла сьвет 11 нумароў. Пасьля закрыцьця "Пагоні" гарвыканкам не дазволіў зарэгістраваць у Горадні ніводнай грамадзка-палітычнай газэты.

**Пагонявец**

## Сорак халасьцякоў

**Цяпер у вёсках Лебядзянкаўскага сельсавету жыве каля сарака бабылёў.** Сярэдні іх век — пад сорак гадоў. Асноўнай перашкодай для стварэньня сям'і яны называюць беднасьць.

## Адважныя бялынічане

**На тэрыторыі Бялыніцкага раёну з пачатку году зарэгістравана 15 выпадкаў шаленства лісіцаў (па вобласьці — 79).** Толькі за апошнія дзесяць дзён адважныя жыхары раёну злавілі й зьнішчылі 5 шалёных жывёлін.



**Базыль Ліцьвіновіч, Бялынічы**

## Začyniajuć školu milicyji

**Na hetym tydni ū Baranavickaj škole milicyji pačnie pracavać likvidacyjnaja kamisija.** Ministar unutranych spravaū U.Navumaū kaža, što ū tamtejšych kursantaū niama dobrych vykładčykaū: bolšaść — byłyja opery i ūčastkovyja biez pedahahičnaje adukacyji. Škoła milicyji naleta budzie rasfarmavanaja — kursantaū raskidajuć pa inšych navučalnych ustanovach MUS.

## Žbiū dziaūčynu

**Nieviadomy napaū na dźviuch dziaūčat, što ūviečary jšli pa baranavickaj vul.Praminskaha.** Złačynca źdźior z płača adnoj sumku i źbiraūsia dać łataty, ale siabroūka pasprabavała zatrymać złodzieja. Mužčyna byū macniejšy j na horki jabłyk žbiū dziaūčynu dy ūciok. Taja trapiła ū špital z strasieńniem mazhoū i złamanym nosam.

## Honki pa praspekcie

**Vyrašyū chłopiec unačy pakatać dziaūčynu na mašynie.** Uziaūšy chutkaść 150 km/h, jon paniośsia pa Savieckim praspekcie Baranavič. Dy nia daū rady kiravańniu, urezaūsia ū słup. Ad udaru mašyna vybuchnuła. Chłopiec zahinuū na miescy. Dziaūčyna pakalečyłasia, ale zastałasia žyvaja. Śviedki kažuć, što jana vylecieła praz łabavoje škło.

**Rusłan Raviaka, Baranavičy**

## Падарункі для музэю

**Фонды Гарадзенскага гістарычна-краязнаўчага музэю папоўніліся за кошт старых рэчаў, падараваных людзьмі.** Так, Канстанцін Сіткевіч з Хвайнянаў аддаў у музэй медны ляк, пілу з самаробнай аправай для выпілоўкі кругу ды іншае. Клаўдзія Мелех з тае самае вёскі падаравала самаробныя шарсьцяныя андаракі, якія ў свой час выткала яе маці Барбара. Андаракі тыя зьбераліся ў матчыным куфры. Мікалай Мацута з Сухаўлянаў аддаў бронзавы падсьвечнік... Усе набыткі, якія зоймуць сваё месца ў залях музэю, цяжка зьлічыць.

**Ільля Барысаў, Скідзель**

## 9 ПАНЯДЗЕЛАК, СЬНЕЖНЯ

### БТ

6.00, 7.00, 8.00, 9.00, 12.00, 15.00, 18.00, 23.00 Навіны.
6.15, 7.15, 8.15 Добрай раніцы, Беларусь!
9.15, 17.00 "Пецярбурскія таямніцы". Сэрыял.
10.05 Кола тэлеагляду.
10.20 Існасьць. Духоўная праграма.
10.45 Плянэта АРТ.
11.10, 22.00 "Магія каханьня". Сэрыял.
12.20 "На скрыжаваньнях Эўропы". Нацыянальны тэлефэстываль песьні.
13.05 Тэлебаромэтар. Прагноз надвор'я.
13.20 Мэлядрама "Чалавек з бульвару Капуцынаў".
15.20 "Таямніца Сагалы". Сэрыял для дзяцей.
15.45 "Сузор'е надзей". Нацыянальны тэлевізійны конкурс юных талентаў.
16.15 Мультыклюб.
16.55 Кліп-абойма.
18.20 Драма па рамане У.Колінз "Бэзыл" (Вялікабрытанія–ЗША)
20.05 Галоўнае пытаньне.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама. Інфармацыйны канал.
21.45 Навіны рэгіёну.
22.50 10 хвілін пра спорт.
23.20 Зона Ікс.
23.30 Сэрыял "Першая хваля" (Канада–ЗША).

### СТВ

5.00 "Мэш". Сэрыял.
5.30 "Шэршэ ля ФАН".
6.00, 15.35 "Чарапашкі ніндзя: новая мутацыя". Тэлесэрыял.
6.30, 15.05 "Джым Батан". Мультсэрыял.
7.00, 14.35 "Чалавек-павук". Мультсэрыял.
7.30 "168 гадзін". Інфармацыйна-аналітычная праграма.
8.15 "Меншчына. Людзі, падзеі, факты".
8.25, 21.00 "Арт-экспрэс". Культурнае жыцьцё сталіцы.
8.40, 23.05 "Тэхналёгія".
8.50 Кіно: У.Якімаў, М.Кокшанаў, А.Булдакоў у крымінальнай камэдыі "Пляменьнік, ці Расейскі бізнэс-2".
11.00 "Навіны сусьветнай шоў-індустрыі".
11.30 "Яга, цёмная страсьць". Тэленавэла.
12.30, 16.30, 19.30, 23.15 "24 гадзіны".
12.50 "У нас усе дома". Камэдыйны сэрыял.
13.20, 18.35 "NEXT-2". Тэлесэрыял. Заключная сэрыя.
16.05 "Сьвет Бобі". Мультсэрыял.
16.50 "Сямейныя жарсьці". Ток-шоў.
17.55 "Пад вуглом 23 з паловай". Дак.фільм.
18.25 "Хіт-момант".
19.45 "Навіны СНД.
20.00 "Добры вечар, маленькі...".
20.15 "СТВ-спорт".
20.35 "Партрэт у інтэр'еры".
20.50 "Запрашаем паскардзіцца".
21.15 Кіно: Жэрар Дэпардзье ў камэдыі "Паміж анёлам і д'яблам". Францыя, 1995.
23.30 Футбольны кур'ер.
0.05 "Накаўт". Навіны боксу.
0.30 Кіно: фантастычны фільм "Монстар зь бездані". ЗША. 1988.

### 8 канал

17.30 Мультфільм "Том і Джэры".
17.40 Шон Конэры ў маст. фільме "Сонца, якое ўзыходзіць".
19.50 Дак. фільм "Апошні кракадзіл".
20.40 Тэлекрама.
20.45 "Вечарніца".
21.00 "Аўта-курс".
21.15 Маст. фільм "Дзень сурка".

### Першы музычны канал

7.00, 8.10 "Пад'ёмнік".
8.00, 22.00 "120/80".
8.30. 17.00, 20.30, 22.15 MegaMix.
12.00 "Azon".
14.00, 22.10 Навіны спорту.
14.10 "ІнтэрАктыў".
16.00 "Скул-парад".
18.30 Музыка.ru.
19.30 People-mix.

### АНТ

8.00 Тэлеканал "Добрай раніцы".
9.00 АНТ прадстаўляе. "Контуры".
9.40 "Што? Дзе? Калі?"
10.50, 23.15 "Фабрыка зорак".
11.20 Сьледзтва вядзе Калабкоў.
15.45 Рычард Чэмбэрлен у прыгодніцкім фільме "Чалавек у жалезнай масцы".
17.15 Чалавек і закон.
18.00, 20.30, 23.05 "Нашы навіны".
18.10 "Вялікае мыцьцё".
19.00 Чакай мяне.
20.00 Час.
21.00 "Хто хоча стаць мільянэрам?".
22.00 "Сьледзтва вядуць знатакі". Справа №24. "Пуд золата". 5-я сэрыя.
23.45 "Іншы час".

### РТР

17.50 Сэрыял "Зладзейка. Шчасьце напракат".
18.50 "Дабранач, дзеці!".
19.00 Весткі.
19.35 Мясцовы час. Весткі–Масква.
19.55 Сэрыял "Мужчынская работа-2".
20.50 Сэрыял "Людзі і цені".
22.00 Ток-шоў "Весткі +".
22.30 Весткі. Дзяжурная часьць.
22.45 "Культурная рэвалюцыя". "Расея абавязкова зробіцца чэмпіёнам сьвету па футболе".

### Культура

17.30, 23.00 Навіны культуры.
17.45 Улада факту.
18.10 "Дапамажыце Тэлеку".
18.20 Сцэнаграма.
18.45 Час музыкі.
19.25 "Сямёра супраць шэрага". Дак. фільм.
19.50 А.Салжаніцын. "Шарашка". Спэктакль Тэатру на Таганцы.
22.00 Весткі.
22.15 "Уяўны музэй Міхаіла Шамякіна". Перадача 3-я.
23.25 "Начны палёт".

### НТВ

9.00 "Сёньня раніцай".
9.20 Надвор'е на заўтра.
9.25 "Надоечы".
11.00, 15.00, 16.00, 17.00 "Сёньня".
14.40 "Якія ўпрыгажэньні нам пасуюць?" Ток-шоў "Прынцып даміно".
16.05 Сэрыял "Дальнабойнікі". "Вэраніка".
17.15 "Увага. Вышук!".
18.00 "Сёньня" з Тацянай Мітковай.
18.35, 22.15 Сэрыял "Грамадзянін начальнік".
19.45 Прэм'ера. Дэтэктыў "Лялька", 1-я сэрыя.
21.00 "Сёньня ўвечары" з Кірылам Пазьняковым.
21.35 Сэрыял "Трэці лішні".

### Эўраспорт

9.30 Аўтаспорт Гонкі чэмпіёнаў. Гішпанія. Паўтор.
10.30 Санны спорт. Кубак сьвету. Обэрхаф, Нямеччына. Паўтор.
11.00 Лыжныя гонкі. Кубак сьвету. Давос, Швайцарыя. Мужчыны. Эстафэта. 4х10. Паўтор.
12.00 Лыжныя гонкі. Кубак сьвету. Давос, Швайцарыя. Жанчыны. Эстафэта. 4х5. Паўтор.
13.00 Керлінг. Чэмпіянат Эўропы. Швайцарыя. Мужчыны. Нямеччына–Швэцыя. Жывая трансьляцыя.
16.00 Скачкі на лыжах з трампліну. Кубак сьвету. Тронхэйм, Нарвэгія. Паўтор.
17.30 Скачкі на лыжах з трампліну. Кубак сьвету. Тронхэйм, Нарвэгія. К 120. Паўтор.
19.00 Эўрагалы. Футбольны часопіс.
21.00 Парусны спорт. Кубак Люі Ўітана. Паўфінал. Новая Зэляндыя.
22.00 Керлінг. Чэмпіянат Эўропы. Швайцарыя. Жанчыны. Нямеччына–Фінляндыя. Жывая трансьляцыя.
0.30 Эўрагалы. Футбольны часопіс. Паўтор.

## 10 АЎТОРАК, СЬНЕЖНЯ

### БТ

**Тэхнічная прафіляктыка да 15.00.**
15.00, 18.00, 23.00 Навіны.
15.25 "Таямніца Сагалы". Сэрыял для дзяцей.
15.50 "Усе на арбіту!" Пазнавальны сэрыял.
16.00 Пяць цудаў.
16.10 5х5.
16.55 Кліп-абойма.
17.00 "Пецярбурскія таямніцы". Сэрыял.
18.20 Маст. фільм "Немагчымае каханьне" (Міжнародны францускі канал).
20.05 Ток-шоў "Стадыён".
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама. Інфармацыйны канал.
21.45 Навіны рэгіёну.
22.00 "Магія каханьня". Сэрыял.
22.50 10 хвілін пра спорт.
23.20 Зона Ікс.
23.30 Начны этэр.
0.35 М. фон Зюдаў і Ш.Рэмплінг у драме "Час – грошы" (Францыя).

### СТВ

5.00 "Мэш". Камэдыйны сэрыял.
5.30 "Шэршэ ля ФАН".
6.00, 15.35 "Чарапашкі ніндзя: новая мутацыя". Тэлесэрыял.
6.30, 15.05 "Джым Батан". Мультсэрыял.
7.00, 14.35 "Чалавек-павук". Мультсэрыял.
7.30, 12.30, 16.30, 19.30, 23.55 "24 гадзіны".
7.45, 20.15 "СТВ-спорт".
8.05 "Меншчына. Людзі, падзеі, факты".
8.15, 19.45 "Навіны СНД.
8.30, 20.50 "Менск і менчукі".
8.40, 23.45 "Тэхналёгія".
8.50 Кіно: Катрын Дэнёў, Жан Люі Трэнціньян, Жэрар Дэпардзье ў псыхалягічнай драме "Я кахаю Вас" (Францыя, 1981).
11.00 "Пакуль гарыць сьвечка".
11.30 "Яга, цёмная страсьць". Тэленавэла.
12.50 "Вовачка". Камэдыйны сэрыял.
13.20, 18.35 Прэм'ера на канале: "Немагчымыя зялёныя вочы". Тэлесэрыял.
16.05 "Сьвет Бобі". Мультсэрыял.
16.50 "Сямейныя жарсьці". Ток-шоў.
17.55 "Пад вуглом 23 з паловай". Дак. фільм.
18.25 "Хіт-момант".
20.00 "Добры вечар, маленькі...".
20.25 "Тэма дня".
20.35 "Добры дзень, доктар!".
21.00 "Закон і крымінал".
21.15 Кіно: Уіл Сьміт, Біл Пулмэн, Джэф Голдблюм у фантастычным баевіку "Дзень Незалежнасьці" (ЗША, 1996).
0.10 Кіно: Джэйн Фонда, Джэк Лемон, Майкл Дуглас у драматычным трылеры "Кітайскі сындром" (ЗША).

### 8 канал

17.30 Мультпарад.
17.40 Маст. фільм "Фані і Аляксандар", 1-я сэрыя.
19.30 Дак. сэрыял "За мяжой рэальнасьці".
19.55 Сэрыял "Доктар Жывага".
20.40 Тэлекрама.
20.45 "Вечарніца".
21.00 Гурман-клюб.
21.20 Маст. фільм "Жанчына бяз правілаў".

### Першы музычны канал

7.00, 8.10 "Пад'ёмнік".
8.00, 22.00 "120/80".
8.30, 17.30, 20.30, 21.15, 22.15 MegaMix.
12.00, 16.40 "Azon".
14.00, 22.10 Навіны спорту.
14.10 "ІнтэрАктыў.
16.00 "20-ка Першых".
18.30 Музыка.ru.
19.30 People-mix.
21.00 "Калыханка ад Сашы і Сірожы".

### АНТ

8.00 Тэлеканал "Добрай раніцы".
9.00 Навіны.
9.15, 19.05 "Сямейныя повязі". Сэрыял.
10.00 Жывёлы-парушальнікі. Вострасюжэтны фільм "Сапраўдная гісторыя ўцёкаў з куратніку".
10.50, 23.25 "Фабрыка зорак".
11.20 Дыснэй-клюб. "Перапынак".
15.45 Вяртаньне Каломба. Дэтэктыў "Закон Каломба".
17.15 Незалежнае расьсьледаваньне.
18.00, 20.30, 23.25 "Нашы навіны"
18.10 "Вялікае мыцьцё".
20.00 Час.
21.00 "Апошні герой-2". "Шанец".
22.10 "Сьледзтва вядуць знатакі". Справа №24. "Пуд золата". 6-я сэрыя, заключная.
23.55 Тэлеканал "Новы дзень". Шукальнікі. "Зьніклы скарб Івана Гroзнага".

### РТР

7.45, 19.55 Сэрыял "Мужчынская работа-2".
8.40, 20.50 Сэрыял "Людзі і цені".
9.45, 22.30 Весткі. Дзяжурная часьць.
10.00, 19.00 Весткі.
17.50 Сэрыял "Зладзейка. Шчасьце напракат".
18.50 "Дабранач, дзеці!".
19.35 Мясцовы час. Весткі-Масква.
22.00 Ток-шоў "Весткі +".
22.45 Апошні сэанс. Цім Робінз і Джэф Брыджэс у вострасюжэтным фільме "Дарога на Арлінгтон" (ЗША, 1999 г.).

### Культура

15.15 "Разуменьне". "Кіраваньне паветраным рухам".
16.05 Праграма перадач на вечар.
16.10 "Пятае вымярэньне".
16.40 "Жонка фэрмэра". Дак. сэрыял (ЗША). 6-я сэрыя.
17.30, 23.00 Навіны культуры.
17.45 "Палацавыя таямніцы". "Чорненькія вусікі".
18.10 "Дапамажыце Тэлеку".
18.20 Дак. сэрыял "Жыла-была Цэнзура...". 3-я сэрыя. "Партыя – ня наш стырнавы".
18.45 "Партытуры не гараць".
19.10 Сьпявае Дзьмітры Хварастоўскі.
19.25 "Уваскрэсеньне". Маст. фільм. Рэжысэр М.Швэйцар 1-я сэрыя.
21.05 "Што рабіць?".
22.00 Весткі.
22.15 "Апокрыф".
23.25 "Начны палёт".

### НТВ

9.00 "Сёньня раніцай"
9.20 "Нацыянальная бясьпека. Зьніклыя дзеці". Расьсьледаваньне НТВ.
10.00, 11.00, 15.00, 16.00, 17.00 "Сеньня".
10.00 "Кулінарны паядынак. ЗША–Канада".
14.40 "Жаночая мудрасьць". Ток-шоў "Прынцып даміно".
16.05 Дэтэктыў "Бандыцкі Пецярбург".
17.20 Дак. драма "Злачынства і пакараньне".
18.00 "Сеньня" з Тацянай Мітковай.
18.35, 22.15 Сэрыял "Грамадзянін начальнік".
19.45 Дэтэктыў "Лялька", 2-я сэрыя.
21.00 "Сёньня ўвечары" з Кірылам Пазьняковым.
21.35 Сэрыял "Трэці лішні".

### Эўраспорт

9.30 Скачкі на лыжах з трампліну. Кубак сьвету. Тронхэйм, Нарвэгія. К 120. Паўтор.
11.00 Эўрагалы. Футбольны часопіс Паўтор.
13.00 Керлінг. Чэмпіянат Эўропы Швайцарыя. Жанчыны. Швайцарыя–Швэцыя. Жывая трансьляцыя
16.00 Керлінг. Чэмпіянат Эўропы Швайцарыя. Швайцарыя–Англія
17.00 Керлінг. Чэмпіянат Эўропы Швайцарыя. Мужчыны. Нямеччына–Англія.
20.00 Керлінг. Чэмпіянат Эўропы Швайцарыя. Нямеччына–Данія.
20.30 Экстрэмальныя віды спорту.
21.00 Парусны спорт. Кубак Люі Ўітана. Паўфінал. Новая Зэляндыя.
22.00 Бокс.
0.15 Аўтагонкі. Сан-Паўлу.
0.45 Керлінг. Чэмпіянат Эўропы Швайцарыя. Мужчыны. Нямеччына–Англія. Паўтор.

## 11 СЕРАДА, СЬНЕЖНЯ

### БТ

6.00, 7.00, 8.00, 9.00, 12.00, 15.00, 18.00, 23.00 Навіны.
6.15, 7.15, 8.15 Добрай раніцы, Беларусь!
9.15, 17.00 "Пецярбурскія таямніцы". Сэрыял.
10.05 "Падарожжа вакол сьвету". Дак. сэрыял (ЗША).
10.20 Тэлевізійны Дом кіно. Вынікі IX Менскага міжнароднага кінафэстывалю "Лістапад-2002"
10.45 Здароўе. Тэлечасопіс.
11.10, 22.00 "Магія каханьня" Сэрыял.
12.20 Добры дзень, Беларусь!
13.10 Крымінальная камэдыя "Шукайце жанчыну". 1-я сэрыя.
14.30 Дак.сэрыял "Патаемныя людзі".
15.25 "Таямніца Сагалы". Сэрыял для дзяцей. Заключная сэрыя.
15.50 "Усе на арбіту!" Пазнавальны сэрыял.
16.00 Пяць цудаў.
16.10 5х5.
16.55 Кліп-абойма.
18.20 "Масква–Менск".
18.35 Прыгодніцкі фільм "Маўклівыя драпежнікі" (ЗША).
20.10 "Пад крыжам Эўфрасіньні".
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама. Інфармацыйны канал.
21.45 Навіны рэгіёну.
22.50 10 хвілін пра спорт.
23.20 Зона Ікс.
23.30 Начны этэр.
1.05 Любоўны трылер "Фэлікс і Лёля" (Францыя).

### СТВ

5.00 "Мэш". Камэдыйны сэрыял.
5.30 "Шэршэ ля ФАН".
6.00, 15.35 "Чарапашкі ніндзя: новая мутацыя". Тэлесэрыял.
6.30, 15.05 "Джым Батан". Мультсэрыял.
7.00, 14.35 "Чалавек-павук". Мультсэрыял.
7.30, 12.30, 16.30, 19.30, 23.10 "24 гадзіны".
7.45, 20.15 "СТВ-спорт".
7.55 "Меншчына. Людзі, падзеі, факты".
8.05, 19.45 "Навіны СНД".
8.20 "Добры дзень, доктар!".
8.35 "Сьнеданьне зь Інай Афанасьевай".
8.40, 23.00 "Тэхналёгія".
8.50 Кіно: Джэймз Колі ў баевіку "Зорка Джайпура". ЗША. 1998.
11.00 "Аўтапанарама".
11.15 "Закон і крымінал".
11.30 "Яга, цёмная страсьць". Тэленавэла.
12.50 "Такая прафэсія".
13.20, 18.35 "Немагчымыя зялёныя вочы". Тэлесэрыял.
16.05 "Сьвет Бобі". Мультсэрыял.
16.50 "Сямейныя жарсьці". Ток-шоў.
17.55 "Пад вуглом 23 з паловай". Дак. фільм.
18.25 "Хіт-момант".
20.00 "Добры вечар, маленькі...".
20.25 "Навіны сусьветнай шоў-індустрыі".
21.00 "Аўтапанарама".
21.15 Кіно: Люі Дэ Фюнэс у камэдыі "Крыльца ці ножка". Францыя, 1976.
23.25 "Ілюзіён": Хемфры Богарт і Лорын Бэкал у вайсковай драме "Мець і ня мець". ЗША. 1944.

### 8 канал

17.30 Мультпарад.
17.40 Маст. фільм "Фані і Аляксандар", 2-я сэрыя.
19.30 Дак. сэрыял "За мяжой рэальнасьці".
19.55 Сэрыял "Доктар Жывага".
20.40 Тэлекрама.
20.45 "Вечарніца".
21.00 Эўропа сёньня.
21.30 Містычны трылер "Начны вартаўнік".

### Першы музычны канал

7.00, 8.10 "Пад'ёмнік".
8.00, 22.00 "120/80".
8.30, 17.00, 19.30, 20.30, 22.15 MegaMix.
12.00, 16.00 "Azon".
14.00, 22.10 Навіны спорту.
14.10 "ІнтэрАктыў".
18.30 Музыка.RU.
19.30 People-mix.

### АНТ

8.00 Тэлеканал "Добрай раніцы".
9.00 Навіны.
9.15 "Сямейныя повязі". Сэрыял.
10.00 Чакай мяне (з сурдаперакладам).
10.50, 0.30 "Фабрыка зорак".
11.20 Дыснэй-клюб. "Лойд у космасе".
15.40 М.Озераў, А.Папанаў і А.Джыгарханян у маст. фільме "Адзінаццаць надзей".
17.25 "Жарт за жартам".
18.00, 20.30, 22.35 "Нашы навіны".
18.10 "Вялікае мыцьцё".
19.00, 21.00 Леў Лешчанка, Ларыса Доліна, Алег Газманаў у канцэрце, прысьвечаным 80-годзьдзю Мікалая Озерава.
20.00 Час.
22.00 Мікалай Озераў. Пяць год без камэнтару.
22.45 Мішэль Пфайфэр і Джэсыка Лэнг у драме "Тысяча акраў".

### РТР

7.45, 19.55 Сэрыял "Мужчынская работа-2".
8.40, 20.50 Сэрыял "Людзі і цені".
9.45 Весткі. Дзяжурная часьць.
10.00, 19.00 Весткі.
17.50 Сэрыял "Зладзейка. Шчасьце напракат".
18.50 "Дабранач, дзеці!".
19.35 Мясцовы час. Весткі–Масква.
21.50 Прэм'ера. "Стань зоркай".
22.50 Апошні сэанс. А.Хасьцікоеў, А.Берда і Л.Кулагін у вострасюжэтным фільме "Штэмп". 1991 г.

### Культура

15.20 "Разуменьне". "Вайна будучыні".
16.10 Клясыкі сучаснага мастацтва. Нэнсі Сьпіра.
16.35 "Жонка фэрмэра". Дак. сэрыял (ЗША). 7-я сэрыя.
17.30, 23.00 Навіны культуры.
17.45 "Айчына і лёсы". Дарашэвічы.
18.10 "Дапамажыце Тэлеку".
18.20 Дак. сэрыял "Жыла-была Цэнзура..." 4-я сэрыя. "Наперад, у мінулае".
18.45 "Вакзал мары".
19.25 "Уваскрэсеньне". Маст. фільм. Рэжысэр М.Швэйцар. 2-я сэрыя.
21.05 Ток-шоў "Школа зласлоўя".
22.00 Весткі.
22.15 "Астравы". Ісаак Шварц.
23.25 "Начны палёт".

### НТВ

9.00 "Сёньня раніцай".
9.20 "Вочная стаўка".
10.00, 11.00, 15.00, 16.00, 17.00 "Сёньня".
10.00 "Кватэрнае пытаньне". "Паўгадзіны на рамонт".
14.40 "Якой павінна быць песьня для народу?" Ток-шоў "Прынцып даміно".
16.05, 19.45 Дэтэктыў "Лялька".
17.20 "Шчырае прызнаньне".
18.00 "Сёньня" з Тацянай Мітковай.
18.35 Сэрыял "Грамадзянін начальнік", 7-я сэрыя.
21.00 "Сеньня ўвечары" з Кірылам Пазьняковым.
21.35 Футбол. Ліга чэмпіёнаў. "Рэал" (Гішпанія) – "Лякаматыў". Жывая трансьляцыя.

### Эўраспорт

9.30 Эўрагалы. Футбольны часопіс. Паўтор.
11.00 Керлінг. Чэмпіянат Эўропы. Швайцарыя. Мужчыны. Нямеччына–Англія. Паўтор.
12.00 Лыжныя гонкі. Кубак сьвету. Мужчыны. Жанчыны. Спрынт, Клузон.
13.30 Снаўборд.
14.00 Фрыстайл.
14.30 Біятлён. Кубак сьвету. Жанчыны. Гонка-перасьлед. Паўтор.
15.15 Біятлён. Кубак сьвету. Жанчыны. Паклюка.
17.00 Керлінг. Чэмпіянат Эўропы. Швайцарыя. Мужчыны. Нямеччына–Шатляндыя
20.00, 1.15 Біятлён. Кубак сьвету. Жанчыны. Паклюка. Паўтор.
21.00 Парусны спорт. Кубак Люі Ўітана. Паўфінал. Новая Зэляндыя.
22.00 Керлінг. Чэмпіянат Эўропы. Швайцарыя. Мужчыны. Швэцыя–Англія.
0.15 Конны спорт. Ля Карона.

## 12 ЧАЦЬВЕР, СЬНЕЖНЯ

### БТ

6.00, 7.00, 8.00, 9.00, 12.00, 15.00, 18.00, 23.00 Навіны.
6.15, 7.15, 8.15 Добрай раніцы, Беларусь!
9.15, 17.00 "Пецярбурскія таямніцы". Сэрыял.
10.05 "Падарожжа вакол сьвету". Дак. сэрыял (ЗША).
10.20 "Пад крыжам Эўфрасіньні".
10.45 "Лёс чалавека".
11.10, 22.00 "Магія каханьня". Сэрыял.
12.20 Добры дзень, Беларусь!
13.15 Крымінальная камэдыя "Шукайце жанчыну". 2-я сэрыя.
14.30 Дак. сэрыял "Патаемныя людзі".
15.25 "Легенда пра забыты горад". Сэрыял для дзяцей (Канада) 1-я сэрыя.
15.50 "Усе на арбіту!" Пазнавальны сэрыял.
16.05 Пяць цудаў.
16.15 5х5.
18.20 Парлямэнцкі весьнік.
18.35 Сямейная мэлядрама "Застанёмся разам" (Нямеччына).
20.15 Крымінальнае дасье. "Справа маёра Шаблоўскага".
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама. Інфармацыйны канал.
21.45 Навіны рэгіёну.
22.50 10 хвілін пра спорт.
23.20 Зона Ікс.
23.30 Начны этэр.
1.05 Д.Атэй і Т.Лерміт у крымінальнай драме "Паведамляльнік" (Францыя).

### СТВ

5.30 "Шэршэ ля ФАН".
6.00, 14.50 "Сьвет Бобі". Мультсэрыял.
6.25, 14.00 "Чарапашкі ніндзя: новая мутацыя". Тэлесэрыял.
6.50 "Джым Батан". Мультсэрыял.
7.20 "Цяп-ляп маляры". Мультфільм.
7.30, 12.30, 19.30, 23.05 "24 гадзіны".
7.45, 20.15 "СТВ-спорт".
7.55 "Меншчына. Людзі, падзеі, факты".
8.05, 19.45 "Навіны СНД".
8.20, 22.55 "Тэхналёгія".
8.30 Кіно: Сыльвэстар Сталонэ і Долі Партан у музычнай камэдыі "Таксіст і сьпявачка". ЗША. 1984.
10.50 "Партрэт у інтэр'еры".
11.05 "Фільм, фільм, фільм".
11.20, 18.35 "Немагчымыя зялёныя вочы". Тэлесэрыял.
12.45 Кіно: У.Праскурын, К.Лаўроў, С.Любшын, В.Нявінны, Н.Фацеева ў камэдыі "Шкура".
14.25 "Чалавек-павук". Мультсэрыял.
15.20 Кіно: В.Панізава і А.Абдулаў у мэлядраме "Грэх. Гісторыя страсьці".
17.55 "Пад вуглом 23 з паловай". Дак. фільм.
18.25 "Хіт-момант".
20.00 "Добры вечар, маленькі...".
20.25 "Радыёкропка".
20.45 "Рамонт".
21.00 "Тэатральныя гісторыі".
21.20 Кіно: трылер "Падстава" (Англія, 1999).
23.20 Ілюзіён: Грэта Гарба ў драме "Каралева Хрысьціна". (ЗША, 1933).

### 8 канал

17.30 Мультпарад.
17.40 Крымінальная драма "Барвовыя рэкі".
19.30 Дак. сэрыял "За мяжой рэальнасьці".
19.55 Сэрыял "Доктар Жывага".
20.40 Тэлекрама.
20.45 "Вечарніца".
21.00 "Аўта-курс".
21.15 Крымінальная мэлядрама "Цыган".

### Першы музычны канал

7.00, 8.10 "Пад'ёмнік".
8.00, 22.00 "120/80".
15.00 "ІнтэрАктыў".
16.00 "Azon".
17.00, 20.30, 21.15, 22.15 MegaMix.
18.30 Музыка.ru.
19.30 People-mix.
21.00 "Калыханка ад Сашы і Сірожы".
22.10 Навіны спорту.
22.30 "Поцемкі".

### АНТ

8.00 Навіны.
8.10 Л.Лужына, А.Іншакоў у прыгодніцкім фільме "Кошт скарбаў".
9.40 Дог-шоў.
10.25, 0.00 "Фабрыка зорак".
10.55 Мультсэанс. "Казка пра Залатога Пеўніка".
15.50 А.Растоцкі і А.Ліванаў у прыгодніцкім фільме "Той, хто дужэйшы".
17.25 Сьмехапанарама.
18.00, 20.30, 23.50 "Нашы навіны".
18.10 Камэдыя "Сьціскаючы зубы".
20.00 Час.
21.00 Сьвяточны канцэрт з удзелам А.Пугачовай, П.Кіркорава, Л.Долінай, Ю.Антонава, групы "Любэ".

### РТР

7.50 Г.Віцын, Л.Сьмірнова, М.Кручкоў і Н.Мардзюкова ў камэдыі "Вясельле Бальзамінава". 1964 г.
9.40 "Пакой сьмеху".
17.15 А.Дзям'яненка, Н.Варлей, У.Этуш у камэдыі Л.Гайдая "Каўкаская палоньніца, ці Новыя прыгоды Шурыка".
19.00 Весткі.
19.25 Прэм'ера. "Аншляг" на Алтаі".
23.05 Апошні сэанс. Л.Удавічэнка, С.Баталаў і В.Сьцяпанаў у камэдыі "Шуб-баба Люба!". 2000 г.

### Культура

14.40 "Страсьці па Бумбарашу". Спэктакль Тэатру-студыі пад кіраўніцтвам А.Табакова.
16.20 "Няскончанае НЗ". Дак. фільм. Часткі 1-я і 2-я.
17.15 Вечар венскай музыкі.
17.55 "Георгі Менглет – учора, сёньня і заўсёды..." Вечар у Тэатры сатыры.
18.50 "Мы з джазу". Маст. фільм
20.15 "Культурная рэвалюцыя". "Камунізм – сьветлая будучыня чалавецтва".
21.10 "Культ кіно". "Расьсякаючы хвалі". Маст. фільм (Данія, 1996).

### НТВ

9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00 "Сёньня".
9.05 "Кулінарны паядынак. Індыя – Японія".
10.05 "Кватэрнае пытаньне. Люстра замест акна".
15.00, 18.00 "Сеньня" зь Юр'ем Ліпатавым.
15.20 Ірына Радніна. "Жаночы погляд" Аксаны Пушкінай.
16.05 М.Еўдакімаў, Я.Петрасян, В.Каклюшкін, А.Трушкін, А.Газманаў, Я.Арлазораў, А.Буйноў у гумарыстычным канцэрце "Хутка Новы год!".
18.30 А.Захарава і Д.Пяўцоў у крымінальнай камэдыі "Тонкая штучка".
20.15 Мэл Гібсан і Дэні Гловэр у баевіку "Сьмяротная зброя-3" (ЗША).

### Эўраспорт

9.30 Парусны спорт. Кубак Люі Ўітана. Паўфінал. Новая Зэляндыя. Паўтор.
10.30, 13.30 Горныя лыжы. Кубак сьвету. Вал Д Ізэр. Гігант слалам. Жанчыны. Жывая трансьляцыя.
11.30 Конны спорт. Ля Карона. Паўтор.
12.30 Біятлён. Кубак сьвету. Жанчыны. Паклюка. Паўтор.
14.30 Снаўборд. Паўтор.
15.00 Біятлён. Кубак сьвету. Мужчыны. Гонка-перасьледаваньне. Паклюка. Жывая трансьляцыя.
16.45 Плаваньне, Чэмпіянат Эўропы, Жывая трансьляцыя.
18.00 Керлінг. Чэмпіянат Эўропы. Швайцарыя. Мужчыны.
20.00 Біятлён. Кубак сьвету. Мужчыны. Паклюка. Паўтор.
21.00 Керлінг. Чэмпіянат Эўропы. Швайцарыя. Мужчыны. Жывая трансьляцыя.
0.15 Футбол, Кубак УЭФА, Спэцагляд.

# Нямецкая школа дэмакратызуецца

**Ад 20 да 26 кастрычніка мне выпала ўдзельнічаць у праграме падвышэньня кваліфікацыі для беларускіх дырэктараў і настаўнікаў, якая адбывалася ў Нямеччыне. Мы наведалі пяць школаў рознага кшталту ў землях Бэрлін, Брандэнбург і Саксонія-Ангальт, зблізку зірнулі на жыцьцё людзей у сталіцы Нямеччыны і трох "райцэнтрах" — Патсдаме, Дэсаў і Вітэнбэргу.**



### Эмігранты ня вучацца

Нямецкім настаўнікам жыцьцё дало апошнім часам два сыгналы аб тым, што ў сыстэме адукацыі ня ўсё ў парадку. Першы прагучаў пры канцы вясны: у Эрфурце юнак застрэліў сваіх гімназічных настаўнікаў, якія другі год запар не прызнавалі яго дастаткова "сьпелым" для паступленьня ў ВНУ. Другім "alarmo tremolo" былі дрэнныя вынікі міжнароднага тэставаньня базавых навыкаў школьнікаў 32 краінаў. Нямеччыя вучні занялі месца ў апошняй трацыне.

Першы выпадак — гэта хутчэй выключэньне ў стабільным нямецкім школьным соцыюме. Што ж да вынікаў тэставаньня, дык у такой краіне, як фэдэратыўная Нямеччына зь яе сувэрэннымі землямі й дыспрапорцыяй разьвіцьця паміж Захадам і Ўсходам, любая статыстыка будзе падобная да сярэднестатыстычнай тэмпэратуры хворых у палацы. Вучні з Бадэн-Вюртэмбэргу добра напісалі тэсты, школьнікі Брэмэну — вельмі дрэнна. Спадар Краеўскі, раднік школьнага ведамства Бэрліна, кажа, што дрэнныя вынікі можна часткова патлумачыць наплывам эмігрантаў у краіну. У адным Бэрліне легальна жывуць пад 300 тыс. туркаў, і яшчэ столькі сама — нелегальна. Яны селяцца кампактна і зь цяжкасьцю засвойваюць нямецкую культуру. Гэты сацыяльна адчужаны пласт разам з прадстаўнікамі яшчэ сотні нацыянальнасьцяў, што насяляюць сталіцу, дадае праблемаў школьнай сыстэме.

### Рады і прадстаўніцтвы

У нямецкіх школах — вучнёўскае самакіраваньне. Школьнікі там куды больш самастойныя ў сваіх рашэньнях, чым нашыя, а дырэктары й пэдагогі робяць стаўку на гэтую самастойнасьць і самадастатковасьць, а не валакуць на карку цяжкі камень аўтарытарнае пэдагогікі, як шмат дзе ў нас.

Так, у школе імя Макса Бэкмана, што месьціцца ў зусім не рэспэктабэльнай частцы былога Ўсходняга Бэрліну, — два ўзроўні "школьнае дэмакратыі". Па-першае, гэта школьная Рада, куды на адпаведных сходах абіраюцца па чатыры чалавекі ад настаўнікаў, вучняў і бацькоў. Раду ачольвае дырэктар, аднак ён ня мае права вырашальнага голасу. Другі ўзровень — гэта школьніцкае прадстаўніцтва, па два вучні ад кожнай клясы. Гэты ўзровень падмацаваны сыстэмай "мэдыятараў" — адмыслова падрыхтаваных вучняў, якія могуць залагоджваць унутраныя канфлікты ў клясах. Такая "двухузроўневая" сыстэма — пілётны праект, які мае на мэце больш адкрыць нямецкія школы.

Яшчэ адзін такі праект — "эўрапейская школа". У зямлі Саксонія-Ангальт 15 школаў празначаюць гэты тытул у сваіх праспэктах. Там вялікая ўвага надаецца выхаваньню на аснове непасрэднага кантакту з вучнямі, вывучэньню культуры й моваў іншых эўрапейскіх краінаў. Школьнікі багата вандруюць: малодшыя езьдзяць па краіне, старэйшыя на вакацыях кіруюцца за мяжу.

### Т'ютар для "мапэда"

Вельмі мне спадабалася абароненасьць нямецкага настаўніка. Ён мае дабратворны для прэстыжу гэтае прафэсіі высокі аклад. Нават ва ўсходніх землях настаўнік-пачатковец зарабляе 2—3 тыс. эўра ў месяц.

Маладому пэдагогу, які прыходзіць працаваць у школу, на першыя тры гады прызначаецца дасьведчаны т'ютар-дарадца. Тое самае — у лекараў ды юрыстаў.

Настаўніка бярэ на працу не дырэктар, ён прызначаецца раённым (гарадзкім) альбо нават зямельным школьным ведамствам. Дырэктар гімназіі імя Вальтэра Гропіюса спадар Альпэрт сказаў, што ён ня лічыць правільнай амэрыканскую мадэль прыватных школ, дзе дырэктар у канцы навучальнага году прастаўляе ў ведамасьці кожнаму настаўніку балы за шэраг пэўных аспэктаў, а потым выстаўляе ўсіх разам з мэбляю на вуліцу, каб зрабіць у школе рамонт і ўзяць (альбо ня ўзяць) назад у клясы.



Агульная школа імя Макса Бэкмана ў Бэрліне

### Кніга з Магілёва

Былы настаўнік расейскай мовы гімназіі імя Лютэра ў Вітэнбэргу, вось ужо два гады як пэнсіянэр спадар Мюнхгоф, які вадзіў нас па школе, разумеў, што мы — не расейцы, і адмыслова для нас знайшоў у бібліятэцы кніжкі па-беларуску "з Махілйова" (так ён заве Магілёў). У Бэрліне і Патсдаме вучні, якіх спыталіся неўзнарок, дакладна назвалі сталіцу Беларусі і месцазнаходжаньне нашай краіны. Яшчэ некалькі гадоў таму назад гэта было б немагчымым. Але што бачыць у тэлевізіі, чытае ў друку ды Інтэрнэце немец пра Беларусь? Так, па дарозе між Патсдамам і Дэсаў нас абрадавалі: "Пра вас пішуць!" I зачыталі абвестку: дзесьці паблізу зьбіраюць для беларусаў у Хойнікі старыя апараты ад акуляраў ды запрашаюць далучацца да акцыі...

### Шторанку — у кола

Закон аб адукацыі патрабуе, каб у школьнай праграме абавязкова прысутнічала рэлігія або этыка. Гэты самы закон дазваляе адкрываць прыватныя школы, якімі апякуюцца рэлігійныя канфэсіі. У Дэсаў ёсьць пачатковая школа эвангельскай дыяканіі. Яна была адчыненая на жаданьне бацькоў чатыры гады таму. Цяпер у ёй больш за восемдзесят вучняў. Бацькі прыстасавалі і адрамантавалі пад школу былы дзіцячы садок. Хоць выбіралі будынак зь дзесяці варыянтаў, але сякія-такія мінусы ёсьць. Тут няма кухні, хоць гэта адна зь нешматлікіх у Нямеччыне школаў з "групай". Але немцы ня робяць з гэтага праблемы: абеды ў школу прыносяць у тэрмасах.

Зранку дзеці сядаюць у кола і нейкі час абмяркоўваюць свае праблемы, выказваюць пажаданьні — выгаворваюцца. Тое самае адбываецца пасьля абеду перад сыходам дахаты. Старшынька бацькоўскай Рады кажа, што такая тэрапія дае станоўчыя вынікі: дзеці робяцца больш спакойныя, прыязныя, практычна ніколі ня б'юцца.

Першыя тры гады дзяржава ні шэлега не давала на ўтрыманьне школы, цяпер аплачвае адно 90% ад сярэдняга штатнага раскладу дзяржаўнай школы. Настаўнікі атрымліваюць даплату, бо з гэтага году навучаньне там зрабілася платнае (50 эўра ў месяц). Але бацькі, якія ня маюць чым плаціць, ня плацяць.

На маё пытаньне, ці хочуць дзеці хадзіць у школу, выхавальніца распавяла пра новенькую, якую маці ўвечары мусіла яшчэ раз прывезьці зь вёскі пад школу, каб тая паторгала дзьверы й упэўнілася, што школа насамрэч замкнёная.

### Школа з ілюмінатарамі

Гімназію імя Марціна Лютэра ў Вітэнбэргу ў народзе называюць школай Гундэртвасэра. Вітэнбэрг, як і Дэсаў, быў крыху палепшаным варыянтам нашых панэльных райцэнтраў: з азотнатукавым камбінатам, спальнымі раёнамі й іншымі стандартнымі мінусамі. Калі пачалася санацыя сацыялістычных будынкаў, настаўнік працы даў дзецям творчае заданьне — спраектаваць школу, у якой яны хацелі б вучыцца. Некаторыя вучнёўскія ідэі настаўнік даслаў аўстрыйскаму архітэктару Гундэртвасэру. Ён славуты тым, што выбрабляе праекты толькі ў адным экзэмпляры: чыгуначны вакзал, царкву, капліцу, тэрмінал, дзіцячы садок. Яшчэ ён адпрэчвае простыя лініі ды ўжывае яшчэ раз, як інсталяцыі, старыя будматэрыялы. Гундэртвасэр прасякнуўся дзіцячым рамантызмам, і праз колькі часу зь Вены быў дасланы гатовы праект. Да сумы, прадугледжанай урадам на пераабсталяваньне, улады зямлі дадалі яшчэ 4 млн. эўра, апякунская Рада дазбірала мільён — і за год паўстала прыгажуня-школа, дзе дрэвы вольна растуць на даху, а вокны — як ілюмінатары карабля...

### Замест пастскрыптуму

Розьніца ў сацыяльным разьвіцьці між Заходняй і Ўсходняй Нямеччынай моцна адчуваецца. У Дэсаў з 200 тыс. жыхароў 20 тыс. самых маладых і мабільных зьехалі шукаць працы на захад краіны. Бэрлін хоць дадае аптымізму шматлікімі навабудоўлямі, але непрыемна прэзэнтуецца шматлікімі нягеглымі спарудамі ўсходніх кварталаў, старой вулічнай каналізацыяй. На Аляксандэрпляц, каля самай тэлевежы, увечары шпацыруюць вялізныя непалоханыя шчуры. Ва ўсходніх мястэчках вечарамі пустыя гастштэтэ і рэстарацыі. Кожны восьмы — беспрацоўны. Аднак у Нямеччыне ворагамі зьяўляюцца ня людзі, а праблемы. Праблемы там абмяркоўваюць. Школа не ў апошнюю чаргу вучыць культуры супольнага жыцьця, майстэрству паляпшаць яго якасьць. Хто з бацькоў не жадае сваім дзецям такой школы?

**Яўген Бяласін**



Гімназія імя Марціна Лютэра ў Вітэнбэргу

У Бэрліне з 3,5-мільённым насельніцтвам 1000 школаў. У кожнай 700—800 вучняў. Напаўняльнасьць клясаў 25—35 чалавек. Колькасьць урокаў у 7—10 клясах агульнай школы імя Макса Бэкмана ў Бэрліне складае 30—33 у тыдзень.

Штогод кожнай школе на рамонт выдаткоўваецца 50 тыс. эўра (эўра цяпер прыкладна роўны даляру). Дырэктары скардзяцца, што мала: адна дошка каштуе 350 эўра.

Нямецкая школа ня мае права зарабляць грошы — гэта супярэчыць яе статуту. Дырэктары здабываюць дадатковыя сродкі праз апякунскія рады. Апроч таго, дазваляецца здаваць школьны будынак у арэнду пад розныя вечаровыя культурныя акцыі — школы ж працуюць у адну зьмену. На гэта трэба толькі згода грамады, на балянсе якой знаходзіцца школьная нерухомасьць. Можна таксама прадаваць вырабы школьных майстэрняў.

Працяг са старонкі 1.

# Проста Прушынскі

**"НН": Як жывецца ў Беларусі былому эмігранту?**

**А.П.:** Выдатна. Мая канадзкая пэнсія ў пяць разоў большая за беларускі сярэдні заробак. Але самае галоўнае — я жыву на Радзіме. Гэтага не зразумее той, хто ніколі ня жыў на чужыне. Для мяне дом — гэта Рагозьніца на Гарадзеншчыне, дзе маёнтак майго дзеда. Цяпер у маёнтку — праўленьне калгасу. Я ежджу туды калі хачу і адчуваю сябе свабодным чалавекам. У мяне ёсьць жонка, сын, цяпер чакаем яшчэ адно дзіця. Я, напэўна, самы стары тата ў краіне. Мне было 66, калі нарадзіўся сын, і будзе 69, калі народзіцца другое дзіця.

**"НН": Ці цяжка вярнуцца на Бацькаўшчыну з чужыны?**

**А.П.:** Я чалавек дынамічны. Калісьці паехаў з Польшчы ў Канаду, а адтуль вярнуўся ў Беларусь. Але цяпер лічу, што вярнуўся позна — у 1992 г., а трэ было прыехаць на год раней. Гэта мая памылка.

**"НН": Чаму ў Беларусь вярнуліся толькі адзінкі? У Прыбалтыку, ва Ўкраіну прыехала шмат эмігрантаў, якія бяруць актыўны ўдзел у палітычным і эканамічным жыцьці.**

**А.П.:** Гэта вельмі дрэнна, што вярнулася мала людзей. Вось у Польшчу толькі з Англіі вярнуліся 6 тысяч маладых людзей, якія там нарадзіліся, атрымалі адукацыю. Першы год яны яшчэ курсавалі між Варшавай і Лёнданам, а пасьля засталіся. Для Польшчы гэтыя людзі — капітал. Што б я зрабіў цяпер? Я б запрасіў у Беларусь "рускіх" з Латвіі, можа якую тысячу чалавек. Альбо маладых беларусаў з усяго сьвету і асабліва з Польшчы. Гэта дынамічныя людзі. Чаму ЗША — дынамічная краіна? Бо эмігранты — самыя дынамічныя людзі й нашчадкі дынамічных людзей.

## Трэ было браць дзяржаву

**"НН": У 1994 г. Вы спрабавалі балятавацца на пасаду прэзыдэнта Беларусі. Чаму Вы наважыліся на такі крок?**

**А.П.:** Гэтая ідэя ўзьнікла ў 1991 г. Я меў ужо прыклад канадца Тымінскага ў Польшчы. Аднаму канадзкаму ўкраінцу-мільянэру, свайму знаёмцу, я парадзіў балятавацца на пасаду прэзыдэнта Ўкраіны. А пасьля й сам захапіўся такой ідэяй, усё абдумаў. Нарэшце, вырашыў вярнуцца, але было б лепш, каб прыехаў раней, у траўні—жніўні 1991-га.

**"НН": Якія ў Вас былі першыя ўражаньні ад Беларусі?**

**А.П.:** Ведаеце, я прывык. У тым ліку і да бруду, які быў і ёсьць паўсюль. Але ўсё пацішу мяняецца. Калісьці паліцы ў крамах былі пустыя, а цяпер, як маеш грошы, купляй што хочаш.

**"НН": Зь якімі палітыкамі Вы тады сустракаліся?**

**А.П.:** Найперш я пазнаёміўся з Станіславам Шушкевічам. Потым сустрэўся зь Зянонам Пазьняком. Мы зь ім размаўлялі папольску. Я казаў: "Бярыце дзяржаву!" Я ня ведаў, што яны былі такія слабыя. Трэ было ў той час браць дзяржаву! А яны саступілі. Зьбіралі подпісы за правядзеньне рэфэрэндуму па пытаньнях роспуску парлямэнту і правядзеньня датэрміновых выбараў. Парлямэнт адмовіў апазыцыі. І тут трэба было сказаць "Не!" і зноў дамагацца сваёй мэты. Але Пазьняк на гэта не пайшоў...

**"НН": Як ён да Вас ставіўся?**

**А.П.:** У той час больш-менш добра. Але я тады ня быў ягоным канкурэнтам. А пра пазьнейшыя адносіны наагул не хачу гаварыць... Калі я зрабіўся кандыдатам у прэзыдэнты, ён убачыў ува мне праціўніка. А калі б тады была створаная кааліцыя з Шушкевіча, Пазьняка і мяне — мы б перамаглі. Але як зрабіць кааліцыю, калі Пазьняк ня хоча з вамі гаварыць?

**"НН": А Шушкевіч?**

**А.П.:** Ён вельмі добры чалавек, але не палітык. У той сытуацыі трэ было за шаблю і — наперад. А ён "не туды і не сюды". Я вельмі паважаю спадара Станіслава, але Пазьняк і зь ім не хацеў гаварыць. І што? Цяпер сядзіць у Варшаве.

## Даляры для Лукашэнкі

**"НН": Ці чакалі Вы, што ў 1994 г. на выбарах пераможа Аляксандар Лукашэнка?**

**А.П.:** Калі Лукашэнка стаў прэзыдэнтам, я хацеў яму дапамагчы. Прасіў зь ім сустрэчы. Калі прыйшоў, мне прапанавалі гаварыць зь ягоным памочнікам, але я адмовіўся. Я хацеў яму распавесьці, як атрымаць буйныя грошы для Беларусі (5 млрд. даляраў). Ня хоча — ня трэба.

**"НН": Вы з Лукашэнкам яшчэ сустракаліся?**

**А.П.:** Я быў на пахаваньні Пімена Панчанкі. Лукашэнка таксама прыйшоў, і не было вольнага месца ў першым шэрагу. Я саступіў яму, бо калі ён прэзыдэнт, дык мусіць быць у першым шэрагу. А пасьля даў яму візытку і папрасіў аб сустрэчы. Цікава, што праз нейкі час мне хтось патэлефанаваў: "Вы граф Прушынскі? Я хачу ехаць у Канаду". — "А што вы там будзеце рабіць?", — спытаў я яго. Напэўна, гэта нейкі кадэбіст тэлефанаваў.

Аляксандар Рыгоравіч шмат гадоў думаў, што стане прэзыдэнтам Расеі. І ўся "інтэграцыя" яму была патрэбная для гэтага. Ельцын урэшце зрабіў яму падарунак: сышоў і пакінуў дзяржаву Пуціну. Што цяпер рабіць Лукашэнку? Ён надакучыў і Расеі, і Захаду, дый сваім падначаленым. Я ня ведаю, колькі месяцаў ён можа так працягнуць. Калі Расея даведаецца, што ёсьць хто-небудзь лепшы для іх, я бачу невясёлыя для яго пэрспэктывы.

## Эліта ня тая

**"НН": Ці ёсьць цяпер у Беларусі нацыянальная эліта?**

**А.П.:** Нацыянальная эліта заўсёды ёсьць. Брат маёй прабабкі сказаў: "Кожная краіна цэніцца ня колькасьцю людзей, а колькасьцю эліты". А ў нас эліта ня тая, што трэба. Каб у нас была сапраўдная эліта, сёньня Лукашэнка ня быў бы прэзыдэнтам. Прадстаўнікі нашай эліты лічаць, што яны беларусы, але іх цяжка назваць вялікімі беларусамі... Многія апазыцыйныя лідэры не знаёмыя зь перадавой палітычнай думкай сьвету. Ня ведаючы яе, цяжка вылучаць уласныя ідэі. Эліта мусіць працаваць над сабой і працаваць над маладым пакаленьнем. Каб маладое пакаленьне ведала больш, чым ведае цяпер.

**"НН": Ці адносіце Вы сябе да нацыянальнае эліты?**

**А.П.:** Вядома. Але я размаўляю па-расейску, хоць і разумею беларускую мову. Навучыўся расейскай, бо насельніцтва пераважна гаворыць на ёй. Калі ты хочаш атрымаць дзяржаву, мусіш гаварыць зь людзьмі на зразумелай ім мове. Такая склалася сытуацыя.

## Ганчарык замяшаўся

**"НН": Якую пазыцыю Вы занялі ў часе леташніх прэзыдэнцкіх выбараў?**

**А.П.:** Я пайшоў да Ганчарыка. Сказаў: "Абяцайце 100 даляраў кожнаму выбаршчыку, а я, калі стану вашым міністрам замежных справаў, гэта ўсё зраблю. І скажыце, што граф Прушынскі абяцае". Ён вельмі замяшаўся. У яго была дрэнная рэкляма, і ў любым выпадку Ганчарык прайграваў Лукашэнку.

Сёньня ў апазыцыі няма праграмы, якая спадабалася б народу. Ёсьць праграмы ў генэрала Грыба, Нікіценкі. Яны добрыя людзі, але ў праграмах пішуць пра тое, што ёсьць у нашай краіне дрэннага. А нам ня трэба казаць, якая ёсьць хвароба, мусім гаварыць пра тое, што трэба рабіць, каб аздаравіць Беларусь.

Няма ўплывовай недзяржаўнай прэсы. У пачатку 1980-х у Польшчы была падпольная прэса. Штотыднёва выходзіла галоўная нелегальная газэта накладам у 200 тысячаў асобнікаў.

> **Я ведаю, як прыцягнуць мільярды даляраў інвэстыцый у краіну і ня трапіць пад чыйсьці ўплыў.**




**Аляксандар Прушынскі нарадзіўся ў 1934 г. у сямейным маёнтку Майштовічаў у Рагозьніцы на Гарадзеншчыне. Ягоны бацька Ксавэры Прушынскі быў вядомым польскім журналістам і пісьменьнікам, а у паваенны час – дыпляматам. А.Прушынскі атрымаў адукацыю ў ЗША і Галяндыі, жыў у Польшчы. Скончыў інстытут народнай гаспадаркі, абараніў магістарскую дысэртацыю па эканоміцы. Працаваў у прамысловасьці, а ў 1972 г. выехаў у Канаду. Быў рабочым, у 1981 г. заснаваў у Таронта польскую эміграцыйную газэту. З 1992 г. А.Прушынскі жыве ў Беларусі, тут ажаніўся. У 1994 г. спрабаваў балятавацца на пасаду прэзыдэнта Беларусі, але яго не зарэгістравалі. Жыве ў Менску.**

## Прэм'ер Лі нам дапаможа

**"НН": Лукашэнка, калі абіраўся, абяцаў "запусьціць заводы". А Вы што б зрабілі?**

**А.П.:** Бальшыня заводаў краіны працуе на састарэлым абсталяваньні. Якія яны пасьля гэтага канкурэнты на рынку? Можна сьмела напісаць: "Музэй "Трактарны завод"... Чыноўнік — не гаспадар. А нам на прадпрыемствах патрэбныя гаспадары. Ёсьць некалькі выйсьцяў. Альбо ставіць умову дырэктару: якія даеш вынікі, такі будзе і заробак. Іншы выхад — прыватызацыя прадпрыемстваў.

Патрэбны спэцыялісты, якія вучыліся на Захадзе. Ёсьць краіна Сынгапур з 5 мільёнамі насельніцтва. За 20—30 гадоў прэм'ер Лі падняў там узровень вытворчасьці ў 25 разоў! І азіяцкі эканамічны крызыс не закрануў Сынгапуру. Чаму цяпер эканамічна падняўся Кітай? Кітайскае кіраўніцтва запрасіла да сябе былога сынгапурскага прэм'ера як дарадцу. І што перашкаджае тое самае зрабіць Лукашэнку?

Што датычыць вёскі, дык я чуў, што ў Польшчы цяпер аднавіліся 50 ці 80 калгасаў. Польскія калгасы працуюць у рынкавай эканоміцы. А нам трэба стаць на дзьвюх нагах у сельскай гаспадарцы: на лепшых калгасах і фэрмэрах. Думаю, што ў Беларусі будзе больш фэрмэраў, чым калгасаў.

## Малітва Прушынскага

**"НН": Якой Вы бачыце сваю палітычную будучыню ў Беларусі?**

**А.П.:** Адамкус у Літве стаў прэзыдэнтам у 74 гады. З кожным днём я ўсё больш і лепш ведаю, што рабіць. Я гатовы. Галоўнае — рэфармаваць падатковую сыстэму, зьменшыўшы колькасьць падаткаў да чатырох. Я ведаю, як прыцягнуць мільярды даляраў інвэстыцый у краіну і ня трапіць пад чыйсьці ўплыў. Мы павінны атрымаць грошы і быць свабоднымі. А яшчэ я — аптыміст. Нядаўна пачуў ад унучкі аднаго ўплывовага чалавека: "Едзьце ў Амэрыку, у нас тут няма будучыні". Каб я ня верыў, што ў нас ёсьць будучыня, ня жыў бы тут.

Я малюся так: "Усёмагутны! Калі ў цябе няма лепшага кандыдата на пасаду прэзыдэнта Рэспублікі, я гатовы! Але прашу, дапамажы мне быць добрым прэзыдэнтам. Дрэнных прэзыдэнтаў у сьвеце хапае і безь мяне..."

**Гутарыў Алег Тачоны**




**Аляксандар Прушынскі ходзіць па Менску ў барэце з Пагоняй**

# Справа Аляхновіча

**1927 год. З дазволу Масквы ўрад БССР выдзеліў чатыром пісьменьнікам пяць пуцёвак у Карлавы Вары. Паехалі Янка Купала з жонкаю, Цішка Гартны (Зьміцер Жылуновіч) ды два Міхасі — Чарот і Зарэцкі. Заходнебеларускі друк аднатаваў праезд Купалы праз Варшаву. "Biełaruskaja Kryniсa" не палічыла нават патрэбным дадаць, што ён вандруе не адзін. У той час вырвацца з "краіны саветаў" ужо было цяжка. Выпускалі за мяжу толькі самых надзейных, "нагрузіўшы" якім-небудзь заданьнем. Гэтыя мусілі ў чэскіх эміграцыйных асяродках распавядаць пра посьпехі беларусізацыі. Аднак хвацкі даклад Цішкі Гартнага быў літаральна перакулены адным-адзіным пытаньнем: "Дзе Аляхновіч?"**



Беларускія пісьменьнікі (сядзяць зьлева направа): Міхась Чарот, Цішка Гартны, Янка Купала і Міхась Зарэцкі разам са студэнтамі-беларусамі вышэйшых школ Прагі падчас наведаньня Чэхаславакіі ў 1927 г.

### Місія Ўльянава

Купала, Гартны ды Чарот ехалі ў Чэхію другі раз. Упершыню яны былі там у 1925 г. — "у камандзіроўцы", як піша Энцыкляпэдычны даведнік "Янка Купала". Спачатку ў Чэхію выправіліся партыйныя Гартны й Чарот, якія мусілі, згодна з пастановай ЦК КП(б)Б ад 11 жніўня 1925 г., паслужыць справе "разлажэньня і драбленьня" беларускае эміграцыі. Ім было рэкамэндавана чытаць "даклады на тэму: "Адраджэньне беларускай культуры", "Беларуская літаратура" і г.д.", а "выступленьняў на палітычныя тэмы не рабіць". Пісьменьнікаў прыставілі асыстэнтамі да савецкага ататшэ ў Варшаве Аляксандра Ўльянава. Той меў больш адказную місію: схіліць Урад БНР да прызнаньня бальшавіцкага Менску адзіным цэнтрам беларускага нацыянальнага адраджэньня й паспрыяць перадачы "паўнамоцтваў БНР Ураду БССР у форме дэклярацыі" (пастанова ЦК ЦК(б)Б ад 14 жніўня 1925 г.). Зрабіць гэта трэ было да Ўсебеларускай палітычнай канфэрэнцыі, якую зьбіраў у Бэрліне прэм'ер-міністар Аляксандар Цьвікевіч. Туды бальшавіцкія эмісары мусілі ехаць праз Прагу.

Дзесьці там да іх далучыўся і Купала. Пасьля яго зьяўленьня ў місіі адбылося пераразьмеркаваньне роляў: Ульянаў і Жылуновіч палітыкавалі, а Купала й Чарот ажыцьцяўлялі "культурную праграму". Амаль тое ж было і ў Бэрліне. Ёсьць зьвесткі, што Купала хацеў засьцерагчы Цьвікевіча ад пераезду ў БССР, казаў яму: "Пакуль вы тут, лягчэй нам". Але прэм'ер-міністра БНР даймала безграшоўе й вабілі бальшавіцкія абяцанкі.

Канфэрэнцыя адбылася 12—16 кастрычніка. Бальшавікі здолелі выканаць толькі частку свайго пляну — раздрабіць эміграцыю. Ліквідаваць БНР не далі рады.

### Чаму Купала маўчаў

І вось Купала, Гартны й Чарот ізноў едуць праз Варшаву ў Чэхію. Гэтым разам — у Карлавы Вары, гэтым разам — з маладзейшым Зарэцкім. Як яны бавілі час, як лячыліся на знакамітым курорце, заходнебеларускія газэты не пісалі. На зваротным шляху пісьменьнікі прыпыніліся ў Празе. І ведама ж, не маглі не спаткацца зь беларускай калёніяй.

Пра гэтую сустрэчу 30 верасьня 1927 г. пісала "Biełaruskaja Kryniсa". Артыкул зваўся "Менскія госьці ў Празе":

"Дня 14-га верасьня с. г. найвялікшы наш пясьняр Янка Купала прыехаў з Карлавых Вараў (Карлсбаду) у Прагу. Разам зь ім прыехалі ў Прагу пясьняр Чарот і пісьменьнікі: Зарэцкі, Цішка Гартны. Паэтыцкае творства Янкі Купалы чэскім кругом знанае і добра ацэненае. У часе ягонае бытнасьці ў Празе найвялікшыя чэскія штодзёньнікі зьмясьцілі фатаграфіі Купалы з шырокімі прыпіскамі.

На жаль, здарылася, што наш пясьняр прыехаў у сталіцу Чэхаславакіі дзеля шуканьня надломленага здароўя. Худы, вечна задуманы і замкнуты ў сабе, толькі вочы вялікія і страшныя, замыкаючыя ў сабе ўвесь боль учарашняе і сяньняшняе Беларусі, даюць знаць аб жыцьці творчае думкі. Здароўе і іншыя абставіны не дазволілі выступіць Купалу з дакладам перад грамадзянствам.

Вялікі штодзённьнік праскі "Narodni Osvobodzeni" ў дапісе пад фатаграфіяю выразна сьцьвярджаецъ замкнутасьць Янкі Купалы.

Апрача "Nar.Osvob.", фатаграфію зьмясьціла таксама газэта "Lidove Listy" і іншыя".

Абарвём цытату, каб зьвярнуць увагу чытачоў на Купалаву "вечную задуманасьць і замкнутасьць у сабе". Ня толькі хваробаю яна тлумачыцца. Дый ня так хваробаю, як, па-першае, натураю Купалы і, па-другое, новымі палітычнымі абставінамі ў БССР. Хваравіты выгляд Купалы даваляў яму ўнікаць публічных выступаў і нават размоваў. Вось жа ў 1925 г. у той самай Празе Купала й Чарот актыўна кантактавалі з эмігрантамі, бралі ўдзел у літаратурнай вечарыне, а праз два гады Купала маўчыць, пазьбягае кантактаў. Як і камунікабэльны Чарот. Ні адзін, ні другі з дакладамі не выступаюць. І ня толькі таму, што аднаму зь іх хвароба не дазваляе. Не дазваляе партыя. Дый пра што ім дакладаць? Пра зьнікненьне Францішка Аляхновіча? Аб працэсе Юркі Лістапада?

Ролі былі загадзя разьмеркаваныя партбюракратамі. Гаварыць мусіў "надзейны" Жылуновіч — сябра КП(б)Б з моманту заснаваньня.

Праскі карэспандэнт "Biełaruskaje Krynicy" скончаў свой допіс гэтак:

"Афіцыяльна з дакладам выступаў у Празе Жылуновіч (Цішка Гартны), які сваімі славамі, ня хочачы, нямала насьмяшыў слухачоў. Двойчы ў Празе быў Чарот, быў праф. Пічэта, але ніхто зь іх не пакінуў прыкрага ўражаньня, як гэта зрабіў Жылуновіч, аб дакладзе якога напішам у наступных нумарох".

### "Мы яго ўсунулі"

Наступная публікацыя, прысьвечаная ўжо выключна дакладу Жылуновіча, зьявілася ў "Biełaruskaj Krynicy" аж 4 лістапада 1927 г., калі Купала ды ягоныя спадарожнікі былі ўжо ў Менску. (Між першаю й другою праскімі карэспандэнцыямі ў "Biełaruskaj Krynicy" віленская левая газэта "Наша праца", тэхнічным рэдактарам якой быў Антон Луцкевіч, надрукавала гутарку з Купалам, што запыняўся ў Варшаве на зваротным шляху.)

Другі допіс праскага карэспандэнта "Biełaruskaje Krynicy" мае загаловак "У справе Фр.Аляхновіча (З прычыны дакладу Жылуновіча ў Празе Чэскай)". Як вынікае з гэтае карэспандэнцыі, Цішка Гартны з ускладзеным на яго абавязкам ня справіўся.

Трэба думаць, што Гартны пачаў з бадзёрага рапарту аб посьпехах БССР у гаспадарчым і культурным будаўніцтве, але ў прысутных было на думцы адно: дзе падзеўся Францішак Аляхновіч, якога ўлады БССР у канцы 1926 г. запрасілі зь Вільні ў Менск на Акадэмічную канфэрэнцыю ў пытаньнях беларускага правапісу?

Газэта піша: "...тав. Жылуновіч... думаў, што едзе куды-небудзь у Мазыршчыну і там што скажа — тое сьвята. Прага — ня тое. Трэба, сапраўды, быць роўным разьвіцьцём таварышу Жылуновічу, каб не спадзявацца абурэньня з боку праскіх Беларусаў-патрыётаў з прычыны заявы Жылуновіча аб лёсе найвялікшага нашага драматурга, аўтара паўтара дзясятку працаў — Францішка Аляхновіча ў Менску.

**Пасьля выступу Жылуновіча сарваўся адзін з прысутных студэнтаў і востра сказаў: "Калі Пушкіна высылалі, то Лермантаў ведаў, калі Максіма Горкага выдалілі з Акадэміі, то Чэхаў і Бунін нешта рабілі, а калі Францішка Аляхновіча асудзілі, то Цішка Гартны кажа: "Ня ведаю!" Ганьба!"**

На пытаньне прыйшоўшых на даклад Жылуновіча, што зрабілі з Фр.Аляхновічам? — тав.Жылуновіч адказаў: "Ня ведаю!" Тады сарваўся адзін з прысутных студэнтаў і востра сказаў: "Калі Пушкіна высылалі, то Лермантаў ведаў, калі Максіма Горкага выдалілі з Акадэміі, то Чэхаў і Бунін нешта рабілі, а калі Фр. Аляхновіча асудзілі, то Цішка Гартны кажа: "Ня ведаю!" Ганьба!"

Той беларускі студэнт крыху памыліўся. Калі царскі ўрад не зацьвердзіў абраньня Максіма Горкага ў акадэмікі, з Акадэміі на знак пратэсту выйшлі Чэхаў і Караленка. Але гэта неістотна. Істотна тое, што пісьменьнікі мелі сьмеласьць пратэставаць супраць сваволі ўладаў".

Пасьля рэплікі студэнта Жылуновічу не было чым крыць. Прыціснуты да сьценкі, ён вымушаны быў сказаць: "Ну, мы яго *ўсунулі...*"

Паколькі публіка ў Заходняй Беларусі ня ведала савецкае фені, "Biełaruskaja Kryniсa" надрукавала слова "ўсунулі" курсывам, пазначыла яго зорачкаю ды прыпісала: "Паводле дадатковых вестак з Прагі, прысланых у Рэдакцыю, мае гэта значыць, што запрошанага ў Менск Фр.Аляхновіча засудзілі на 10 гадоў катаргі ў Салоўках".

Сказ "Ну, мы яго *ўсунулі...*" быў у выступе Жылуновіча вызначальны. Карэспандэнт паведамляе: "Гэта былі апошнія словы яго. Гэтымі славамі кончыўся "даклад". Місія не ўдалася! Беларусь не забудзе крыўды з боку Радавай улады праз прысуд над Фр.Аляхновічам".

Шкада, што карэспандэнт не паведаміў, як паводзілі сябе Купала, Чарот і Зарэцкі. Ці былі яны на "дакладзе"? Калі й былі, дык, мабыць, мудра маўчалі. "Адлуп" атрымаў адзін Жылуновіч.

І яшчэ адно пытаньне: хто паведаміў пра 10-гадовы тэрмін для Аляхновіча?

### Галадзед і Салямон

Кожная гісторыя, а нават здарэньне, мае свой працяг. Дзеячы беларускае культуры ў БССР яшчэ мелі сьмеласьць што-колечы рабіць дзеля вызваленьня калегаў. Асабліва Максім Гарэцкі. Ён ня ўмеў хаваць галавы ў пясок. У 1929 г., падчас партыйнае чысткі, на адкрытым сходзе ячэйкі КП(б)Б у Народным камісарыяце асьветы ён, беспартыйны, будзе заступацца за Цішку Гартнага. Гарэцкі афіцыйна хадайнічаў і за Аляхновіча. Аднак ягоныя захады ня мелі пазытыўных наступстваў. Тады Гарэцкі зладзіў калектыўнае хадайніцтва. Падпісанае Янкам Купалам, Якубам Коласам, Зьмітраком Бядулем, Вацлавам Ластоўскім, Сьцяпанам Некрашэвічам, Язэпам Дылам, Уладзіславам Галубком, Фляр'янам Ждановічам, Міхайлам Грамыкам ды самім Гарэцкім, яно 10 сьнежня 1927 г. было пададзена старшыні Рады народных камісараў Мікалаю Галадзеду. Той перадаў хадайніцтва ў ЦК КП(б)Б, і ўжо праз дзень (12 сьнежня) яго разгледзелі на паседжаньні Бюро ЦК. Партыйны арэапаг прыняў "салямонава рашэньне": хадайніцтва за аднаго драматурга, актора й рэжысэра адхіліў, а другому — Уладзіславу Галубку — надаў званьне народнага артыста Беларусі.

Справа Аляхновіча рэзка адддзяліла беларускую дыяспару ад Менску. Верасьнёўскі (1927 г.) правал Гартнага ў Празе быў апошнім выступам менскага эмісара перад эмігрантамі. Увесну 1928 г. Гартны зноў паехаў у Прагу — каб зладзіць кампанію салідарнасьці зь дзеячамі Беларускае работніцка-сялянскае грамады, якія апынуліся на лаве падсудных. Былы старшыня ўраду БССР сустракаўся з чэскімі журналістамі й грамадзкімі дзеячамі, а вось беларускіх эмігрантаў ён абмінуў — таму ў справаздачы ЦК КП(б)Б пра іх не згадаў.

**Анатоль Сідарэвіч**

Павал Севярынец

# Беларусь зьменіць Эўропу

**Сьвет перажывае вялізныя пераўтварэньні. Глябалізацыя, вайна з тэрорам, кансалідацыя Эўразьвязу сьведчаць пра надыход новае эпохі — і яна патрабуе ад нас выразнае замежнапалітычнае дактрыны. Лёзунгі *"Go west"* або *"ex oriente lux"* не адпавядаюць выклікам часу ды не прадугледжваюць для Беларусі рэалізацыі яе эўрапейскага патэнцыялу. Нават дэвіз "Беларусь — у Эўропу!" мусіць быць сфармуляваны ў выглядзе сыстэмнае канцэпцыі — інакш крамлёўскія фокусьнікі хутка раскруцяць тут сваю "інтэграцыю з Расеяй паводле прынцыпаў Эўразьвязу".**



### Незалежнасьць — плацдарм

Пуцінскі выступ у жніўні канчаткова акрэсьліў расейскую стратэгію ў дачыненьні да Беларусі. Альбо аншлюс з Лукашэнкам, або аншлюс без Лукашэнкі — шасьцю рэгіёнамі з канстытуцыяй РФ. Мэта Крамля — ня проста далучэньне Беларусі, а вылягчэньне беларускай саматоеснасьці.

Беларусь, якая стаяла ўпоперак шляху Расеі ў Эўропу, апошнія стагодзьдзі адказвала на расейскую пагрозу адно слабымі рэфлексамі самазахаваньня. За апошні час ніводнай "стратэгіі жыцьця" ў адносінах з Расеяй Беларусь ня мела — адно "стратэгіі паміраньня". Нам трэба ідэя не партызанкі, не падпольля або тэрору — а *ідэя перамогі*. Інфармацыйнай, культуровай, духовай. Калісьці Альгерд, Астроскі або Хадкевіч умелі адчуць апірышча роднай зямлі пад нагамі, Госпада Бога па-над сабой — і сьмела атакаваць меншымі сіламі. Здабыць Эўропу і перамагчы Расею можна адно тады, калі зразумець, што *незалежнасьць — гэта толькі плацдарм*. Адзіны спосаб пераадолець сьмяротную пагрозу — дэвіз "Я мушу жыць, бо ведаю, *дзеля чаго* выжываю!".

### Лукашэнка як нацыянальны рэсурс

Незалежнасьць як плацдарм сёньня найбольш эфэктыўна выкарыстоўвае Аляксандар Лукашэнка. Але ягоныя дасягненьні за 8 гадоў кіраваньня не вычэрпваюцца ўдалымі гульнямі на постсавецкім электаральным полі. Папершае, Лукашэнка сапраўды захаваў Беларусь у адноснай незалежнасьці ад расейскае адміністрацыі, крымінальнага капіталу, расейскай валюты — і гэта пры тым, што яшчэ ў 1994-м плянавалася "рублёвая зона", перадача транзыту й прыватызацыя ў інтарэсах Масквы. А 11 гадоў сякой-такой незалежнасьці — гэта і масава сьвядомасьць, і свая намэнклятура, і цэлае новае пакаленьне. Па-другое, дыктатура міжволі сфармавала дэмакратычную апазыцыю й маладзёвы супраціў, а таксама нагляднa растлумачыла народу сэнс паняткаў "канстытуцыя", "выбары" й "свабода слова". Па-трэцяе, Лукашэнка зрабіў Беларусь вядомай у сьвеце. Чаго вартыя адныя Дразды або званьне "апошні дыктатар Эўропы"! Беларусяй пачалі цікавіцца. Беларусь пачалі пазнаваць. Пра Беларусь пачалі турбавацца — у Вашынгтоне, Бэрліне ды Страсбургу. Той, хто кіне выклік Лукашэнку, будзе падтрыманы ўсім Захадам. Той, хто пераможа Лукашэнку, адразу зробіцца знакамітым. Той, хто будзе пасьля Лукашэнкі, атрымае буйныя крэдыты.

Лукашэнка стаўся для нас нацыянальным рэсурсам №1. Яго пасьпяхова прасоўваюць у расейскай глыбінцы камуністы, ягоны рэжым жвава прадае на Захадзе апазыцыя, яго выкарыстоўвае для мабілізацыі ўсяго грамадзтва намэнклятура. Лукашэнка ўсталяваў беларускі *культ здароўя*, які выявіўся мацнейшым за культ інтэлекту або прафэсійнай кампэтэнцыі. "Беларус" для ўсяго сьвету — гэта ўжо ня толькі трактар, гэта й прэзыдэнт з хакейнай клюшкай і на ролікавых каньках.

Але Лукашэнка задушыў беларускую адукацыю, мову й прэсу. За ім зьніклі людзі, а Беларусь выйшла на апошнія ў сьвеце месцы па нараджальнасьці. Лукашэнка мусіць сысьці. Пасьля таго, як канчаткова адыграе ролю галоўнага *нацыянальнага рэсурсу*.

**Лукашэнка мусіць сысьці. Пасьля таго, як канчаткова адыграе ролю галоўнага *нацыянальнага рэсурсу.***

### Сама Беларусь

А што ж сама Беларусь? Пры ўсім сваім калясальным патэнцыяле яна ня мае рэальнай грамадзка-палітычнай сілы нацыянальнага ўзроўню, гатовай стаць альтэрнатывай Лукашэнку й пераможцы імпэрыю. Усе слабыя. Апатыя й бязьвер'е — татальныя. Апазыцыйная эліта, занятая дробязнымі разборкамі, дэградуе.

Якраз у гэткія моманты — калі чалавечая ўпэўненасьць і спадзяваньні зьнікаюць як дым — і зьяўляецца Госпад Бог.

Хрысьціянскае абуджэньне, здольнае ператварыць стомленых, раздражнёных і сумятлівых дзеячоў у поўных сілаў прававыроў з бляскам у вачах ды львінай рашучасьцю, ужо неаднойчы ратавала народы. Тыя ж людзі, тыя ж імёны, тыя ж газэты, плошчы й арганізацыі — але праз Божы цуд напоўненыя духам веры, волі й любові — зьменяць Беларусь непазнавальна.

Сама Беларусь мае захапляльную свабоду, якую ўжо страцілі краіны Заходняе Эўропы, — свабоду стварэньня новага.

**Варта ўзьняцца Беларусі — і ўся Эўропа, раптам стаўшы адзінай, выбухне новым прасьвятленьнем.**

### Узыход Эўропы

Уся Эўропа сёньня перажывае гэткі ж пэрыяд духовае млявасьці і абыякавасьці, што і Беларусь. Пасіўнае спажывецкае грамадзтва, панаваньне матэрыялізму з фармальнымі рытуаламі рэлігійнасьці, шмат распусты, закасьцяненьне бюракратыі, СМІ, якія выконваюць ролю грамадзкага сумленьня і калектыўнай сьвядомасьці.

Эўропа, калыска эўраатлянтычнае цывілізацыі, сёньня карыстаецца адно зарадам залатых вякоў, жыве з тых добраслаўлёных часоў, калі людзі зьвярталіся да Бога часьцей, чым да псыхоляга, наведвалі цэрквы ахвотней, чым супэрмаркеты. Эўропа грэецца ля напаўастылых агмянёў хрысьціянскае *традыцыі*.

Яднаньне ў Эўразьвяз выглядае на апошнюю спробу адчуць сябе сапраўднай Эўропай — гэтак зьбіраюцца ў гурт, каб было цяплей... Эўропе патрэбны моцны ўнутраны рывок, які скалане грамадзтвы й нацыі, дапаможа пераадолець крызыс і зноў адчуць сваю высокую місію ў духовым імкненьні.

**Нам трэба ідэя не партызанкі, не падпольля або тэрору — а *ідэя перамогі.***

Новае эўрапейскае духовае абуджэньне ідзе з Усходняй Эўропы. Ужо сёньня і Польшча, і Ўкраіна, і Латвія, і Малдова перажываюць хрысьціянскія ўзрушэньні: варта згадаць і паляка Яна Паўла II, і кіеўскія эвангельскія цэрквы зь дзясяткамі тысячаў нэафітаў, і масавы хрысьціянска-дэмакратычны рух, які супрацьстаіць камунізму й русіфікацыі ў Малдове, і 10% Хрысьціянскай партыі Латвіі на апошніх выбарах.

Беларусь пакуль ледзь угадваецца ў гэтым шэрагу. Але варта ўзьняцца Беларусі — і ўся Эўропа, раптам стаўшы адзінай, выбухне новым прасьвятленьнем.

Эўропа — гэта не статычны стан. Гэта — пагоня і здабываньне, неадольная цяга да вышыняў, узьлёт у самае неба. Готыка касьцёлаў, крыжы кірхаў, мэлёдыя арганаў і хор малітвы — гэта і ёсьць *шлях у Эўропу*, жывую, моцную і сапраўдную.

Заняпад Эўропы ня вечны. За заняпадам заўсёды ідзе ўзыход. Узыход з Усходу.

### Голас Амэрыкі

Сёньня рэальны цэнтар сілы, дзе прымаюцца найважнейшыя рашэньні, што ўплываюць на любы пункт плянэты, — Злучаныя Штаты Амэрыкі. Бо менавіта яны сталіся апірышчам дзейснага хрысьціянства. 98% амэрыканцаў вераць у Бога. Амэрыка — адна зь нямногіх краінаў, дзе ў апошнія дзесяцігодзьдзі зьніжалася колькасьць крымінальных злачынстваў, ужываньне алькаголю, тытуню й наркотыкаў, дзе інстытут сям'і ня страціў сваёй вартасьці і дзе культывуецца проста ўзорны патрыятызм. Але Божае добраслаўленьне заўжды выклікае д'ябалавы шал. Прагрэсуючая разбэшчанасьць і прагавітасьць да грошай, імкненьне да сілавога кантролю ў замежных дачыненьнях — гэта таксама Амэрыка.

Беларусь мусіць наладзіць магістральныя духовыя, палітычныя й эканамічныя сувязі з ЗША. Трансатлянтычны прарыў хрысьціянскае Беларусі да хрысьціянскае Амэрыкі — галоўная замежнапалітычная задача тых, хто змагацца за незалежнасьць і Адраджэньне. Уплывовыя хрысьціянскія асацыяцыі ЗША — кшталту Рэспубліканскай "Хрысьціянскай Кааліцыі", наймацнейшай групы падтрымкі Джорджа Буша, МакКейна або Джэсы Гелмза, — павінны разглядацца як асноўныя міжнародныя партнэры беларускага нацыянальнага руху. Голас Амэрыкі сёньня вырашае шмат што. Мы баімся не дакрычацца — але маўчаць далей ужо нельга.

Фэномэн ЗША мае шмат падабенства зь беларускім. Гэта і хрысьціянскія падмуркі нацыянальнае гісторыі, і барацьба за незалежнасьць з імпэрыяй, і цяжкасьці этнічнае самаідэнтыфікацыі, і полікультурны, поліканфэсійны фокусы сынтэз — ды, урэшце, Касьцюшка, Кіт, Судзілоўскі. Адрозьненьне, апроч памераў, адно: Амэрыка *шукае* Бога, а Беларусь пакуль толькі *чакае*.

### Фокус Беларусі

У эфэкце полікультурнасьці, поліканфэсійнасьці, свабоды выбару на геапалітычным скрыжаваньні й заключаецца *фокус* Беларусі.

Менавіта беларускія землі адвеку змагаліся за лідэрства ў сумежжы Эўропы й Азіі, Прыбалтыкі й Чарнамор'я — з Кіевам, Кракавам, Варшавай, Масквой. Менавіта сюды імкнуліся вэктары экспансіі ардынцаў і крыжакоў, варагаў і грэкаў, швэдаў і немцаў, палякаў і расейцаў. Менавіта тут сышліся каталіцтва і праваслаўе, пратэстанцтва і юдаізм, тут нарадзілася Унія. Ключавыя моманты стварэньня й развалу Расейскай імпэрыі выпашаліся ў Беларусі — ад Кулікоўскай бітвы й суперніцтва Вільні з Масквой да стварэньня РСДРП у доміку па-над Сьвіслаччу, Берасьцейскага міру й зьнішчэньня СССР у Белавескай пушчы.

Беларусь акумулявала й асімілявала, набірала й пераўтварала, ўсмоктвала, бы губка, і расьсейвала па сьвеце мільёны людзей, тысячы гнаных праведнікаў ды ератыкоў, сотні паэтаў ды музыкаў. Беларусы пераўтваралі дэспатычную Расейскую імпэрыю й ганарлівую Польскую карону ў Расею вялікай культуры й рамантычную Рэч Паспалітую.

Беларусь зьбірае, канцэнтруе, сьцінае — да болю, да самае сутнасьці, да моманту ісьціны. Сама геаграфія Беларусі — цудоўная інфраструктура *фокусу* з зоркападобнымі абрысамі, промнямі шляхоў і транзытных лініяў, сталіцай у цэнтры й брамамі буйных гарадоў на статэгічных кірунках.

Скрозь Беларусь, праз Беларусь, зь пераламленьнем у Беларусі — як жа багата ў гісторыі, палітыцы, культуры, у духовасьці адбылося за эўрапейскае тысячагодзьдзе!

Беларусь можа раптам зазьзяць, зайграць сваёй празрыстасьцю й сьляпучымі люстранымі гранямі вялізнага дыямэнту — і паказаць такі фокус, што захопленыя суседзі й гледачы ўсяго сьвету разам устануць зь месцаў, каб пераканацца: *здарылася*!

# Імрэ Кертэс: "Бараніце Захад ад Трэцяга сьвету"

**— Вы шчасьлівы?**

— Я і дагэтуль быў шчасьлівы. Але цяпер я яшчэ больш шчасьлівы.

**— Шчасьце для Імрэ Кертэса — гэта выратаваньне маленькага чалавека ад трагедыі існаваньня?**

— Шчасьце — гэта абавязак. Мы жывём, каб быць шчасьлівымі, сказаў бы Госпад Бог, калі б ён існаваў.

**— Цяпер Вы багаты чалавек, можаце купіць сабе маёнтак.**

— Мая жонка штурмуе бэрлінскія крамы. Прыходзіць і загадвае: давайце сюды шампанскае, ікру! Мой муж — Нобэлеўскі ляўрэат!

**— У сваім "Дзёньніку галерніка" вы пішаце: "Я назаўжды застануся другарадным, непрызнаным і незразуметым вугорскім пісьменьнікам. Тое, чым я займаюся, — гэта ілюзія, і на яе я марную сваё жыцьцё..."**

— Я жыў у перакручаным сьвеце. Благія пісьменьнікі здаваліся добрымі й наадварот. На што я мог разьлічваць — непрызнаны мастак з Цэнтральнае Эўропы, які піша неіндаэўрапейскай мовай?

**— Ці гэты зьняверання творца яшчэ жыве ў Вас?**

— Ён заўжды жыве. Іншая справа — хто пойдзе па ўзнагароду да швэдзкага караля. Між іншым, "Кертэс" для мяне — гэта марка, гандлёвая марка, як "Мэрсэдэс".

**— Бліскучая кар'ера: колішні 15-гадовы лягерны вязень пасьля паўвеку пісьменьніцтва ў будапэшцкай кватэрцы трапляе да стакгольмскага каралеўскага двара.**

— У Вугоршчыне мяне зрабілі нацыянальным героем. Я мушу выканаць гэтую ролю, бо краіна знаходзіцца ў надзвычай складанай сытуацыі. Мы раскалатыя, лібэралы й нацыяналісты б'юцца насьмерць. Мая задача — памірыць іх.

**— Ці шмат нявыказанага засталося ад аўшвіцкага досьведу?**

— Пасьля кожнай кнігі я раблюся ўсё пусьцейшым. Сызыфаў камень меншае, а старонкі напаўняюцца. У кнізе, якую я пішу цяпер, няма ніводнага пэрсанажа з асабістым канцлягерным досьведам.

**— Для сёньняшніх дзяцей Галакост будзе раўназначны падзеям 11 верасьня.**

— Гэта натуральна. Але цяперашнія дзеці заўжды будуць памятаць і разважаць пра вялікую расколіну ў душы Эўропы. Дасьледуючы карані 11 верасьня, яны будуць натыкацца на Аўшвіц. Яго нельга патлумачыць, гэта глыбокая рана, пачатак каардынат. Але, калі вашая дачка праз 20 гадоў ізноў наткнецца на Аўшвіц, значыць, ёсьць яшчэ надзея і ня ўсё яшчэ страчана. Мы нічога ня можам зрабіць, апроч як толькі памятаць. Вашыя дочкі, мабыць, змогуць стварыць на гэтай падставе новую культуру.

**— Вы страшэнна плюралістычны чалавек.**

— Мы мусім быць страшэнна плюралістычнымі.

**— Але ж ісьціна адзіная?**

— Ісьціна зьмяняецца. З таго часу, як не існуе абсалютнага Бога, няма больш і абсалютнай ісьціны.

**— У Вашым "Рамане бяздольнага" малады герой, пад'яжджаючы да Аўшвіцу, адкідае гуманізм і падпарадкоўваецца лёгіцы гісторыі. У рамане Марціна Вальзэра "Вірлівая крыніца" герой — раўнагодак Вашага, ня ведае гісторыі й жыве ў сваім замкнёным цнатлівым сьвеце.**

— Немагчыма, каб у Нямеччыне ў 1944 г. быў габрэй, які нічога б ня ведаў. Гэта гістарычная няпраўда. Я думаю, нямецкія інтэлектуалы выйгралі ад змаганьня зь мінулым, пабагацелі. Нямецкі інтэрнацыяналізм, які я бачу ў Бэрліне, бяз гэтага змаганьня не паўстаў бы. У Вугоршчыне такога змаганьня не было, там дагэтуль пануе зарок маўчаньня, культура падазраньня. Я ня мог там працаваць. Вы не ўяўляеце сабе тамтэйшых умоваў. Пануе адкрыты антысэмітызм.



**— Постсавецкая Эўропа кантрастуе з Заходняй, дзе моляцца богу, што завецца "грошы".**

— Грошы лепш, чым дыктатура. Праляціце над нашай Эўропай — вы ўбачыце цудоўныя старыя вёскі, вялікія лясы і ніякіх аўтабанаў. Зьверху гэта файна, але лепш не прызямляйцеся, бо жыць там немагчыма. Ніякага іншага варыянту развіцьця, апроч заходняга, няма, а так званыя ўсходнія каштоўнасьці можна захаваць і ў музэях.

Захад — гэта лягер вязьняў, што выратаваліся. Трэба бараніць гэты лягер ад тэрарыстаў, ад трэцяга сьвету. Свабода для мяне — вельмі вялікая каштоўнасьць. Калі ў мяне кепскі настрой, я гляджу на плятаны Курфюрстэндаму і адчуваю палёгку. Бэрлін — гэта мой Нью-Ёрк.

**— Вы змрочна гледзіце на рэчаіснасьць, калі апошняя надзея — паўмёртвыя бэрлінскія плятаны.**

— У маёй творчасьці ня так шмат станоўчага. Я сапраўды ня ведаю, ці ў гэтым грамадзтве грошай можа паўставаць культура. Мне здаецца, гэтае грамадзтва грошай пакінула вольным вельмі малы кавалачак прасторы, у якім можна працаваць. Праца над сабой можа павялічыць гэтую прастору. Я аптымістычна на гэта гляджу. У маім жыцьці цуд адбыўся.

**— Вашая творчасьць неадрыўная ад экзыстэнцыялізму. Камю і К'еркегор усё яшчэ ляжаць каля вашага ложка?**

— Перш чым пісаць Нобэлеўскую лекцыю, я прачытаў прамову Камю з гэтай нагоды. Постмадэрнізм і ягоныя спробы рэлятывізаваць рэчаіснасьць мінулі, нам ізноў патрэбны вызначаныя пазыцыі. Ізноў ёсьць попыт на літаратуру, якая сур'ёзна ставіцца да сябе.

**— Ці падобная літаратура можа выклікаць нешта большае за сублімацыю і палёгку? Ці існуе для Вас збавеньне?**

— Для збавеньня патрэбны збаўца. Пра гэта гаворыцца ў маім новым рамане. Натуральна, у герояў нічога не выходзіць. Але яны спрабавалі.

**— ...адшукаць шчасьце?**

— Ці пазбавіцца, вызваліцца ад Аўшвіцу.

**— Свабода ад Аўшвіцу?**

— Свабода ад Аўшвіцу для таго, хто прайшоў праз яго. Катарсыс. Збавеньне ж ляжыць паміж двума людзьмі.

**— Самотная душа ня выратуецца?**

— Не. Патрэбнае каханьне.

**— Мужчына й жанчына — пачатак і канец сьвету. Апошняя Вашая кніжка — гэта раман пра каханьне?**

— Раман пра каханьне.

**— У Вас яшчэ засталіся нявыкананыя жаданьні?**

— Усе мае жаданьні ажыцьцявіліся.

**— Калі б можна было пачаць усё спачатку, Вы зьмянілі б нешта ў сваім жыцьці?**

— Я не хацеў бы мяняць свайго мінулага. Я пражыў цудоўнае жыцьцё.

**— Вы не хацелі б пазбавіцца ад Аўшвіцу?**

— Аўшвіц — самае вялікае маё багацьце. Незабыўная блізіня сьмерці. Ніколі жыцьцё не было такім файным, як у той даўжэзны момант.

**"Аўшвіц — маё багацьце. О, незабыўная блізіня сьмерці!"**

**Пераклад паводле *"Die Zeit"***

# Аўтограф Багдановіча

**Сучасьніца Максіма Багдановіча Зоська Верас — у дзявоцтве Людвіка Сівіцкая — вельмі даражыла ўсім, што было зьвязана ў яе зь імем аўтара славутага "Вянка". Яна праз гады захоўвала ў сваім архіве малюпасенькую Максімаву алоўкавую цыдулачку, якую той напісаў у 1916 г., падчас гульні менскай беларускай моладзі ў пошту на прыватнай кватэры. У той цыдулцы гаварылася: "Сягоньня я пачую неяк "мая нешчасьлівая дзевачка" і думаю ўвесь вечар аб гэтым, але жывём мы, як чужыя людзі, і ні да чаго дадумацца ня можна".**

Цыдулка напісаная ўсяго на васьмушцы звычайнага сшыткавага аркуша ў клетку. Але колькі ў ёй Максімавага болю! Шчымлівага, незразумелага, блізкага да трагедыі.

"Жывём, як чужыя". Некалі я спрабаваў расшыфраваць згаданыя словы з Зоськаю Верас. Яна мне тады тлумачыла, што з маладых гадоў не дачувала і яе маці бедавала ад гэтага. От аднаго разу Максім і пачуў гэтае яе бедаваньне: "Мая бедная дзевачка!" Яно моцна засела ў Максімава сэрца, і ён пакутаваў, пачаў думаць пра гэта.

І от пры нагодзе я ня вытрымаў, пацікавіўся, што значаць і гэтыя словы — "мая бедная дзевачка" — і чаму між імі такія халаднаватыя стасункі. Пані Людвіка трошкі сумелася. Дый ня дзіва! Гэтулькі мінула часу! "І ўжо я ня памятаю, што я на гэтую Максімаву цыдулку адказала. Мусіць, пастаралася супакоіць яго, разьвеяць самотныя думкі..." — "Таксама праз цыдулку?" — паспрабаваў удакладніць я. "Не, мусіць, так... Падышла да яго пры канцы вечарыны".

Нібыта ўсё растлумачана, зразумела. І ўсё ж Максімавы словы "жывём, як чужыя" не даюць спакою. Думаецца, тут было трохі штось іншае.

Максім, як вядома, хварэў на сухоты. Зоська Верас адну пару жыла з Максімам пад адной страхой, і гэта трывожыла Зосьчыну матулю. Яна, натуральна, турбавалася за здароўе сваёй дачкі. От тады ў яе і вырвалася гэтае "Мая бедная дзевачка!" і даляцела да Максімавых вушэй.

Малюпасенькую Максімаву запісачку пані Людвіка зьберагала праз гады. Тая запісачка вандравала з Зоськай Верас усюды, дзе яна толькі ні жыла: зь Менску — у Горадню, з Горадні — у Вільню. На схіле гадоў спадарыня Людвіка перадала тую Максімаву цыдулку Багдановічаваму музэю. Здавалася, Максімаў аўтограф патрапіў у надзейныя рукі. Але вось аднаго разу, падчас якойсьці музэйнай пературбацыі, згаданы аўтограф страціўся. Ад такой весткі нічога не заставалася, нібы толькі войкнуць, як ад вялікага болю. Адно добра: Лявон Луцкевіч зрабіў колькі фатакопіяў аўтографу. Адну копію Зоська Верас ахвяравала мне, і цяпер я ўглядаюся ў яе, чытаю-перачытваю, удумваюся ў сэнс Максімавых словаў, імкнуся ўявіць іх гісторыю, гаму Максімавых пачуцьцяў, іх вытокі.

На Багдановічавых чытаньнях у Горадні было прапанавана згаданы тут Максімаў аўтограф лічыць за верш. Мо на верш і ня цягне, але на эпістальярную нататку — дык так. Яе варта ўключыць у поўны збор твораў Максіма Багдановіча. За радкамі Максімавай цыдулкі — стан ягонай душы, якоесь маўклівае душэўнае непаразуменьне з блізкімі і дарагімі яму людзьмі.

**Уладзімер Содаль**


Сягоньня я пачую,
неяк "мая нешчась-
лівая дзевачка" і
думаю ўвесь вечар
аб гэтым, але
жывём мы, як
чужыя людзі, і
ні да чаго дадумац-
ца ня можна.

# Радоўка радка на парнаскіх пашах

**Неўзабаве пабачыць сьвет анталёгія беларускай паэзіі XX ст. "Краса і сіла". У яе ўлучаныя творы 358 паэтаў. Пра кнігу распавядае ўкладальнік Міхась Скобла.**

Летась на гарышчы роднай хаты адшукаў я сваю першую анталёгію — вучнёўскі сшытак вершаў, назьбіраных па школьных падручніках ды зборніках. Былі там і "Зорка Вэнэра", і "Мой родны кут", і "Анчар", і "Чорны чалавек". У студэнцкія гады я складаў адразу некалькі тэматычных анталёгій — адна зь іх, "Сымбалі волі", увабрала ў сябе з паўсотні вершаў пра бел-чырвона-белы сьцяг і Пагоню. Як і папярэдняя, яна засталася ў рукапісе. У час, калі тыя сымбалі зьнялі зь дзяржаўных флягштокаў, але іншадумства ў афіцыйных СМІ яшчэ дапускалася, я пасьпеў на радыё зрабіць з дваццаць перадачаў, прысьвечаных паэтам 20—30-х. Пасьля ў "Звяздзе" мне прапанавалі весьці паэтычную рубрыку. Штосуботы на газэтных старонках зьяўлялася па адным вершы. Вышукваючы іх, я прачытваў і зборнічкі, і зборы твораў, знаходзіў яшчэ сёетое, ксэракапіяваў. Са зьмесьціва трох грубых папак, патроху нацяганых з Нацыянальнай бібліятэкі, склалася анталёгія.

Найбольш клопату было з пачаткам XX ст. Бо XIX-е завяршылася сьмерцю Ф.Багушэвіча, які, відаць, забыўся перадаць сваю дудку вартаму наступніку. Я рызыкнуў пачаць анталёгію з Старога Ўласа. Я.Купала — дэбютант 1905 г. — не пакрыўдзіцца, пабачыўшы перад сабой паэта, старэйшага на сямнаццаць гадоў. І другая паважная прычына не сердаваць ёсьць: менавіта Стары Ўлас пазнаёміў песьняра з будучай жонкай.

У анталёгію трапілі ня ўсе сябры Саюзу пісьменьнікаў. Няма тут паэткі, якая ў 30-я пісала то вершы, то даносы, стварыла паэму "Чэка" і аднаму Сталіну прысьвяціла дзесяць вершаў. Няма паэта зь Беласточчыны, які прысвоіў чужыя творы. Плягіят — хвароба заразная. Так, радок "едзе восень на рабым кані", напісаны ў 1943 г. А.Астрэйкам, трапляўся мне на вочы яшчэ тройчы ў розных паэтаў. Ня трапілі ў анталёгію прадстаўнікі бурапеннай эпохі П.Шукайла і Я.Бобрык, паэты-ксяндзы Я.Быліна і В.Адважны, заходнебеларускія змагары А.Мілюць і П.Граніт... Іх творам знойдзецца месца ў іншых анталёгіях. Сваю ж я ўкладаў на свой густ, з сваім адчуваньнем красы і сілы, імкнуўся даць найпаўнейшую панараму беларускай паэзіі XX ст. Стагодзьдзя ня толькі "вэртыкальнага ўзьлёту паэзіі" (азначэньне А.Сідарэвіча), але і паэзіі, падбітай на ўзьлёце. Дзень 29 кастрычніка 1937 г., калі ў менскай турме былі расстраляныя дваццаць пісьменьнікаў, павінен значыцца ва ўсіх гісторыях сусьветнай літаратуры. І да таго, і пасьля паэтаў стралялі па адным, як Гумілёва ці Лёрку, а тут — масавы мэтанакіраваны адстрэл. Беларускім паэтам Парнас быў прыступкай на Гальготу, вышэйшай за якую ў сьвеце нічога няма.

358 біяграфічных прадмовак, зьмешчаных у анталёгіі, ня варта ўспрымаць як даведачныя — там няма поўнага жыцьцярысу і бібліяграфіі, дый суб'ектыўныя яны часам. Біяграфіі паэты пішуць сабе самі — сваімі ўчынкамі ці іх адсутнасьцю, адчайным поклічам *de profundis* ці згодніцкім маўчаньнем... Ва ўсе часы існавала спакуса прысесьці на калятронным зэдліку, падсюсюкнуць ямбам і чакаць, калі "поўны гусьлі насыплюць дукатаў".



За час падрыхтоўкі анталёгіі на маім стале й падлозе назапасіліся цэлыя радовішчы вершаў. Нават паліглёт з Новасібірску А.Мусорын, які піша расейскай, ангельскай, кітайскай, польскай, баўгарскай, эстонскай мовамі, а таксама эспэранта і лацінай, даслаў колькі беларускіх хоку, адным зь якіх мне хочацца падзяліцца з чытачамі: "На пялёстках асеньняй позьняй ружы не растае апошні сьнег". Няблага для чалавека, які вывучыў мову праз Інтэрнэт. Былі і кур'ёзы. Паэтфрантавік, даведаўшыся, які ягоны верш адабраны для анталёгіі, даслаў новы варыянт апошняй страфы. Я заўважыў, што не супадаюць паэтычныя памеры і... атрымаў даручэньне "падагнаць" верш пад тую, невядома зь якой курасадні зьляцелую, страфу.

А.Сідарэвіч наракае, што беларускім паэтам у XX ст. давялося займацца тым, чым французы займаліся ў XVI: услаўленьнем мовы і радзімы. Але, не пакідаючы "плачу аб старонцы", беларусы з парады М.Багдановіча не забываліся падзівіцца, "як глядзіцца сонца ў люстэрка — месяц залаты". На першае месца ў назьве анталёгіі пастаўленая краса.

Ваяўнічае, рэвалюцыйнае, дыктатурнае, касьмічнае, чарнобыльскае XX ст. адышло ў гісторыю. Заслона апусьцілася. Час зьбіраць камяні на парнаскіх пашах, дзе паэты пад наглядам Найвышэйшага Пастыра сто гадоў адбывалі радоўку радка.

**Міхась Скобла**

## новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

**Башура М. Паліваньне на мух (са шлянгу).** — Масква—Санкт-Пецярбург: Неўскі Прастор, 2002. — 64 с.: іл. (Бібліятэка "Бум-Бам-Літу")

Міхась Башура — адзін з "слупоў" творчага руху "Бум-Бам-Літ", вядомы па асобных публікацыях ды па ўдзеле ў пэрформансах.

**Беларуская міталёгія:** Дапаможнік / Уклад. У.Васілевіч. — Менск: Унівэрсытэцкае, 2002. — 208 с.

Гэты даведнік — зьмястоўная крыніца інфармацыі пра выгляд ды функцыі шматлікіх багоў і мітычных істотаў беларускага паганскага пантэону. Матэрыялы кнігі добра сыстэматызаваныя й адмыслова падбіраліся з самых значных этнаграфічных дасьледаваньняў ад XIX ст. улучна (Кіркор, Нікіфароўскі, Сержпутоўскі, Федароўскі, Шпілеўскі, Шэйн і інш.). Кніга дазваляе яскрава ўявіць, якімі, паводле веры нашых продкаў, былі Пярун, Вялес, Ярыла й іншыя адказныя за дабрабыт, здароўе ды ўраджай асобы. Знайсьці кнігу можна ў буйных кнігарнях, кошт яе — блізу 4 тысячаў.

**Белы А. Боскі вецер правінцыі:** Вершы, эсэ. — Берасьце: Вежа, 2002 — 64 с.




У перакладзе на японскую мову "боскі вецер" азначае ня болей ня меней як "камікадзэ". На кожнай старонцы чацьвёртага па ліку зборніка вершаў Аляксея Белага — да болю знаёмыя рэаліі сёньняшняй неўладкаванай Беларусі.

**Біблія: Пяцікніжжа** / Перакл. з лац. У.Чарняўскага. — Менск: Юніпак, 2002. — 250 с.

Пабачылі сьвет Старазапаветныя кнігі Роду, Выхаду, Сьвятарская, Лічбаў, Паўторанага Закону, перакладу якіх на беларускую мову ўсё сваё жыцьцё прысьвяціў ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі. Беларускамоўную Біблію можна прыдбаць у кнігарнях "Цэнтральная", "Сьветач", а таксама на выставе ТБМ.

**Бурсаў А. Дзівін: Граняслоўі 1995–2002 г.**: З захаваньнем art'аграфіі аўтара. — Менск, 2002. — 152 с.: іл.

Гэтая кніга дзівіць і насьцярожвае сваёю моваю. Словы тут — нібыта вострыя каменьчыкі на сьцяжыне, па якой ідзеш басанож. Нечакана шчыльнае суседзтва н准ватвораў, гістарызмаў, дыялектызмаў, прафэсіяналізмаў ды слэнгу падсьвечваецца рэзкім нэонавым сьвятлом гукавой гульні. Знайсьці "Дзівін" можна на выставах у ТБМ ды БНФ.

**Гніламёдаў У. Янка Купала:** Жыцьцё й творчасьць. — Менск: Беларуская навука, 2002. — 238 с.

Жыцьцяпіс і агляд-аналіз асноўных твораў паэта, выдадзены да 120-годзьдзя.

**Дамейка І. Мае падарожжы** / Перакл. з польск. мовы й камэнт. З.Сіцькі; Прадм. К.Цьвіркі. — Менск: Беларускі кнігазбор, 2002. — 496 с.: іл. (Беларускі кнігазбор; Сэр. II. Гісторыка-літаратурныя помнікі)

21-ы том "Беларускага кнігазбору" — чарговае ўнікальнае выданьне з "залатое бібліятэкі" Беларусі. Гэтая кніга яшчэ ў XIX ст. была перакладзеная з гішпанскай на мноства іншых моваў, але толькі цяпер у поўным аб'еме зьявілася па-беларуску. Набыць яе можна ў большасьці менскіх кнігарняў.

**Лозка А. Беларускі каляндар у славянскім і эўрапейскім сьвеце:** Манаграфія. — Менск: БДПУ, 2002. — 120 с.

Накладам у 100 асобнікаў выйшла дасьледаваньне, дзе ўпершыню зробленая спроба рэканструяваць паганскі каляндар славянаў і вызначыць месца традыцыйнай спадчыны беларусаў у кантэксьце эўрапейскіх каляндарных абрадаў.

**Мінскевіч С. Мінскія / Менскія санэты.** — Менск: Логвінаў, 2002. — 64 с.

Санэты Сержа Мінскевіча – важкі аргумэнт на карысьць таго, што Менск не такі ўжо апаэтычны горад, як цьвердзяць многія. Знаёмыя будыніны, вуліцы, шараговыя й нешараговыя жыхары сталіцы набываюць у сьвятле паэтычнага ўяўленьня новае аблічча. Болей даведацца пра аўтара дазваляюць зьмешчаныя ў зборніку прадмова Інэсы Кур'ян ды "пасьлямова" Андрэя Хадановіча.

**Ненадавец А. Сілаю слова: Чорная й белая магія.** — Менск: Беларусь, 2002. — 350 с.

У новай кнізе дасьледніка беларускае міталёгіі й вуснай народнай творчасьці пададзены матэрыял, які прыадчыняе дзьверы ў таямнічы й небясьпечны сьвет чараўнікоў, варажбітоў ды знахароў. Вера ў надзвычайную моц слова сталася аб'ектам аналізу. Вынікі яго аўтар выклаў у захапляльнай форме, падмацаваўшы вялікаю колькасьцю прыкладаў уласна слоўнае магіі.

У "Кнігарні пісьменьніка" кніга каштуе каля 4 тыс.

**Рэфармацыя і залаты век Беларусі:** Матэрыялы навук.-практ. канфэр.; Менск, 1 чэрв. 2002 г. / МГА "Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына"; Уклад. С.Акінчыц. — Менск: Беларускі кнігазбор, 2002. — 96 с.

Матэрыялы зборніка асьвятляюць пытаньні гісторыі, сучаснасьці й пэрспэктываў рэфармацыйнага руху ў Беларусі. Удзел у канфэрэнцыі бралі Адам Мальдзіс, Анатоль Грыцкевіч, Алег Трусаў, Уладзімер Конан, Павал Севярынец ды іншыя навукоўцы й прыхільнікі пратэстантызму. Знайсьці кнігу можна на выставе ва ўправе БНФ.

**150 пытаньняў і адказаў з гісторыі Беларусі** / Уклад. і прадм. З.Санька, І.Саверчанка. — Вільня: Наша Будучыня, 2002. — 238 с.: іл.




Выйшла з друку густоўна аздобленае, прыбранае ў цьвёрдую вокладку перавыданьне ці не найбольш папулярнай у пачатку 1990-х кнігі па гісторыі Беларусі. Першае выданьне "100 пытаньняў і адказаў" зьявілася ў 1993 г. Новае выданьне больш падрабязна асьвятляе пэрыяд бальшавіцкага панаваньня ў Беларусі, у прыватнасьці — вызвольны рух, усталяваньне й функцыянаваньне таталітарнае сыстэмы, рэфармаваньне беларускае мовы.

**Толкін Дж.Р.Р. Хобіт, або Вандроўка туды й назад** / Перакл. з ангельск. К.Курчанковай і Д.Магілёўцава. — Менск, 2002. — 264 с.

Сусьветнавядомая Пунцовая кніга Заходняга Краю па—беларуску.




**Тры грацыі:** Галасы здаля й зблізу: Зборнік паэзіі. — Санкт-Пецярбург, 2002. — 110 с.

Зборнічак "жаночае" паэзіі ўключае творы трох аўтарак: Ніны Мацяш (вянок санэтаў "Бабіна лета ў Белаазерску"), Аўгіньні Кавалюк (нізка вершаў "Повязь") ды Антаніны Хатэнкі ("Птушыны шлях"). Пытайцеся на кніжнай выставе ў ТБМ.

**Чаропка В. Уладары Вялікага княства.** — 2—е выд., дапоўн. — Менск: Беларусь, 2002. — 608 с.

Расповед пра жыцьцё й дзеі Кастуся Астроскага, Мікалая Радзівіла Рудога, Лява Сапегі, Яна Хадкевіча, Януша Радзівіла ды іншых выбітных постацяў беларускае мінуўшчыны. Першае выданьне "Ўладароў" зьявілася ў 1996 г. і сустрэтае было надзвычай прыхільна. Шукайце ў "Акадэмкнізе", "Цэнтральнай", "Сьветачы", "Кнігарні пісьменьніка". Цана — каля 6 тысячаў.

**Календарь 5763:** Справочник / Иудейское религиозное объединение. — Менск: Энцыкляпэдыкс, 2002. — 168 с.: іл.

Выхад з друку гэтага кішэннага даведніка засьведчыў пачатак новага 5763 г. ад стварэньня сьвету. У зборніку апроч юдэйскага календара-штодзёньніка зьмешчаныя сьвятарныя тэксты, малітвы, апісаньні габрэйскіх звычаяў ды іншая інфармацыя, каштоўная для беларускіх габрэяў, якія трымаюцца сваёй веры й захоўваюць нацыянальныя адметнасьці.

**Литературная классика в диалоге культур:** Тезисы к Междунар. научн. конфер., посвященной 120-летию Я.Купалы и Я.Коласа; Москва, 23 окт. 2002 г. — Масква: Картгеацэнтар, 2002. — 100 с.

З ініцыятывы маскоўскага беларуса Аляксея Каўкі пры Інстытуце сусьветнай літаратуры Расейскай акадэміі навук адбылася Міжнародная канфэрэнцыя, на якой творчая спадчына селетніх беларускіх юбіляраў разглядалася ў сьвятле міжлітаратурных сувязяў ды ўплываў. Наклад кнігі — 100 асобнікаў.

**Падрыхтавала Тацяна Вабішчэвіч**

## Беларуская бібліятэка імя Ф.Скарыны ў Лёндане

шукае наступныя публікацыі: **Весці Акадэміі навук Беларусі** (Сэрыя гуманітарных навук), №4'1995; **Веснік БДУ** (Сэрыя III), №1, 2'1970, 3'1995, 3'1996; **Веснік БДУ** (Сэрыя IV), №3'1995, 3'1996; **Беларуская мова і літаратура ў школе**, №3'1998; **ARCHE**, №1'1998, 5'2001; **Беларуская думка**, 5'1998, 3'1995, 3'1996; **Фрагмэнты**, №5, 6; **Полымя**, №1'1992, 4'1996, 10'1997, 11'1998; **Маладосць**, №1, 10'1992, 10—12'1995, 4'1996; **Крыніца**, №11, 12'1993, 10(47)'1998, 11/12(57)'1999; **Мастацтва** №9, 10'1994, 1'1995, 7, 9'1996, 1'1999, 9'2001; **Беларусь**, №5'1993, 4, 10—12'1996, 1, 2'2001; **Народная асвета**, №2'1990; **Роднае слова**, №3, 6'1997, 2'1999, 4'2001; **Байрам**, №1'1992, 4'1992 і ўсе наступныя да 1999 г.; **Бібліятэчны свет**, №3, 4'1997, гадавік 1998, 1—3'1999, 3'2000; **Вясёлка**, №1, 2, 4, 6'1992, 11'1996, 4, 11'1997; **Altanka**, №1'1999, 7, 8'2000; **Магілёўская даўніна**, №1, 2, 4, 8 і ўсе пасьля №9; **Бярозка**, 1—8'1968, гадавікі 1960—67; **Кур'ер**, №1'2000, 2, 3'2001.

Адрас: Belarusian Library, 37 Holden Road, London N12 8HS, England/Ангельшчына.
e-mail: belarusianlibraryinlondon@yahoo.com, www.skaryna.cjb.net

пілярама аналітычная

# Японскі пасол

**Сёньня Змагар нябачнага фронту, апазыцыйны палітык Лабэцька, Чэсны Журналіст, ініцыятар разнастайных рэфэрэндумаў Яр.Ашук і праваслаўны літаратар Касьцям разважаюць пра ўчынак беларускага пасла ў Японіі ды іншыя балючыя і важныя для грамадзтва тэмы.**




Ці ня зьніклага беларускага палітыка чакаюць у менскім аэрапорце міністар М.Хвастоў (справа) і пасол Беларусі ў Кітаі Ул.Русакевіч?

**Змагар:** Вяртаюцца сталінскія часы! Антынародны рэжым ахапіў сваімі чорнымі кіпцюрамі ўсю плянэту! У Токіё зьнік беларускі палітык!

**Касьцям:** Надалей будзе навука! Нашлі каго пасылаць! Увіду неблаганадзейнасьці краіны, туды цяпер трэба выправіць каго-небудзь асабліва адказнага — пажадана вайскова-патрыятычнага. Вось, напрыклад, даўно сядзяць бяз працы генэрал Акалец і палкоўнік Залятанін.

**Змагар:** Гэтыя не пагодзяцца. У Японію ж трэба праз Расею ехаць. А ў Расеі іх яшчэ до-обра памятаюць...

**Чэсны Журналіст:** Ды не абавязкова каб быў вайсковец! Вунь Казулін прафэсар, а яго ў ААН прызначылі Беларусь прадстаўляць. Не баяцца, што ўцячэ з усім унівэрсытэтам.

**Яр.Ашук:** Дарэчы, пра Расею. Мне здаецца, што нашым паслом у Японіі мог бы зрабіцца адзін з думскіх дэпутатаў — хто-небудзь з фракцыі "Ядзінства" ці СПС-у. Я на месцы Гаранта Канстытуцыі проста спытаўся б у Пуціна — той лепей разьбіраецца ў нашай міжнароднай палітыцы.

**Чэсны Журналіст:** Вы, калега, пакуль не на месцы Гаранта Канстытуцыі.

**Касьцям:** І ўвогуле, не разумею, як можна прамяняць менскі "Лістапад" на гнюсны амэрыканскі фаст-фуд? Каб я быў дзе за мяжой у гэты час — на крылах прыляцеў бы! Каб толькі быў дзе за мяжой... Каб жа нас, праваслаўных літаратараў, куды запрашалі...

**Лабэцька:** А я вунь колькі па заграніцах ні езьдзіў — і ў Брусэль, і ў Маскву, — заўсёды вяртаўся. І не на які-небудзь "Лістапад", а проста таму, што я — патрыёт сваёй радзімы і бачу яе шчасьлівай і незалежнай, але аб'яднанай з Расеяй на прынцыпах Эўразьвязу!

**Чэсны Журналіст:** Вы гэта да чаго?

**Лабэцька:** А... проста так...

**Яр.Ашук:** А мне здаецца, што гэтыя ўцёкі — сыгнал да блізкіх зьменаў у беларускім грамадзтве. Хутка палятуць галовы і закруцяцца гайкі! Пакуль ня позна — яднаймася з Ра...

**Касьцям:** Так! Так! Гэта сыгнал! Гэта знак зь нябёсаў! Адны мы засталіся праваслаўныя ў аблозе масонскага сьвету! Зачынімся й нікога нікуды ня пусьцім — на халеру нам розныя паслы ды місіі АБСЭ! У нас свая місія!

**Змагар:** Місія? А мэсія ці ёсьць? Мо той, што бяз чэскае візы сядзіць, адрынуты ўсім цывілізаваным сьветам?

**Касьцям:** Ну і няхай сядзіць! Мы і яго нікуды ня пусьцім. Нават у Партугалію. Не хапала, каб ён там палітычнага прытулку папрасіў.

Але тут патэлефанавалі зь Міністэрства ўнутраных справаў і сказалі, што, калі аналітыкі ня сьціхнуць, палітычнага прытулку давядзецца прасіць камусьці іншаму.

**Аддзел аналітыкі**

# Сабачыя гісторыі



**Адзін сабака выправіў** другога паслом у чужую краіну. А той пераапрануўся ў Граждана і, прыхапіўшы з сабой адзіяла, падушку і зубны парашок, зьнік у невядомым кірунку.

**Адзін сабака паехаў** паслом у Этыёпію. Ля трапа самалёта яго сустрэў Граждан і пацікавіўся: "За што вы майго Пушкіна ўтапілі, як сабаку Паўлава?"

**Аднаго сабаку зрабілі** паслом у Зымбабвэ. А той пераапрануўся ў Граждана і пачаў агітаваць дзікіх абізьян за сьветлую будучыню.

**Адзін сабака захацеў** паглядзець тэлевізар. Уключыў і бачыць: Граждан, што быў паслом у Амэрыцы, распавядае, як там нэграў лінчуюць.

**Аднаму сабаку Граждан** распавядаў пра паслоў: "Жывуць яны ў сямі пакоях, маюць па сорак штаноў, а я тут па сьметніках капаюся. Трэба іх сабраць, усё паадбіраць і разьдзяліць, як пры савецкай перамозе!"

**У Варшаве адзін сабака** выйшаў з пасольства — паглядзець на горад. Граждан пабачыў і перадаў куды трэба, што сабака працуе на "Чатырох танкістаў" і езьдзіць зь імі на танку ў бардэль.

**Адзін сабака быў** паслом на Кубе. Выйшаў ён у горад, а да яго раптам падбег чорны Граждан з чайнікам: "Хто Леніна відзеў? У штаб бочку сьпірту прывезьлі!"

**В.А.**

## дзе варта быць

### Супкультура

**7—8 сьнежня ў менскім цэнтры культуры "Юнацтва" (вул.Фабрыцыюса, 5) пройдзе трэці фэстываль незалежнага мастацтва з іранічнай назвай "Супкультура".** Прапанаваны публіцы "супавы набор" будзе ўключаць некалькі дзясяткаў музычных гуртоў, пэрформэраў ды літаратараў. Спаміж апошніх — Андрэй Хадановіч, Віктар Жыбуль. Пачатак а 17-й. Уваход вольны.

**Г.С.**

### Стахіевіч у Гомелі

**19 сьнежня, у чацьвер, у Гомельскім каледжы мастацтваў імя Сакалоўскага адбудзецца сольны канцэрт піяніста і аўтара "НН" Віталя Стахіевіча.** У праграме: Чакона рэ-мінор Ё.С.Баха ў апрацоўцы Ф.Бузоні, Шэсьць музычных момантаў Ф.Шубэрта й Саната сі-мінор Ф.Ліста. Пачатак у 18.30. Уваход вольны.

### Вольныя танцы

**Клюб "Акварыюм" 7 сьнежня запрашае на фэст "Вольныя танцы" з удзелам "Крамы", "Імпэту" ды гурту "Partyzone"** — прызёра сёлетняга "Басовішча", які прэзэнтуе слухачам свой альбом "Трэба рабіць". Пачатак а 18-й. Квіток каштуе 4 тыс. рублёў.

**Б.Ма**




Гурт "Імпэт"

## прыватныя абвесткі

### віташьні

**Паша Мажэйка** і Мікола Маркевіч, трымайцеся! Гэта ўжо ня хімія — гэта гісторыя Беларусі. Браты з МФ

**Калі толькі раўсьці** "беларускае слова ў поўны голас" ды больш нічога не рабіць, то можна "лідэра нацыі" з Варшавы не дачакацца — Лукашэнка маладзейшы. Мітрафан Доўнар-Зарасейскі з Рэчыцы

**Алаг Акбар**, Алаг Керым. Беларус-мусульманін

**Беларусы**, яднайцеся! Адзін за ўсіх, усе — за аднаго! У гэтым Душа і Сэнс Беларускай Нацыянальнай Ідэі. Пётра Касьцюковіч

**Ягорава Алеся** віншую з народзінамі. Посьпеху і спрыту ў справах і спаборніцтвах. Алесь

**Тарасава Алеся** віншую з Днём народзінаў! Трымайся... Мы яшчэ сустрэнем Дзеда Мароза перад вёскай! Лякс

**Алесю**, віншую цябе і зычу быць добрым абаронцам краіны ад тых, ад каго варта яе бараніць. І бяз плямаў на вопратцы! Памочнік Дывэрсанта

### ідэі

**Сапраўдная Незалежнасьць** — гэта калі людзі вераць у Бога і любяць Беларусь. Нацыянальная ідэя

**Мой падарунак** — рэклямны слоган. Ты беларус? Дык падпісвайся! Пікулік В.

**Пакайцеся** і верце ў Ісуса Хрыста — тады збавіцеся вы і ўся краіна. Бог вас любіць. Браты з МФ

**Хто мову згубіў**, той прадаў Беларусь, а хто прадаў Беларусь, той прадаў і душу. Збаўца

**Кацярынка** і Лялечка!!! Вы — найлепшыя сяброўкі! PS: Ня хочаце на "KIM"? 5P.Hanna

**"Наша Ніва"** — легенда ператварылася ў міт?

**Усім вадалівам** прапаную сваю Эру пырскаць лепш недзе ў Сахары ці Каракумах! Дарэчы, Сапармурад ці Муамар за гэта Вам грошы заплацяць! Аматар Сонца і Чыстага Неба

**Самая сучасная** распрацоўка спэцслужбаў — псыхатропная зброя. Супрацьстаяць немагчыма!!! А можа, магчыма? Як? Адказ на www.deir.org

**Вітаўту І.** з Гомелю. Па-першае, прывітаньне. Па-другое, нельга верыць у тое, што А.Р. ашукае/перайграе сябе настолькі, каб зьдзейсьніць Вашыя й Нашыя спадзяваньні. Mikita z IB

**Спадар Мікола Нязломны!** Калі гэта вы тэлефануеце на "Голас Амэрыкі", дык пытайце ў іх не пра іхняе стаўленьне да асобы Лукашэнкі, а лепей аб тым, як ЗША, якія зьяўляюцца гарантам незалежнасьці Беларусі, гэтую незалежнасьць абароняць, калі што! Слухач

### кантакты

**Мянчук** (41/170/53) з в/а, бяз шк/зв. Пазнаёмлюся з жанчынай, ня схільнай да паўнаты, бяз шк/зв, шчырай, хатняй. Магчымае стварэньне сям'і. А/с 6, 220012, Менск

**Калі ў вас** таленавітыя дзеці — тэлефануйце: 264-81-07, факс 264-81-82. TV-БТ "Не зявай!"

**Кожны аўторак** у 18.00 каля помніка Купалу (насупраць цырку) сустрэчы патрыётаў-нацыяналістаў БПС

### кнігі, музыка

**Прадам кнігу** Васіля Быкава "Пахаджане", кнігу Зьмітра Бартосіка "Чорны пісталет" і кнігу Алеся Пашкевіча "Пляц Волі". Т.: 254-77-59 (Аляксей)

**Новы погляд** на паходжаньне Русі, гісторыю Беларусі ў часопісе "Гістарычная Брама". Можна набыць у берасьцейскай кнігарні "Іскра" і менскай "Акадэмкнізе"

**Набуду** зб. тв. У.Караткевіча ў 8 т. Т.: 32-0-51 (суб., нядз.). Маладэчна

### праца

**Ангельская мова:** пераклады, індывідуальныя заняткі для маленькіх і дарослых, кантрольныя работы. Студэнтка МДЛУ, 4 курс. Пэйдж.: 211-85-85, аб.29116

**Хімія**. Дасьведчаны настаўнік. Магчымыя індывідуальныя заняткі. Т.: 223-88-76



## паштовая скрынка

**Юр'ю Ф. з Гомеля.** Пра сьнежань — пуставата. Замала зьвестак.

**Зьмітру Ч. з Горадні.** Тэкст пра Мілавідзкую бітву нагадвае энцыкляпэдычны артыкул або цытату з падручніка. Для газэты трэба пісаць жывей.

**Настасьсі М., IS. зь Менску.** Вашыя "Сабачыя гісторыі" стылёвыя, але ім не стае лякамічнасьці, ад чаго думка расплываецца. Хоку не бывае 16-радковым, гэтак і "Сабачыя гісторыі" не бываюць доўгімі.

**Уладзю Г. зь Віцебску.** Вобраз галоўнага героя ў апавяданьні "Фін" недастаткова выпісаны.

**Сяргею П. зь Менску.** У вашым артыкуле пра тэатар багата сьцьверджаньняў і абвінавачаньняў, не пацьверджаных доказамі. Шмат таксама патэтыкі й агульных месцаў.

**Віктару К. зь Менску.** Мы ня можам надрукаваць Ваш адказ на артыкул, які Вы лічыце абразьлівым для З.Пазьняка, бо ён друкаваўся ня ў нашай газэце. Зьвярніцеся шчэ раз у "Народную волю", мо не з эмацыйным лістом ужо, а з спакойным артыкулам. Тады яны не павінны адмовіць.

НАША НІВА — КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (не больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________




незалежная газэта

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары "Нашай Нівы":**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| выпускны рэдактар | Сяргей Ёрш |
| карэктар | Сяргей Петрыкевіч |
| карэктарка | Галіна Рабянкова |
| нам. галоўнага рэдактара | Андрэй Скурко |
| мастацкі рэдактар | Андрэй Чык |
| выдавец і заснавальнік | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, (0296) 13-32-32.**
**E-mail: nn@promedia.by**
**www.nn.by**



8 палос фарматам А2. Друкарня РУП "Выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 2002 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: г. Менск, вул. Калектарная, 20а, п. 2а.

Наклад 3901.

Нумар падпісаны ў друк 6.12.2002.

Замова № 8337.

Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а